# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 (74) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2016 г.



***Вітольд Пілецкі (13.05.1901 - 25.05.1948), уладальнік маёнтка Сукурчы пад Крупавам, выбітным брытанскім гісторыкам прафесарам Майклам Футам аднесены да шасці найбольш адважных герояў 2-й Сусветнай вайны***

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 2 ( 74 )** **КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ** **2016 г.**


## У НУМАРЫ:



На першай старонцы выкладкі знак “Нулявы кіламетр” у Лідзе. Аўтар Рычард Груша. *Здымак С. Судніка.*


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2760.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2016 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.11.2016 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 12300 руб.**
**індывід. 6 мес. - 24600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792










**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

# Афіцыйная беларускамоўная адукацыя на Лідчыне пачыналася са Зблянаў

***"Афіцыйнай беларускай школе на Лідчыне - 100 год"*** *- менавіта так гучала тэма навукова-практычнай канферэнцыі "IV Лідскія чытанні", якая адбылася 27 красавіка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы, і на якую былі запрошаны гісторыкі, краязнаўцы, музейныя работнікі, настаўнікі, метадысты, навучэнцы. На працягу трох гадзін гаворка вялася не толькі аб гісторыі беларускай школы ў нашым рэгіёне, але і ўвогуле аб гісторыі ўстаноў адукацыі на Лідчыне.*



***Адкрывае чытанні дырэктар бібліятэкі А.М. Мартынаў***

Аб перадумовах і пачатку беларускамоўнай адукацыі ў Беларусі і на Лідчыне ў прыватнасці расказаў у сваім дакладзе краязнавец, паэт, рэдактар часопіса "Лідскі летапісец" **Станіслаў Суднік**. Ён падкрэсліў, што ўсе тры першыя беларускамоўныя кнігі для школ, якія выйшлі ў 1905-1906 гг. - два буквары ("лемантары") і "Першае чытанне для дзетак беларусаў" - былі створаны аўтарамі, якія мелі прамое дачыненне да Лідчыны. Так, аўтар першага буквара Вацлаў Іваноўскі і аўтар "Першага чытання для дзетак беларусаў" Алаіза Пашкевіч (Цётка) - ураджэнцы Лідскага павета, аўтар другога буквара Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец) падчас напісання лемантара жыў з сям'ёй і працаваў у Лідзе. Алаіза Пашкевіч і яшчэ адна лідзянка - Сабіна Іваноўская - прымалі ўдзел і ў заснаванні ў лістападзе 1915 года ў Вільні першай афіцыйнай беларускай школы. Першай жа афіцыйнай беларускай школай на Лідскай зямлі была школа ў Зблянах, якая адкрылася на некалькі тыдняў пазней. З гісторыяй гэтай школы прысутных азнаёміў краязнавец **Леанід Лаўрэш**.



***Леанід Лаўрэш***




***Наталля Хацяновіч***

Захавальнік фондаў Лідскага гістарычна-мастацкага музея **Наталля Хацяновіч** на падставе дакументаў з фондаў музея правяла экскурс у гісторыю ўстаноў адукацыі на



***Падчас чытанняў***

Лідчыне пачатку і 1-й паловы XX стагоддзя. Аб адной з гэтых установ - жаночай гімназіі Навіцкіх у Лідзе - асобна распавёў настаўнік гісторыі Ліцэя №1 **Іосіф Залескі**.



*Іосіф Залескі*

З цікавасцю слухала аўдыторыя і даклады, якія тычыліся гісторыі асобных сельскіх школ Лідчыны: Запольскай (дакладчык - навуковы супрацоўнік гістарычна-мастацкага музея **Алесь Хітрун**), Дзітрыкаўскай (дакладчык - найстарэйшы краязнавец Лідчыны **Мікалай Дзікевіч**), Ганчарскай (дакладчык - краязнавец **Віктар Кудла**), Бердаўскай (дакладчык - настаўніца Бердаўскага НПК дзіцячы сад-сярэдняя школа **Галіна Альшэўская**).



*Алесь Хітрун*



*Мікалай Дзікевіч*



*Віктар Кудла*

Па тэме "Сучасны стан беларускамоўнага выкладання ў Лідскім раёне" выступіла метадыст аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама **Алена Ціховіч**. Алена Вацлаваўна адзначыла, што працэнт вучняў, якія вывучаюць усе прадметы на беларускай мове, на Лідчыне пакуль што невысокі. Немалаважную ролю ў гэтым пытанні адыгрывае і жаданне бацькоў (альбо нежаданне) аддаваць сваіх дзяцей вучыцца ў беларускамоўны клас. Аднак кожная школа па-свойму імкнецца папулярызаваць беларускую мову: праз Тыдні беларускай мовы, культурныя мерапрыемствы, якія тычацца беларускай культуры, святкаванне Дня роднай мовы і Дня беларускага пісьменства, сустрэчы з беларускамоўнымі паэтамі і пісьменнікамі і г. д.



*Галіна Альшэўская*



*Алена Ціховіч*

Завяршыў чытанні актор **Алег Лазоўскі** мастацкім выкананнем “Балады пра беларускую школу” Станіслава Судніка.

Усе даклады, якія прагучалі ў ходзе канферэнцыі, бібліятэка плануе выпусціць у канцы года асобным зборнікам, які будзе цікавым і карысным дапаможнікам для даследчыкаў і ўвогуле для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй развіцця адукацыі на Лідчыне, яе беларускамоўным аспектам.



*Алег Лазоўскі*




***Аляксандр Мацулевіч, здымкі С. Судніка.***

# КРОНІКА ЛІДЫ

26 і 27 траўня ў Лідзе прайшоў XII беларуска-літоўскі эканамічны форум.






У пачатку чэрвеня выйшла кніга Сяргея Астраўца "Саргасава мора".

22 чэрвеня Ірына Санкевіч узнагароджана "Ордэнам Маці".





У чэрвені Вераніка Кот з Ліды стала “Міс глядацкіх сімпатый” на “Міс Беларусь - 2016”.



4 ліпеня “Лідсельмаш” стаў трохразовым чэмпіёнам Беларусі па міні-футболу.

16 ліпеня горад Ліда атрымаў пераходны вымпел за лепшы санітарны стан горада з насельніцтвам ад 50 000 чалавек і больш.



# Лідчына ў 2015 годзе

**Даклад старшыні Лідскага райвыканкама М.К. Карповіча 19.02.2016 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным падвядзенню вынікаў эканамічнага і сацыяльна-культурнага развіцця Лідскага раёна ў 2015 годзе**



Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Падводзіць вынікі зробленага - гэта добрая традыцыя, якая дазваляе ацаніць эфектыўнасць дзейнасці за вызначаны прамежак часу, сказаць "дзякуй" тым, хто адказна падыходзіў да выканання сваіх абавязкаў, хто дасягнуў высокіх паказчыкаў у працы.

Лічу, што мы павінны ў першую чаргу бачыць і заахвочваць людзей творчых, ініцыятыўных. Тых, чые высілкі накіраваны на павелічэнне прадукцыйнасці працы, хто стварае калектыву імідж надзейнага партнёра.

Ацэньваючы вынікі 2015 года, хачу сказаць, што вы ў чарговы раз даказалі, што вам па плячы выкананне самых складаных планаў і задач. Мяркуйце самі.

Аснову эканомікі Лідскага раёна ўяўляе прамысловы комплекс, у якім занята амаль 15 тысяч чалавек ці 35% ад колькасці працоўных ва ўсіх сферах. У аб'ёмах прамысловай вытворчасці вобласці рэгіён займае амаль 11% і звыш 15% - у аб'ёмах экспарту тавараў. Гэта другое месца ў вобласці пасля Гародні. Сярэднямесячны таварны выпуск складае больш за 50 мільёнаў даляраў ЗША. 60% прадукцыі прадаецца за мяжой.

Для прамысловых прадпрыемстваў 2015 год быў складаным. Вынікі, якія мы атрымалі, нас не пацешылі.

Не дасягнуты ўзровень 2014 года па індэксу фізічнага аб'ёму прамысловай вытворчасці, экспарту тавараў і паслуг. Пагоршыўся фінансавы стан многіх арганізацый. У складаным становішчы апынуліся арганізацыі сельгасмашынабудавання.

Неабходна ўлічыць, што на выкананне шэрагу паказчыкаў паўплывала знешнеэканамічнае становішча, зніжэнне спажывецкай і інвестыцыйнай актыўнасці, змена сітуацыі ў сусветнай эканоміцы.

Аднак, трэба прызнаць, што і мы з вамі недзе не дапрацавалі - было шмат праблемных пытанняў, рашэнне якіх залежала толькі ад нас.

Але, нягледзячы на пазначаныя моманты, дзякуючы суладнай працы працоўных калектываў, у раёне маюцца і станоўчыя вынікі.

Па выніках 2015 года тэмп росту вытворчасці прамысловай прадукцыі ў дзейных цэнах склаў амаль 104%.

З 30 прамысловых арганізацый 17 нарасцілі аб'ёмы вытворчасці.

Гэта "Лакафарба", завод "Конус", "Ліцейна-механічны завод", "Харчовыя канцэнтраты", завод "Оптык", шклозавод "Нёман", "Лідахлебапрадукт", "Лідскі ветсанутыльзавод", "Мэблевая фабрыка", "Лідскі хлебазавод", торфабрыкетны завод "Лідскі", друкарня, ЖКГ, "Лідскае піва", "Белтэкс Оптык", "Эвеліда", "Ліпласт-Спб".

Павялічаны выпуск асобных відаў сельскагаспадарчай тэхнікі, радыятараў, фталевага ангідрыду, мэблі, шклопосуду, макаронаў і піва.

Забяспечаны рост практычна па ўсіх пазіцыях мясамалочных і хлебабулачных вырабаў.

Асвойваліся новыя віды прадукцыі.

"Лідсельмашам" арганізаваны выпуск ацынкаваных кантэйнераў для побытавых адкідаў.

"Харчовымі канцэнтратамі" наладжана вытворчасць паўфабрыкатаў клёцак і дранікаў.

Торфабрыкетны завод "Лідскі" ў рамках міжнароднай тэхнічнай дапамогі наладзіў вытворчасць пелет. Прадпрыемства пачало вытворчасць тарфяной сушонкі для "Краснасельскбудматэрыялаў".

"Ліпласт-Спб" для чыгункі пачаў выпуск святлафораў са святлодыёдамі.

Шклозаводам арганізавана вытворчасць шклаваты.

Па-ранейшаму прыярытэтным кірункам развіцця раёна з'яўляецца знешнеэканамічная дзейнасць.

У 2015 годзе ў 68 краін свету экспартавана тавараў на суму звыш 260 млн. даляраў ЗША.

Забяспечана збалансаванасць знешняга гандлю таварамі і паслугамі.

Асноўным рынкам збыту ў нас па-ранейшаму застаецца Расійская Федэрацыя. Але ў мінулым годзе прамысловыя арганізацыі працягнулі працу па асваенні новых рынкаў збыту:

У Туніс, Харватыю, Эквадор, Пакістан, Егіпет экспартаваны фталевы ангідрыд;

у Чылі, Новую Зеландыю, Інданэзію, Нарвегію - крыштальныя вырабы і шклопосуд;

у Палестыну і Ізраіль - пшанічная мука;

у В'етнам - пшанічныя вотрубы;

у Ірландыю - аптычныя прыборы;

у Кітай і Сінгапур - піва і безалкагольныя напоі.

З мэтай прасоўвання прадукцыі ў Кітай, Італію і Казахстан у складзе дэлегацыі Гарадзенскі вобласці прадстаўнікі райвыканкама і лідскіх прадпрыемстваў наведалі гэтыя краіны. Па выніках дасягнутых дамоўленасцей ужо ажыццяўляюцца экспартныя пастаўкі.

Прадпрыемствы раёна ўдзельнічалі ў тэндарах, выставах і кірмашах, накіроўвалі прапановы патэнцыйным спажыўцам, выкарыстоўвалі сучасныя метады маркетынгу.

Як вынік праведзенай працы - узрос экспарт прадукцыі на перспектыўныя рынкі. Удзельная вага адгрузак у Расійскую Федэрацыю скарацілася ў параўнанні з мінулым годам з 78% да 73%. Гэта значыць, што нашы арганізацыі сталі менш залежаць ад супрацоўніцтва з расійскімі кампаніямі.

Летась прамысловыя арганізацыі працягвалі тэхнічнае пераўзбраенне і мадэрнізацыю вытворчасцяў. На гэтыя мэты імі накіравана больш за адзін трыльён рублёў. Прадпрыемствамі ўкаранялася новае абсталяванне і сучасныя тэхналогіі. Назаву асноўныя інвестыцыйныя праекты:

"Лакафарба" ажыццяўляе тэхнічнае пераўзбраенне вытворчасці фталевого ангідрыду;

завод "Оптык" працуе над развіццём геаметрычнай і валаконнай оптыкі, шкловарнай вытворчасці, вырошчваннем крышталяў;

"Лідахлебапрадукт" праводзіць рэканструкцыю камбікормавага цэха. Гэта дасць магчымасць выраблляць камбікармы па больш складаных рэцэптах, павялічыць іх якасць;

"Малочна-кансервавы камбінат" мадэрнізуе вытворчыя цэхі.

Вядзецца праца і па прыцягненні замежных інвестыцый. За 2015 год іх паступіла больш за 32 мільёны даляраў ЗША.

З прыцягненнем замежнага фундатара працягваецца тэхпераўзбраенне "Лідскага піва".

Таксама рэалізуюцца два праекты з удзелам капіталу літоўскай кампаніі АРВІ. Гэта

- тэхнічнае пераўзбраенне "Ветсанутыльзавода" і

- стварэнне комплексу па вытворчасці прадукцыі з мяса індычкі. Гэты праект можна назваць самым значным не толькі для раёна, але і для вобласці.

Не буду стамляць вас далей лічбамі па гэтай сферы. Таму што важней за ўсё назваць тых, хто ўсе гэтыя паказчыкі забяспечыў. Сёння я ў першую чаргу хачу гаварыць пра працоўныя калектывы і пэўных працаўнікоў.

Па выніках працы за 2015 год пераможцам раённага спаборніцтва ў прамысловай сферы прызнаны калектыў завода "Конус" - дырэктар Жамойда Андрэй Пятровіч. Менавіта дзякуючы своечасовай арганізацыі імпартазамяшчальнай вытворчасці па гарачым ацынкаванні прадпрыемства змагло дамагчыся лепшых вынікаў у раёне. Сёння паслугі па гарачым ацынкаванні запатрабаваны не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Асноўнымі спажыўцамі з'яўляюцца расійскія кампаніі. У 2015 годзе ў "Конусе" экспарт паслуг узрос больш, чым на 13%.

Калектыў адкрытага акцыянернага таварыства "Завод "Оптык" - дырэктар Галавач Тадэвуш Юзафавіч - таксама дамогся адпаведных вынікаў. Завод з'яўляецца адным з вядучых вытворцаў акулярнай і геаметрычнай оптыкі ў Рэспубліцы Беларусь і СНД. Мае стабільны рынак сярод вытворцаў прыбораў ваеннай, касмічнай і медыцынскай тэхнікі, а таксама прыборабудавання. Прадпрыемства ўвесь час працуе па нарошчванні аб'ёмаў вытворчасці, засваенні інавацыйных тэхналогій. За 2015 год удзельная вага адгружанай інавацыйнай прадукцыі склала амаль 25%. Для такой вытворчасці гэта досыць высокі вынік.

Асобна хачу назваць імёны тых працаўнікоў прамысловай сферы, якія ўнеслі значны ўнёсак у развіццё сваіх арганізацый. Гэта:

- Арэхва Вадзім Аляксандравіч - апаратчык цэха па вытворчасці лакаў ААТ "Лакафарба";

- Кавалёў Алег Аляксандравіч - электрамеханік "Малочна-кансервавага камбіната";

- Сянкевіч Ядвіга Станіслаўна - начальнік змены мукамольнага цэха "Лідахлебапрадукт";

- Галоўчыц Генадзь Мікалаевіч - аператар кармацэха свінагадоўчага комплексу "Прагрэс" "Лідахлебапрадукта";

- Савіцкі Пётр Мікалаевіч - токар завода "Лідсельмаш";

- Крывіня Аляксандр Мікалаевіч - шліфоўшчык цэха крышталю шклозавода "Нёман";

- Сянько Валянцін Георгіевіч - аздабляльнік цэха бясколернага шкла шклозавода "Нёман";

- Нічыпар Марына Мечыславаўна - зборшчык абутку "Лідскай абутковай фабрыкі";

- Мароз Ірына Мікалаеўна - спецыяліст па кадрах торфабрыкетнага завода "Дзітва";

- Лупач Леанід Уладзіміравіч - электразваршчык "Лідабудканструкцыі";

- Анацкі Уладзімір Аляксандравіч - вядучы інжынер-электронік “Ліцейна-механічнага завода”;

- Кіжук Юры Вацлававіч - слесар-інструментальшчык "Завода электравырабаў";

- Капціловіч Андрэй Уладзіміравіч - слесар "Лідскага мясакамбіната".

Істотную ролю ў развіцці эканомікі і сацыяльнага жыцця насельніцтва іграе малое і сярэдняе прадпрымальніцтва. У раёне працуе больш за тысячу малых і сярэдніх арганізацый, звыш пяці тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў. Гэты сектар фармуе парадку 20% падатковых паступленняў у мясцовы бюджэт. Многія прадпрыемствы малога і сярэдняга бізнэсу прымаюць актыўны ўдзел у жыцці раёна. Але па выніках падвядзення вынікаў за 2015 год лепшым прызнаны калектыў сумеснага таварыства з абмежаванай адказнасцю "Бел-Пласт Інтэрнэшнл" - генеральны дырэктар Вялікін Анатоль Леанідавіч. Прадпрыемства штогод пацвярджае званне лаўрэата прэміі Ўрада Рэспублікі Беларусь у вобласці якасці. А ў 2015 годзе за дасягненні ў вобласці якасці таварыства прызнана лаўрэатам прэміі Садружнасці незалежных дзяржаў. "Бел-Пласт Інтэрнэшнл" з'яўляецца самым актыўным удзельнікам Асацыяцыі польскага бізнэсу ў Беларусі. У 2014-2015 гадах па іх ініцыятыве пра-

ведзены сустрэчы дзелавых колаў польскага бізнэсу і міжнародны эканамічны форум.

Транспартнымі арганізацыямі раёна забяспечана эфектыўная і надзейная праца пасажырскага, грузавога і чыгуначнага транспарту. Асобна хачу адзначыць дзейнасць пасажырскага транспарту. Менавіта "Аўтобусны парк" з'яўляецца асноўным перавозчыкам на гарадскіх і прыгарадных маршрутах. Адказнасць за якасць аказваных паслуг непасрэдна залежыць ад майстэрства кіроўцаў. Лепшым па выніках мінулага года прызнаны Стасюкевіч Ігар Браніслававіч.

Прадпрыемствы сувязі праводзяць працу па развіцці і ўкараненні сучасных тэхналогій. Аддзяленні паштовай сувязі штогод пашыраюць спектр аказваных паслуг для насельніцтва. З веданнем справы працуе начальнік аддзялення паштовай сувязі "Тарнова" - Шыш Сафія Юльянаўна.

Гандлёвае абслугоўванне жыхароў раёна ажыццяўляюць 754 крамы і 7 гандлёвых цэнтраў агульнай гандлёвай плошчай больш за 72 тысячы м$^2$, 146 аб'ектаў грамадскага сілкавання амаль на 12 тыс. месцаў. Аб'ём рознічнага тавараабароту гандлю праз усе каналы рэалізацыі за 2015 год у фактычных цэнах склаў 5091,4 млрд. рублёў. У мэтах прыцягнення турыстаў, якія наведваюць Лідскі раён, павелічэнні струменя замежнай валюты, а таксама падвышэння іміджу нашай дзяржавы ў 7 крамах укаранёна сістэма вяртання падатку на дададзеную вартасць Такс Фры. За 2015 год замежным пакупнікам выдадзена 256 чэкаў, больш чым на 725 млн. рублёў. Адным з першых у гэтым кірунку пачаў працаваць "Дом гандлю" (дырэктар Касяк Валер Генрыхавіч). За 2015 год адкрыты 10 гандлёвых аб'ектаў агульнай гандлёвай плошчай 470 м$^2$.

Таксама адкрыта 7 аб'ектаў грамадскага сілкавання на 97 месцаў.

У Лідскім раёне працягвае развівацца сфера пабытавага абслугоўвання. Паслугі насельніцтву раёна аказваюць 394 суб'екты гаспадарання. Функцыянуе 11 сельскіх комплексных прыёмных пунктаў. За 2015 год у раёне адкрыта 18 новых аб'ектаў пабытавага абслугоўвання насельніцтва. Гэта цырульні, майстэрні па рамонце абутку, майстэрні па рамонце аўто, фотастудыя і вясельныя салоны.

Пагадзіцеся, што менавіта з працаўнікамі сферы гандлю і паслуг мы сутыкаемся штодня. Таму з вялікім задавальненнем хачу назваць імёны тых, хто стварае нам настрой якасным абслугоўваннем і ветлівай усмешкай. Гэта:

Рахман Тарэса Сцяпанаўна - прадавец крамы "Родны кут" п. Першамайскі;

Тарашкевіч Тарэса Юзэфаўна - закройшчык Дома быту г. Бярозаўка;

Маркевіч Наталля Валер'еўна - прадавец гандлёвага цэнтра "Патсдам";

Карповіч Марыя Зянонаўна - кухар рэстарана "Гедымін".

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Сельскагаспадарчымі арганізацыямі раёна ў 2015 годзе выраблена валавай прадукцыі на суму 765 млрд. рублёў. У мэтах стабілізацыі сельгасвытворчасці намі аказвалася дапамога ў куплі сельскагаспадарчай тэхнікі, прымаліся меры эканамічнага характару для набыцця паліўна-змазвальных матэрыялаў.

Нягледзячы на ўсе складанасці, нам удалося сабраць нядрэнны ўраджай збожжа. Валавы збор збожжавых і зернебабовых культур склаў 80 тыс. тон збожжа пры ўраджайнасці 39,2 цэнтнера з гектара. Намалочана амаль 5 тысяч тон алеясем'я рапсу. Накапана каля 15-ці тысяч тон бульбы. Сабрана 42 тысячы тон цукровых буракоў. Лепшыя паказчыкі па вытворчасці збожжа атрымалі земляробы саўгаса "Лідскі" (дырэктар Ірчыц Уладзіслаў Браніслававіч) і "Мажэйкава" (дырэктар Роўба Пётр Феліксавіч). Самую высокую ў раёне ўраджайнасць бульбы - 292 цэнтнеры атрымалі паляводы саўгаса "Лідскі".

У галіне жывёлагадоўлі пагалоўе буйной рагатай жывёлы ўзрасло амаль на 600 галоў і склала 40 тысяч, колькасць свіней - больш чым на 1,5 тысячы і склала 29 тысяч галоў, птушкі - на 41 тысячу і склала 168 тысяч галоў. Узрасла вытворчасць ялавічыны - на 8%, свініны - на 3%, мяса птушкі - на 23%. Лепшыя вынікі па вытворчасці мяса буйной рагатай жывёлы атрыманы ў філіяле "Дзітва" "Лідахлебапрадукта", "Мажэйкава" і саўгасе "Лідскі".

Павялічылася вытворчасць малака. Аб'ём вытворчасці склаў 55 тысяч тон. Больш за 5 тысяч кілаграмаў малака на карову надаілі жывёлагадоўцы саўгаса "Лідскі" і філіяла "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт".

Па выніках працы за 2015 год самых высокіх вынікаў сярод сельгасарганізацый раёна дамагліся працаўнікі раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства саўгас "Лідскі". Дырэктар Ірчыц Уладзіслаў Браніслававіч.

Цёплыя словы падзякі хочацца выказаць у адрас механізатараў, кіроўцаў, якія, пачынальна з вясновых засевак да канца ўборкі, працавалі, не лічачыся з часам, а парой і са сваім здароўем. Гэта:

Галоўчыц Генадзь Мікалаевіч - аператар цэха адкорму свінагадоўчага комплексе "Прагрэс" ААТ "Лідахлебапрадукт";

Сніціч Пётр Уладзіміравіч - трактарыст КСУП "Пескаўцы";

Лісоўская Марыя Іосіфаўна - аператар па адкорме фермы "Фалькавічы" ЛРСУП "Мажэйкава";

Удовенка Яніна Станіславаўна - аператар машыннага даення малочна-таварнай фермы "Далекія" філіяла "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт".

Дарагія сябры!

У 2015 годзе ў Лідскім раёне будаўнічыя арганізацыі і індывідуальныя забудоўшчыкі ўвялі ў эксплуатацыю 64,3 тыс. квадратных метраў жылля, гэта больш за 600 кватэр, у тым ліку каля 50 кватэр індывідуальнага жылля ў сельскай мясцовасці. Нашы будаўнікі працавалі на будаўніцтве і мадэрнізацыі аб'ектаў у прамысловых арганізацыях, пра якія я казаў вышэй.

Зроблены капітальны рамонт жыллёвага фонду агульнай плошчай 42,5 тыс. квадратных метраў. Вялася мадэрнізацыя вул. Куйбышава і добраўпарадкаванне дваровых тэрыторый.

Па выніках працы за год лепшай будаўнічай арганізацыяй прызнаны "Будвектар" (дырэктар Петарс Віктар Пятровіч).

Асобныя словы падзякі хачу сказаць:

Жынко Зміцеру Аляксандравічу - электрагазазваршчыку філіяла "Лідская ДБПМК-72";

Запольской Тарэсе Станіславаўне - загадчыцы крамамі службы грамадзянскага абслугоўвання Лідскага ГУП ЖКГ;

Здановічу Віктару Уладзіміравічу - машыністу экскаватара ДСУ № 24 ААТ "Дарожна-будаўнічы трэст № 6";

Лапата Пятру Слававічу - кіроўцу аўтапагрузчыка "ЛРСП № 17"

Груцы Вячаславу Уладзіміравічу - прарабу БК № 104 "Будаўніча-мантажнага трэста № 19";

Ракса Галіне Эдуардаўне - прыбіральшчыцы тэрыторый ДЭП Лідскага ГУП ЖКГ;

Мальцу Аляксею Аляксеевічу - манціроўшчыку шын філіяла ДРБК № 157 прадпрыемства "Гроднааблдарбуд".

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

У першай частцы свайго дакладу я гаварыў пра людзей, якія вырабляюць і прадаюць прадукцыю. Цяпер хачу распавесці пра тых, хто працуе ў бюджэтнай сферы.

Пра людзей, хто гадуе нам годную змену, хто прадстаўляе Беларусь на прэстыжных спартовых спаборніцтвах, працуючы на імідж краіны. Пра тых, хто заўсёды гатовы ў любы час сутак нас лячыць, ратаваць нашы жыцці і абараняць.

У мінулым годзе лідскія педагогі ў чарговы раз даказалі, што яны лепшыя ў вобласці. Мяркуйце самі. 50 выпускнікоў скончылі сярэднія школы з залатым і срэбным медалём. На цэнтралізаваным тэставанні 5 дзяцей (гэта навучэнцы ліцэя, сярэдніх школ № 1 і 17) атрымалі стабальныя сертыфікаты. Сярэдні бал па выніках удзелу лідскіх старшакласнікаў у цэнтралізаваным тэставанні традыцыйна вышэй за абласны паказчык. Лепшыя вынікі ў выпускнікоў Лідскай і Бярозаўскай гімназій, ліцэя, сярэдніх школ № 17, 15, 1 г. Ліды, Бярозаўскай сярэдняй школы № 3, Мажэйкаўскай сярэдняй школы, Дварышчанскага навучальна-педагагічнага комплексу. 68 % выпускнікоў раёна сталі студэнтамі ўстаноў вышэйшай адукацыі.

Нашы вучні былі лепшымі на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па навучальных прадметах. Імі заваявана 86 і 23 дыпломы адпаведна. Двое нашых гімназістаў сталі лепшымі на міжнароднай алімпіядзе Саюзнай дзяржавы "Расія і Беларусь: гістарычная і духоўная агульнасць". Паспяхова развіваюцца 7 дзіцячых узорных калектываў, народны вакальны ансамбль педагогаў СШ № 4. 219 дыпламоў атрымалі лідскія школьнікі на абласных, рэспубліканскіх і міжнародных творчых аглядах і конкурсах.

На Лідчыне паспяхова развіваецца спартовая галіна. Культывуецца больш за 40 відаў спорту, з якіх 15 відаў развіваюцца ў спецыялізаваных навучальна-спартовых установах. Спартоўцамі раёна на працягу 2015 года заваявана 6 прызавых месцаў на міжнародных спаборніцтвах, 122 - на рэспубліканскім, 560 - на абласным узроўнях.

На працягу года ў раёне стала больш на 2 майстры спорту міжнароднага класа, на 8 майстроў спорту Рэспублікі Беларусь, на 18 кандыдатаў у майстра спорту, на 74 першаразраднікі. 22 спартоўцы перададзены ў вышэйшае звяно падрыхтоўкі. 49 знаходзяцца ў спісскавым складзе зборных каманд Рэспублікі Беларусь. На ўдзел у Алімпійскіх гульнях 2016 года ў Рыа-дэ-Жанейра ў спіс кандыдатаў увайшлі чатыры лідзяніны. Развітая інфраструктура для розных відаў спорту шмат у чым дапамагае нам залучыць усе пласты насельніцтва ў актыўныя заняткі фізічнай культурай і спортам. За нядоўгую снежную зіму мы паспелі арганізаваць і правесці на належным узроўні зімовы аздараўленчы сезон. Аператыўна былі заліты коўзанкі для масавага катання, лёдавыя пляцоўкі, лыжныя трасы. Уладкаваны пункты пракату зімовага інвентару і абсталявання.

Немалаважнае значэнне надаём стварэнню ўмоў для рэабілітацыі інвалідаў. У спартовым комплексе "Алімпія" выдзелена асобнае памяшканне, дзе інваліды-калясачнікі могуць праводзіць вольны час у коле сваіх сяброў, займацца спортам, весці актыўны лад жыцця. Раённым выканаўчым камітэтам закуплены і ўсталяваны пад'ёмнік у басейне. Крыху пазней я з вялікім пачуццём павагі ўручу Ганаровую грамату райвыканкама срэбнаму прызёру чэмпіянату Еўропы 2016 года сярод спартоўцаў адаптыўнага веславання Зміцеру Рышкевічу. Усіх, хто сочыць за яго спартовай кар'ерай, захапляе яго воля і імкненне да перамогі.

У мінулым годзе працаўнікі сферы культуры таксама дасягнулі добрых вынікаў. У пярэдадзень Новага года духавому аркестру Лідскай дзіцячай школы мастацтваў прысвоена званне "Узорны". Кіраўнік Тарэнць Андрэй Генрыхавіч.

Педагогі і навучэнцы школ мастацтваў, творчыя калектывы былі ўдзельнікамі больш за 60 конкурсаў, у тым ліку міжнародных. Майстэрства лідзян скарыла гледачоў Літвы, Польшчы, Аўстрыі, Венгрыі, Румыніі, Сербіі, Расіі і Украіны. Вынікі замежных фэстаў - званні лаўрэатаў і дыпламантаў. Па выніках мінулага года за распрацоўку і рэалізацыю нетрадыцыйных і інавацыйных формаў музейнай дзейнасці лепшай установай Гарадзенскай вобласці прызнаны Лідскі гістарычна-мастацкі музей. Дырэктар Драб Ганна Мікалаеўна.

Дарагія сябры!

Дзякуючы вашаму ўнёску ў развіццё рэгіёна было магчыма стабільна фінансаваць установы аховы здароўя. На аднаго жыхара раёна ў 2015 годзе было забяспечана фінансаванне больш за 2 мільёны рублёў. Па вобласці гэты паказчык склаў амаль 3 мільёны рублёў. Закуплена новае медыцынскае абсталяванне на суму 6 млрд. руб. У стацыянарах пралечана 32,5

тысячы пацыентаў, хуткай дапамогай выканана 45 тыс. выклікаў. Да лекараў амбулаторна-паліклінічных арганізацый зроблена 1,5 млн. наведванняў. У сярэднім кожны жыхар Лідскага раёна наведаў паліклініку 12 разоў. Нашы лекары паспяхова праводзяць трамбалізіс пацыентам з вострым інфарктам міякарду і інфарктам мозгу. Асвойваюць сучасныя віды дыягностыкі.

На працягу апошніх 20 гадоў у Лідскім раёне натуральны прырост насельніцтва адзначаўся двойчы: у 2013 і 2015 годзе. Летась ён склаў 151 чалавек.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Мы можам доўга гаварыць пра тое, што ў нас атрымалася, а дзе мы не дапрацавалі. Але нельга забываць пра тое, што шмат можна дасягнуць і шмат памылак выправіць толькі жывучы ў мірнай і спакойнай краіне. Таму сёння хачу выказаць словы падзякі прадстаўнікам сілавых структур, якія таксама працягваюць удасканальваць сваё майстэрства.

Воіны-авіятары 116-й гвардзейскай штурмавой авіяцыйнай базы ў 2015 годзе паспяхова асвоілі навучальна-баявыя самалёты Як-130. Паспяхова прынялі ўдзел у Міжнародных армейскіх гульнях "АРМІ-2015" на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі і ў сумесным аператыўным вучэнні "Шчыт саюза - 2015".

У мінулы год - год 70-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне - адной са знамянальных падзей для лідзян стала ўвекавечанне подзвігу герояў-авіятараў, у памяць пра якія быў усталяваны помнік - макет самалёта Су-25.

У мінулым годзе вайскоўцамі Лідскага памежнага атрада затрымана 78 парушальнікаў дзяржаўнай мяжы, каля 400 парушальнікаў памежнага заканадаўства. Было перапынена перасоўванне цераз мяжу таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на агульную суму больш за 7 мільярдаў рублёў. Канфіскоўваліся з незаконнага абароту зброя, боепрыпасы, наркатычныя рэчывы. У пунктах пропуску праз дзяржаўную мяжу прапушчана звыш 1 млн. т тавараў і каля 500 тыс. транспартных сродкаў.

У 2015 году аддзел унутраных спраў Лідскага райвыканкама ў поўнай меры паказаў свой патэнцыял ва ўсіх кірунках аператыўна-службовай дзейнасці. Участковымі інспектарамі Лідскага РАУС сумесна з сельскімі выканаўчымі камітэтамі, грамадскімі арганізацыямі і фармаваннямі праводзіцца вялікая праца па прафілактыцы побытавых злачынстваў. Адмысловая ўвага надавалася процідзеянню п'янству, алкагалізму і іншым негатыўным сацыяльным з'явам. Аднак у раёне застаецца вельмі актуальнай праблема процідзеяння карупцыі, незаконнаму абароту наркотыкаў і спіртазмяшчальнай вадкасці.

Ацэньваючы працу аддзела ДАІ, варта адзначыць, што ў 2015 годзе адбылося зніжэнне колькасці дарожна-транспартных здарэнняў і колькасці пацярпелых у ДТЗ.

Дарагія сябры!

Думаю, вы пагодзіцеся са мной, што любыя высілкі і сродкі, накіраваныя на выратаванне жыцця - апраўданы. А людзі, якія прысвячаюць гэтаму сваё жыццё, заслугоўваюць адмысловай павагі.

Давайце разам скажам “дзякуй”:

Яўланавай Святлане Георгіеўне - лекару-неанатолагу;

Грыгялевіч Таццяне Іванаўне - старэйшай медыцынскай сястры неўралагічнага аддзялення;

Латушку Вячаславу Уладзіміравічу - намесніку галоўнага лекара па хірургіі Лідскай цэнтральнай раённай бальніцы;

Дапіру Віктару Леанідавічу - намесніку начальніка аддзела ДАІ;

Мянько Паўлу Іосіфавічу - начальніку 2-га аддзела 1-га кіравання Лідскага памежатрада;

Акуневічу Роберту Рамуальдавічу - камандзіру аддзялення пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі № 2 Лідскага РАНС;

Алейніку Алегу Алегавічу - камандзіру навучальна-баявой авіяцыйнай эскадрыллі 116-й гвардзейскай штурмавой авіябазы.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Фармат нашага мерапрыемства не дазваляе мне зрабіць больш падрабязны аналіз працы за год. Але для гэтага ў нас ёсць мясцовыя сродкі масавай інфармацыі: "Лідская газета", тэлебачанне і радыё.

Галоўным рэдактарам, Серафіновіч Кацярыне Адамаўне і Пазняк Ніне Міхайлаўне, удалося стварыць прафесійныя, творчыя калектывы, здольныя распавядаць пра падзеі рэгіёна аператыўна і дакладна.

Чытайце газету, глядзіце і слухайце тэлебачанне і радыё, і вы будзеце ў курсе ўсіх апошніх падзей.

Дарагія сябры!

Не ўсе імёны нашых годных землякоў прагучалі ў дакладзе, але праз некалькі хвілін пачнецца ўзнагароджанне, і вы не толькі пачуеце прозвішчы лепшых з лепшых, але і ўбачыце нашых перадавікоў на гэтай сцэне.

У завяршэнне свайго выступу хачу яшчэ раз выказаць вам сваю падзяку за вашу працу, за вашы старанні, накіраваныя як на развіццё нашага рэгіёна, так і на імідж Беларусі ў цэлым.

Кожны з вас пацвердзіў вядомы пастулат: багацце краіны - у яе працавітых, таленавітых людзях.

Жыццёвыя сітуацыі часам прымушаюць нас знаходзіцца на грані. Але ў роўнай ступені на грані правалу і на грані поспеху. Усё залежыць толькі ад таго, што мы зрабілі да таго, як падысці да гэтай грані.

Быць можа, год, які прайшоў атрымаўся не такім, як хацелася б, але, адназначна, ён прынёс нам досвед. А досвед - неацэнны. Калі мы жадаем дамагчыся іншых вынікаў, значыць трэба навучыцца дзейнічаць па-іншаму. Давайце скарыстаемся назапашанымі навыкамі. Будзем вучыцца браць на сябе адказнасць за сваё жыццё і дасягаць жаданых мэт.

Я жадаю кожнаму з вас не растраціць працоўнай жарсці. Моцнага вам здароўя, поспеху, сямейнага дабрабыту, святла і дабра.

Дзякуй вам яшчэ раз!

# ЛІДСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
# РАШЭННЕ

**15 лютага 2016 г. №** **г. Ліда, Гродзенская вобл.**

## Пра вынікі спаборніцтва працоўных калектываў раёна за дасягненне высокіх паказчыкаў у эканамічным і сацыяльна-культурным развіцці ў 2015 годзе

Абмеркаваўшы вынікі працы арганізацый і ўстаноў Лідскага раёна за 2015 год, Лідскі раённы выканаўчы камітэт ВЫРАШЫЎ:

1. Уручыць Ганаровы дыплом першай ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 30 (трыццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 7 (сем) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый у сферы:

прамысловасці - рэспубліканскаму даччынаму ўнітарнаму вытворчаму прадпрыемству "Конус" рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па механізаванні сельскай гаспадаркі" (дырэктар Жамойда Андрэй Пятровіч);

будаўніцтва - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Будвектар" (дырэктар Петарс Віктар Пятровіч);

гандлю - унітарнаму камунальнаму прадпрыемству крама № 1 "Дом гандлю" г. Ліда (дырэктар Касяк Валер Генрыхавіч);

адукацыі - дзяржаўнай установе адукацыі "Сярэдняя школа № 17 г. Ліды" (дырэктар Алексіевіч Аляксандр Іосіфавіч).

2. Уручыць Ганаровыя дыпломы другой ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый у сферы:

аховы здароўя - гінекалагічнаму аддзяленню ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" (якім кіруе Ганчар Анатоль Уладзіміравіч);

у пастаноўцы ідэалагічнай працы ў працоўным калектыве - аддзелу адукацыі, спорту і турызму Лідскага раённага выканаўчага камітэта (начальнік Кадлубай Аляксандр Уладзіміравіч);

культуры - дзяржаўнай установе "Лідскі гістарычна-мастацкі музей" (дырэктар Драб Ганна Мікалаеўна);

фізкультурна-аздараўленчай працы - дзяржаўнай установе "Спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву № 3 г. Ліды" (дырэктар Мілюць Мечыслаў Эдуардавіч).

3. Уручыць Ганаровыя дыпломы другой ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за другое месца сярод арганізацый у сферы:

прамысловасці - адкрытаму акцыянернаму таварыству завод "Оптык" (дырэктар Галавач Тадэвуш Юзафавіч);

сельскай гаспадаркі - раённаму сельскагаспадарчаму ўнітарнаму прадпрыемству саўгас "Лідскі" (дырэктар - Ірчыц Уладзіслаў Браніслававіч);

4. Уручыць Ганаровыя дыпломы трэцяй ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з грашовай прэміяй у памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 3 (тры) базавыя велічыні за першае месца сярод арганізацый у сферы:

дашкольнай адукацыі - дзяржаўнай установе адукацыі "Лідскі адмысловы яслі-сад № 16 для дзяцей з парушэннямі зроку" (загадчык Арэхва Эла Уладзіміраўна);

малога і сярэдняга бізнэсу - сумеснаму таварыству з абмежаванай адказнасцю "Бел-Пласт Інтэрнэшнл" (генеральны дырэктар Вялікін Анатоль Леанідавіч);

сельскагаспадарчых падраздзяленняў - малочнатаварнаму комплексу "Ёдкі" сельскагаспвадарчага вытворчага кааператыва "Ёдкаўскі" (загадчык Бабака Аляксандр Дзмітрыевіч).

5. Занесці на раённую Дошку пашаны працаўнікоў арганізацый і ўстаноў раёна, якія дамагліся найлепшых паказчыкаў па выніках года, з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 3 (тры) базавыя велічыні:

Акуневіча Роберта Рамуальдавіча - камандзіра аддзялення пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі № 2 на аб'ектах ААТ "Лакафарба" Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях установы "Гарадзенскае абласное кіраванне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь";

Алейніка Алега Алегавіча - камандзіра навучальна-баявой авіяцыйнай эскадрыллі вайсковай часткі 19764;

Алейнікаву Вольгу Рыгораўну - спецыяліста па сацыяльнай працы аддзялення першаснага прыёму, інфармацыі, аналізу і прагназавання дзяржаўнай установы "Лідскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва";

Арыку Паўла Васільевіча - трэнера-выкладчыка дзяржаўнай установы "Спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву № 2 г. Ліды";

Арэхву Вадзіма Аляксандравіча - апаратчыка сінтазу 5 разраду цэха па вытворчасці лакаў ААТ "Лакафарба";

Булай Ганну Мікалаеўну - загадчыка філіяла "Ганчарскі дом культуры" дзяржаўнай установы "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці";

Гемзу Валянціну Пятроўну - начальніка фінансавай службы Лідскага аддзела Дэпартамента аховы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь;

Гагалушку Святлану Іванаўну - настаўніцу працоўнага навучання дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 16 г. Ліды";

Галоўчыца Генадзя Мікалаевіча - аператара 6 разраду цэха адкорму свінагадоўчага комплексу "Прагрэс" ААТ "Лідахлебапрадукт";

Дапіру Віктара Леанідавіча - намесніка начальніка аддзела дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі міліцыі грамадскай бяспекі аддзела ўнутраных спраў Лідскага раённага выканаўчага камітэта;

Жынко Дзмітрыя Аляксандравіча - электрагазазваршчыка 5 разраду філіяла "Лідская дарожна-будаўнічая перасоўная механізаваная калона - 72" ААТ "Гродна-аблсельбуд";

Запольскую Тарэсу Станіславаўну - загадчыцу крамамі службы грамадзянскага абслугоўвання Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Здановіча Віктара Уладзіміравіча - машыніста экскаватара 6 разраду дарожна-будаўнічага кіравання № 24 ААТ "Дарожна-будаўнічы трэст № 6";

Кассяненка Людмілу Мікалаеўну - апаратара машыннага даення малочна-таварнага комплексу "Крыніцы" раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Саўгас "Лідскі";

Лапату Пятра Слававіча - кіроўцу аўтапагрузчыка ААТ "Лідскае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства № 17"

Мянько Паўла Іосіфавіча - начальніка 2-га аддзела 1-га кіравання вайсковай часткі 1234;

Рахман Тарэсу Сцяпанаўну - прадаўца 6 разраду крамы "Родны кут" п. Першамайскі Лідскага філіяла Гарадзенскага абласнога спажывецкага таварыства;

Сянько Валянціна Георгіевіча - аздабляльніка выдзіманых вырабаў 7 разраду цэха бясколернага шкла ААТ "Шклозавод "Нёман";

Сніціча Пятра Уладзіміравіча - трактарыста камунальнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Пескаўцы";

Стасюкевіча Ігара Браніслававіча - кіроўцу аўтамабіля 6 разраду 2 класа філіяла "Аўтобусны парк № 2 г. Ліда" ААТ "Гроднааблаўтатранс";

Тарашкевіч Тарэсу Юзэфаўну - закройшчыцу Дома быту г. Бярозаўка ААТ "Лідскі камбінат бытавых паслуг";

Шыш Сафію Юльянаўну - начальніка аддзялення паштовай сувязі Тарнова Лідскага раённага вузла паштовай сувязі Гарадзенскага філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Белпошта";

Шот Марыю Баляславаўну - старасту вёскі Перапечыца Дубровенскага сельскага савета Лідскага раёна;

Яўланаву Святлану Георгіеўну - лекара-неанатолага (загадчыка аддзяленнем для нованароджаных дзяцей) установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца".

6. Узнагародзіць Ганаровай граматай Лідскага раённага выканаўчага камітэта:

Анацкага Уладзіміра Аляксандравіча - вядучага інжынера-электроніка ААТ "Лідскі ліцейна-механічны завод";

Груцу Вячаслава Уладзіміравіча - прараба будаўнічага кіравання № 104 ААТ "Будаўніча-мантажны трэст № 19";

Кіжука Юрыя Вацлававіча - слесара-інструментальшчыка ААТ "Лідскі завод электравырабаў";

Кавалёва Алега Аляксандравіча - электрамеханіка па сродках аўтаматыкі і прыборах тэхналагічнага абсталявання ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат";

Крывіню Аляксандра Мікалаевіча - шліфоўшчыка шкла і шклавырабаў 6 разраду цэха крышталю ААТ "Шклозавод "Нёман";

Лісоўскую Марыю Іосіфаўну - апаратара па адкорме фермы "Фалькавічы" Лідскага раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Мажэйкава";

Маркевіч Наталлю Валер'еўну - прадаўца філіяла "Эліксір" унітарнага камунальнага прадпрыемства гандлёвы цэнтр "Патсдам";

Раксу Галіну Эдуардаўну - прыбіральшчыцу тэрыторый дарожна-эксплуатацыйнай вытворчасці Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Рунец Анжаліку Міхайлаўну - намесніка дырэктара па выхаваўчай працы дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 2 г. Бярозаўкі";

Рышкевіча Дзмітрыя Ігаравіча - навучэнца ўстановы "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба";

Сянкевіч Ядвігу Станіславаўну - начальніка змены мукамольнага цэха ААТ "Лідахлебапрадукт";

Яджак Аксану Іванаўну - намесніка галоўнага бухгалтара цэнтралізаванай бухгалтэрыі аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Лідскага раённага выканаўчага камітэта.

7. Узнагародзіць Падзячным лістом старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта:

Грыгялевіч Таццяну Іванаўну - медыцынскую сястру (старэйшую) неўралагічнага аддзялення (для інсультных хворых) установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Ільяшэнку Аляксандра Фёдаравіча - дырэктара дзяржаўнай установы "Лідскі раённы дзіцяча-юнацкі фізкультурна-аздараўленчы цэнтр";

Капціловіча Андрэя Віктаравіча - брыгадзіра брыгады слесараў аддзела галоўнага механіка ААТ "Лідскі мясакамбінат";

Карповіч Марыю Зянонаўну - кухара-звеннявую 6 разраду рэстарана "Гедымін" ААТ "Гандлёва-вытворчая фірма "Ліда";

Качынскага Андрэя Іванавіча - трэнера-выкладчыка па спорце ўстановы "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба";

Качынскага Дзмітрыя Іванавіча - трэнера-выкладчыка па спорце ўстановы "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба";

Клімовіча Алега Аляксандравіча - настаўніка фізічнай культуры і здароўя дзяржаўнай установы адукацыі "Мінойтаўская сярэдняя школа";

Латушку Вячаслава Уладзіміравіча - намесніка галоўнага лекара па хірургіі ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Лупача Леаніда Уладзіміравіча - электразваршчыка ручной зваркі 5 разраду філіяла "Лідабудканструкцыя" ААТ "Гроднааблсельбуд";

Мальца Аляксея Аляксеевіча - манціроўшчыка шын філіяла Дарожнае рамонтна-будаўнічае кіраванне № 157 камунальнага праектна-рамонтна-будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблдарбуд";

Мароз Ірыну Мікалаеўну - спецыяліста па кадрах ААТ "Торфабрыкетны завод "Дзітва";

Нічыпар Марыну Мечыславаўну - зборшчыка абутку цэха № 4 ААТ "Лідская абутковая фабрыка";

Савіцкага Пятра Мікалаевіча - токара механічнага цэха № 3 ААТ "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш";

Сушко Ніну Мікалаеўну - выкладчыка ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны музычны каледж";

Тарэнця Андрэя Генрыхавіча - настаўніка дзяржаўнай установы адукацыі "Лідская дзіцячая школа мастацтваў";

Удовенка Яніну Станіславаўну - апаратара машыннага даення малочна-таварнай фермы "Далекія" філіяла "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт".

8. Прэміяванне ў памеры 92 820 000 (дзевяноста два мільёны восемсот дваццаць тысяч) рублёў зрабіць за кошт сродкаў, прадугледжаных на правядзенне мерапрыемстваў Лідскага раённага выканаўчага камітэта паводле каштарысу выдаткаў (прыкладаецца).

9. Кантроль за выкананнем гэтага рашэння ўскласці на намесніка старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта Пранюка В.Ф.

Старшыня М.К. Карповіч.
Кіраўнік справамі І.І. Юч.

# 110 гадоў выдавецкай суполцы “Загляне сонца і ў наша аконца”

## *Як лідзяне беларускую нацыю стваралі*

**”Загляне сонца і ў наша аконца”** - беларуская выдавецкая суполка, заснаваная ў траўні (18.05) 1906 года ў Пецярбургу. Выключную ролю ў яе дзейнасці ігралі прадстаўнікі Лідскага павета.

Юрыдычнай падставай легальнай выдавецкай дзейнасці на беларускай мове быў выдадзены 12(25).12.1904 г. указ імператара Мікалая II, які скасоўваў ранейшыя абмежаванні ўжытку мясцовых моў у заходніх губернях Расійскай імперыі. Выкарыстаць гэтую магчымасць вырашыў нядаўні выпускнік Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага тэхналагічнага інстытута Вацлаў Іваноўскі з Лідскага павета, які ўжо меў досвед нелегальнай выдавецкай дзейнасці падчас працы ў арганізацыях "Беларуская рэвалюцыйная партыя" і "Круг беларускай народнай прасветы і культуры". У варунках, якія дазволілі развіваць пастаянную і значна шырэйшую выдавецкую дзейнасць, неабходны былі большыя сродкі і новыя супрацоўнікі. В. Іваноўскі ў 1905 спрабаваў прыцягнуць да гэтай справы беларускіх абшарнікаў А. Ельскага і Э. Вайніловіча, але безвынікова. Тым не менш вынік арганізацыйнай працы быў станоўчы: у студзені 1906 суполка налічвала 45 удзельнікаў.

Назва выдавецтва - гэта прымаўка, якая выказвае надзею на лепшую будучыню. У канцы XIX ст. яна выкарыстоўвалася як слоган для нелегальных беларускіх выданняў.



*Вацлаў Іваноўскі*

Дзейнасць арганізацыі распачалася з выдання ліста, у якім утрымліваўся заклік прыняць удзел у беларускай выдавецкай дзейнасці. Ліст быў набраны лацінкай, магчыма быў і кірылічны варыянт, але ён не захаваўся. З гэтым лістом-зваротам да розных асоб высылалі асобнік Статута.



*Браніслаў Эпімах-Шыпіла*

Суполка "Загляне сонца і ў наша аконца" была афіцыйна зарэгістравана ў траўні 1906 г. Ва ўправу ўваходзілі В. Іваноўскі (старшыня), Уладзіслаў Сталыгва (сакратар), Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Юры Іваноўскі (брат Вацлава, з Лідскага павета), Вінцэнт Валейка (з Лідскага павета), Сабіна Іваноўская з Ячыноўскіх (жонка Вацлава Іваноўскага, родам з Шаўляя, але яе бацькі паходзілі з Беларусі), Уладзіслаў Калашэўскі.



*Сабіна Іваноўская*

5.5.1906 г. згаданыя асобы ўклалі да канца 1908 года натарыяльную дамову, паводле якой неслі салідарную адказнасць за дзейнасць і абавязкі суполкі. На практыцы амаль усе рэдакцыйныя работы выконвалі В. Іваноўскі і Б. Эпімах-Шыпіла, апошні перадаў на патрэбы суполкі частку сваёй кватэры. Кнігі друкаваліся ў польскай друкарні К.Л. Пянткоўскага кірыліцай і лацінкай, некаторыя паралельна двума шрыфтамі. Асноўная частка накладу адпраўлялася на Беларусь.



*Юры Іваноўскі*

У ліпені 1906 г. выйшаў "Беларускі лемантар, або Першая навука чытання" (лацінскі варыянт) і серыя паштовак, а праз некалькі тыдняў - кірылічны варыянт лемантара і "Першае чытанне для дзетак-беларусаў" Цёткі (у двух варыянтах). Трэці падручнік, "Гутаркі аб небе і зямлі", перакладзены з польскай мовы верагодна К. Кастравіцкім пры ўдзеле В. Іваноўскага, пакінуў друкарню на пачатку 1907. Да сакавіка 1908 суполка выдала чатыры кніжкі пісьменнікаў XIX ст. у



*Вінцэнт Валейка*

серыі "Народныя песняры" - "Дудка беларуская" і "Смык беларускі" Ф. Багушэвіча, "Гапон" В. Дуніна-Марцінкевіча і пераклад дзвюх былін паэмы А. Міцкевіча "Пан Тадэвуш". На пачатку 1908 выйшаў з друку першы зборнік вершаў Я. Купалы "Жалейка". Увесну 1908 плён выдавецкай дзейнасці складалі дзесяць кніжак і крыху больш за дзесяць паштовак.

Затым аж да восені 1909 суполка не выдала ніводнай кніжкі. На гэта паўплываў часовы ад'езд В. Іваноўскага ў Мюнхен, а таксама прэтэнзіі з боку царскай цэнзуры.

30 красавіка 1909 быў заключаны новы дагавор сяброў-заснавальнікаў. З ліку ранейшых чальцоў выбылі Б. Эпімах-Шыпіла і У. Калашэўскі, засталіся В. і С. Іваноўскія, Ю. Іваноўскі, У. Сталыгва, В. Валейка; з'явіліся новыя сябры: Антон Станіслававіч Трэпка-Неканда з жонкай Юліяй, Антон Антонавіч Грыневіч і Генрык Ражноўскі. Адначасова суполка пераехала ў новае памяшканне. Актывы яе істотна павялічыліся, што стварыла магымасці пашырэння выдавецкай дзейнасці. Кіраўніком выдавецтва застаўся В. Іваноўскі, а Ю. Іваноўскі стаў адказным рэдактарам.



*Антон Грыневіч*



*Юлія і Антон Трэпка-Неканда*

У канцы 1909 ў Пецярбург быў запрошаны Я. Купала, які атрымліваў магчымасць для непасрэднага ўдзелу ў выданні ўласных новых твораў. Тут выйшла шэсць першых кніжак Я. Купалы: акрамя "Жалейкі" гэта былі "Адвечная песня", "Гусляр", "Сон на кургане", "Паўлінка" і "Шляхам жыцця" (асобныя з іх выдадзены ў друкарні А. Грыневіча, які распачаў самастойную выдавецкую дзейнасць).

Пачаўся ж другі этап дзейнасці суполкі з выдання ў жніўні-верасні 1909 кнігі В. Дуніна-Марцінкевіча "Вечарніцы". Амаль адначасова пад маркаю "Загляне сонца…" ў Вільні выйшла кніга К. Дулебы "Як ратаваць уздутую жывёлу" (у перакладзе В. Іваноўскага), а ў студзені 1910 падручнік Я. Коласа "Другое чытанне для дзетак беларусаў", выдадзены разам з віленскім таварыствам "Наша Хата". У сярэдзіне таго ж года выйшлі з друку адным томам творы Дуніна-Марцінкевіча "Шчароўскія дажынкі" і "Купала" з уступным артыкулам В. Іваноўскага "Вінцук Дунін-Марцінкевіч і яго жыццё". Гэта была адна з першых спроб паказу складанай фігуры гэтага пісьменніка і ацэнкі яго значэння для беларускай літаратуры. Выхадам кнігі серыя "Народныя песняры" была закончаная.

Апрача таго, у 1910-12 суполка літаграфічным спосабам накладам 200 або 400 асобнікаў выдала рэпертуарную серыю сцэнічных твораў. У серыі выйшлі камедыі "Модны шляхцюк" К. Каганца (1910), "Сватанне" А. Чэхава ў перакладзе Н. Чарнецкага (1910), "Пашыліся ў дурні" (1910) і "Па рэвізіі" (1911) М. Крапіўніцкага, абедзве ў апрацоўцы Н. Чарнецкага, і "Міхалка", перапрацоўка польскай камедыі, выкананая Далецкімі (1911). Суполка выдала таксама драматычныя творы Э. Ажэшкі "У зімовы вечар" (1910, пераклад Власта), "Хам" (1912) і камедыю Я. Купалы "Паўлінка" (студзень 1913).

У 1911 выйшлі яшчэ два выданні: невялікае апавяданне А. Новіча "У дому лепей" і адносна вялікі дапаможнік для пчаляроў Г. Бярозкі "Пчаліна - жывёлка малая, а карысці дае многа".

Напрыканцы жніўня 1911 г. распачалася падрыхтоўка да выдання рэгулярнага альманаха пад назвай "Маладая Беларусь". У 1912-13 выйшлі тры сшыткі; тэматычны профіль вызначалі мастацкія творы: Я. Купалы (тут надрукавана паэма "Сон на кургане"), Я. Коласа, Цёткі, З. Бядулі, Ц. Гартнага, А. Гурло, К. Буйло, Чарнышэвіча, Я. Журбы, А. Новіча, Петрашкевіча. Навукова-папулярную тэматыку прадстаўлялі пераважна артыкулы А. Луцкевіча (пад псеўд. А. Навіна).

Такім чынам, з вясны 1909 дзейнасць суполкі развівалася паспяхова. Разам з узрастаючай колькасцю выдаваных кніжак павялічыўся іх продаж, які нарэшце пачаў прыносіць прыбытак.

На апошнім этапе ў дзейнасці суполкі адбыліся важныя змены, абумоўленыя ад'ездам В. Іваноўскага і Я. Купалы ў Вільню і заснаванне імі там Беларускага выдавецкага таварыства. 1.6.1913 г. адбылася рэарганізацыя ўправы, у якую вярнуўся Б. Эпімах-Шыпіла, а таксама ўвайшлі А. Ярэміч і Я. Сушынскі. Аднак у новых арганізацыйных умовах магчымасці выдавецкай дзейнасці былі абмежаваныя. У другой палове 1913 г. суполка выдала літаграфічным спосабам камедыі "Мядзведзь" А. Чэхава і "Як яны жаніліся" А. Валодзькага ў перакладзе В. Ластоўскага. Выйшлі таксама "Батрак" Я. Коласа, "Абразкі" З. Бядулі, "Песні" Ц. Гартнага, "Амерыканец" А. Новіча - раней яны ўжо былі апублікаваныя ў альманаху "Маладая Беларусь". Нарэшце, прыкладна ў сярэдзіне 1914 была перавы-дадзеная (у няпоўным выглядзе) "Дудка беларуская" Ф. Багушэвіча.

У 1914 годзе выдаўцы сутыкнуліся з фінансавымі цяжкасцямі, цэнзурнымі рэпрэсіямі. А спыніла выдавецкую дзейнасць Першая Сусветная вайна.

Так беларуская шляхта выйшла ў новы паход "па Бацькаўшчыну", і лідзяне былі наперадзе.

***З выкарыстаннем матэрыялаў Вікіпедыі.***

# Лідскія юбіляры 2016 года

## 13 траўня 1901 г. нарадзіўся Вітольд Пілецкі

За удзел ў паўстанні 1863 г. у дзеда Вітольда - Юзафа Пілецкага - быў канфіскаваны маёнтак, і ў выніку Пілецкія былі расцярушаны па абшарах Расійскай імперыі. Бацька Вітольда, Юльян, выпускнік Ляснога інстытута ў Пецярбургу, меў пасаду ляснічага ў горадзе Аланцы, што ў Карэліі. У гэты горадзе ажаніўся з Людвікай Асяцімскай і 13 траўня 1901 г. у іх нарадзіўся сын Вітольд - адзін з пяці дзяцей у гэтай сям'і. У 1910 г. бацькі вырашылі пераехаць на радзіму, але з-за фінансавай мэтазгоднасці бацька працягваў працаваць ва Управе дзяржаўных лясоў старшым рэвізорам, а ў Вільню пераехала Людвіка Пілецкая з дзецьмі. Менавіта ў Вільні Вітольд пайшоў у гандлёвую школу і ў 1913 г. уступіў у скаўты.



*Вітольд Пілецкі*

Выбух Першай сусветная вайны застаў Пілецкіх падчас адпачынку ў Друскеніках. Пасля набліжэння немцаў Людвіка з дзецьмі выехала да сваёй маці ў Гаўрылкава, што на Магілёўшчыне, дзеці ж працягвалі адукацыю ў Арле. На пачатку 1918 г. на Магілёўшчыне стала неспакойна - сяляне рабавалі маёнткі і забівалі іх уладальнікаў. Таму Пілецкая з дзецьмі вяртаецца ў Вільню. А прабыўшы тут некалькі тыдняў, з-за недахопу грошай едзе ў маёнтак Сукурчы пад Лідай, які належаў яе свякрусе Флавіі Пілецкай. Маёнтак не быў раней канфіскаваны, бо быў запісаны на дзявочае прозвішча бабулі Вітольда Пілецкага - Дамейка.

У XIX ст. Сукурчы - цэнтр вясковай акругі (у якой жылі больш за 500 чалавек)[1] і вельмі стары населены пункт, вядома што ў 1690 г. гэты двор у Лідскім дэканаце належаў пані Сцыпіён, удаве Андрэя Сцыпіёна дэль Кампа і меў 6 дымоў[2]. Андрэй Сцыпіён (?-1682 г.), "дзедзіч на Шчучынку, Сукурчах і Сякержынцах", падчашы гарадзенскі, з 1678 г. харунжы вяндэнскі. Ён падпісываў элекцыю караля Міхала Карыбута Вішнявецкага ў 1669 г. ад Лідскага павета, а элекцыю Яна III Сабескага ў 1674 г. - ад Гарадзенскага павета. Ён быў жанаты з Элеанорай Сухадольскай - дачкой Паўла Казіміра Сухадольскага, ваўкавыскага земскага пісара, меў 6 дзяцей, з якіх выжылі 4: дочкі Кацярына і Канстанцыя ды сыны Казімір і Ян. Ян Сцыпіён валодаў пасля бацькі Сукурчамі, Шчучынкам, Балотным (зараз Воранава) і інш. Ад маці ён стаў уладальнікам Канюхоў ў Ваўкавыскім павеце. За дзяржаўную службу Ян Сцыпіён з жонкай атрымаў вёскі Гарні (1708 г.) і Пурсці (1711 г.) у Лідскім павеце. У 1735 г. размясціў у Балотным (Воранаве) кляштар піяраў, а ў 1738 г. у Канюхах - кляштар damініканаў. Такім чынам, Ян Сцыпіён быў першым прадстаўніком свайго роду, які дасягнуў амаль магнацкага статусу: сенатар, двойчы староста, уладальнік некалькіх маёнткаў у трох паветах, заснавальнік двух кляштароў. Наступным уладальнікам Сукурчаў стаў сын Яна - Юзаф Сцыпіён (?-1743 г.)[3]. Калі Сукурчы прыдбалі Нарбуты, невядома, але ў вопісе Лідскага дэканата за 1784 г. двор і вёска Сукурчы належаць падкамораму лідскаму Тадэвушу







*Двор Сукурчы і герб Пілецкіх "Ляліва"*

Нарбуту[4]. Але ж у 1794 г. менавіта тут лідскі староста Юзаф Сцыпіён яшчэ да афіцыйнага абвяшчэння паўстання арганізаваў патаемную прысягу шляхты[5]. У другой палове XX ст., калі Сукурчаў як населенага пункта ўжо не існавала, у народзе захоўвалася памяць пра тое, што адзін з тутэйшых будынкаў быў вельмі стары, на бэльцы яго нібыта была напісана дата - XVI ст.[6]. Апошнім уладальнікам фальварка Сукурчы быў легендарны герой Другой сусветнай вайны Вітольд Пілецкі. За 1 км ад Сукурчаў знаходзіўся фальварак Востраў. Тодар Нарбут так пісаў пра гэты фальварак: *"Востраў, у павеце Лідскім, на захад ад Ліды недалёка ад Мыто, за левым берагам ракі Дзітва, раней уласнасць скарбу літоўскага, дзе быў вялікі палац і да гэтага часу фундамент і склепы захаваліся, гарод меў памер 9 моргаў, у апошнія часы належаў да Тадэвуша Нарбута, падкаморага Лідскага. Зараз, пасля здрабнення праз exdywizye[7], ёсць невялікім фальфаркам..."*[8]. У Востраве Тадэвуш Нарбут на свае сродкі фундаваў капліцу[9], у фальварку каля дарогі мелася карчма, а на рацэ Крупцы - стаў з млынам (другі стаў быў каля Сукурчаў)[10]. Згодна з гісторыкам Тодарам Нарбутам (унучатым пляменнікам Тадэвуша Нарбута) менавіта ў Востраве было падпісана знакамітае Востраўскае пагадненне 1392 г., якое палажыла канец братазабойчай вайне паміж Вітаўтам і Ягайлам[11].

У занятую немцамі Вільню Вітольд Пілецкі вярнуўся восенню 1918 г. і пачаў вучыцца ў гімназіі імя Яўхіма Лелявеля. Адначасова ўступіў у канспіратыўную польскую вайсковую арганізацыю.

Вучыўся нядоўга - ужо 20 кастрычніка 1918 г. Вітольд з іншымі вучнямі ўступіў у аддзел віленскай польскай Самаабароны, якую ўзначаліў генерал Уладзіслаў Вейтка. Хутка Самаабарона ўзяла ўладу ў горадзе. Пілецкі актыўна ўдзельнічаў ва ўсіх дзеяннях па захопу ўлады, а потым рыхтаваўся бараніць Вільню ад наступаючай Чырвонай Арміі - быў старшым на барыкадзе каля Вострай Брамы. У ноч з 5 на 6 студзеня 1919 г. аддзелы Самаабароны пакінулі Вільню, Пілецкі далучыўся да аддзела кавалерыі Самаабароны. У сакавіку гэты аддзел пачаў лічыцца Добраахвотніцкім дывізіёнам віленскай кавалерыі ў складзе рэгулярнай польскай арміі, а ў чэрвені 1919 г. быў рэарганізаваны ў 13 полк уланаў. Полк удзельнічаў ва ўсіх баявых дзеяннях польскай арміі на ўсходзе - пад Лідай, Берасцем, Баранавічамі, Менскам.

Як вучань гімназіі Вітольд Пілецкі 1 кастрычніка 1919 г. быў дэмабілізаваны і аднавіў навучанне ў Віленскай гімназіі імя Лелявеля. Але ўжо ў ліпені 1920 г., пры чарговай бальшавіцкай навале, добраахвотнікам уступае ў 201 полк пяхоты, разам з якім адыходзіць у бок Гародні. Адступаючы разам з палком Вітольд Пілецкі даходзіць да Варшавы, дзе ўступае ў толькі што сфармаваны дабраахвотны полк Наднёманскіх уланаў. Як улан 3 звяза 2 эскадрона гэтага палка ўдзельнічае ў бітвах пад Плоцкам, Млавай, Хажалямі, Друскенікамі, Стоўбцамі і Койданавым, дзе і застаў заканчэнне вайны.

Як віленец, у кастрычніку 1920 г. разам са сваім палком удзельнічаў у выправе генерала Люцыяна Жалігоўскага на Вільню, у выніку якой была створана часовая дзяржава Сярэдняя Літва. Каб працягнуць адукацыю, 1 студзеня 1921 г. старшы ўлан Вітольд Пілецкі быў звольнены з войска. У лютым таго ж года уступіў Звяз бяспекі краю, прайшоў падафіцэрскі курс і стаў камендантам-інструктарам гэтага Звязу ў Новых Свянцянах. У траўні 1921 года ў Вільні здаў экзамены за курс гімназіі перад адмысловай камісіяй для былых вайскоўцаў. Нягледзячы на такі "паскораны" курс адукацыі Пілецкі добра размаўляў на трох замежных мовах: французскай, нямецкай і рускай.

Пасля атрымання атэстата гімназіі Вітольд Пілецкі паступіў у Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя на факультэт Прыгожых мастацтваў. Але брак сродкаў праз запусценне сямейнага маёнтка ў Сукурчах, дзе жылі ягоныя бацькі з малодшымі дзецьмі, цяжкая хвароба бацькі (ён нейкі час знаходзіўся ў бальшавіцкай турме, дзе падарваў здароўе) прымусілі яго пакінуць універсітэт, каб пачаць зарабляць грошы.

Першапачаткова працаваў сакратаром Звязу сельскагаспадарчых гурткоў Віленшчыны, а потым сакратаром следчага суддзі 2-й Судовай акругі ў Вільні. Пачаў завочна вучыцца на сельскагаспадарчым факультэце Познаньскага ўніверсітэта. Адначасова займаўся юрыдычным вяртаннем Сукурчаў сваёй сям'і, што паспяхова закончылася ў верасні 1926 г. Пасля гэтага ён стала пасяліўся тут і пачаў займацца аднаўленнем зруйнаванай гаспадаркі. Паступова спецыялізаваўся на вырошчванні канюшыны і вырабе малочнай прадукцыі[12].



***Вітольд Пілецкі з жонкай Марыяй з Астроўскіх, сынам Андрэем і дочкай Зоф'яй***

Дачка Пілецкага Зоф'я расказвала, што бацька працаваў у полі разам з нанятымі ім парабкамі. Сын, Андрэй успамінаў, як, трохі падросшы, разам з бацькам абыходзіў раллю[13].

Аднак Пілецкага цягнула да войска. У 1925 г. адбыў практыку ў 26-м палку уланаў, які стаяў у Баранавічах і ў 1926 г. атрымаў чын падпаручніка рэзерву з старшынствам з 1923 г. Рэгулярна ўдзельнічаў у вучэннях 26-га палка ўланаў, а ў 1931 г. прайшоў падрыхтоўку ў Цэнтры падрыхтоўкі кавалерыі ў Грудзянцы.

У 1929 ці 1930 гг. Пілецкі пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Марыяй Астроўскай (паходзіла з Вострава-Мазавецкага), маладой настаўніцай школы ў Крупаве. Шлюб паміж імі адбыўся 7 красавіка 1931 г., і ў 1932 г. у маладой сям'і нарадзіўся сын Андрэй, яшчэ праз год - дачка Зоф'я.

Акрамя маёнтка Пілецкі актыўна заняўся грамадскай працай. Быў начальнікам Добраахвотнай пажарнай аховы, старшынём кааператыва па вырабу малочнай прадукцыі (масла кааператыва прадавалася ў Вільні), з мясцовымі землягробамі заснаваў сельскагаспадарчы гурток, дапамагаў бедным. У красавіку 1932 г. заснаваў у Лідскім павеце арганізацыю для падрыхтоўкі кавалерыстаў (кракусаў), якая з 1937 г. падпарадкоўвалася 19-й дывізіі пяхоты.

У жніўні 1937 г. за грамадскую дзейнасць Вітольд Пілецкі быў узнагароджаны Срэбным Крыжам Заслугі[14]. У 1938 г. ён узначаліў Звяз шляхецкіх засценкаў Лідчыны[15].

Мой цесць успамінаў: *"Пілецкага я знаў. Ну, як дзіця, знаў. Ён камандаваў дабраахвотнай арганізацыяй стральцоў. З бальшавікамі першы раз ваяваў ён яшчэ салдатам. У 30-я гады прысвоілі яму афіцэрскае званне. Ну і ён займаўся сваім маёнткам, відаць, што добра ў яго справы ішлі. ... У Сукурчах. Тым, хто ўдзельнічаў у гэтай арганізацыі стральцоў, не трэба было адпрацоўваць такі дарожны абавязак, дарогі ўладкоўваць, ну там жвір вазіць, грэблі будаваць. Вось яны былі свабодныя ад гэтага. Мая хрышчоная, сястра бацькі Клементына Роўба, адразу пасля вайны, у 20-х з мужам нейкі час трымала ў арэндзе гэтыя Сукурчы. І каля Сукурч яны купілі сабе фальварк Надзея, каля Бялевіч пад Гудамі. Пілецкія потым прыехалі на гаспадарку сваю. Па вайне іх адразу не было ... Пасля вайны першым прыехаў яго дзядзька, бацькі брат. Бацька мой, як быў халасцяк, часта бываў у сястры.*

*Ну яны прыехалі, значыць, пачалі самі разгортваць сваю гаспадарку, а мая цётка з мужам купілі Надзею, 70 гектараў. ... І мой бацька ў сястры часта бываў. Пілецкі быў малодшы за бацьку, але яны сябравалі. Пралежвалі ў садзе днямі з маім бацькам. У фальварку Надзея арганізавалі базу для гэтага стралецкага таварыства. Кавалак поля адвялі, за яго дзяржава плаціла арэнду, было выгадна. Таму я яго знаў. А ў нас была добрая кабыла, такая чорная, высокая ... Дык Пілецкі мяне на гэтую кабылу садзіў, у сядло, і вучыў ездзіць. У Надзеі, у цёткі, маёй хрышчонай гэта было. І стральцы вучыліся ездзіць, ставілі такія бар'ерчыкі, цераз іх на конях скакалі. Потым такія галінкі шаблямі секлі. А я, як з бацькам прыеду, любіў пaглядзець на тое, як Пілецкі вучэнні праводзіць. І мяне таксама садзіў на чорную кабылу і вучыў скакаць цераз бар'ерчыкі. Аднаго разу кабыла дайшла да плота, а скакаць не захацела, рабочая кабыла была. Гэта, калі Пілецкі бываў у добрым настроі, і гуляў з дзіцем, са мной, значыць ... гэта было разоў можа з 10. Садзіў на кабылу, а сёдлы ў іх ляжалі, шаблі ляжалі. Шаблю мне не давалі, а сядло прыстасоўваў пад дзіця. Ну яны там трэніруюцца, а я з боку таксама езджу вакол поля. Любіў паездзіць. Бацька быў выдатна з ім знаёмы, і яны разам праводзілі час. Тут яшчэ ў раёне Кербедзяў быў такі Сікорскі, і была ў яго дарослая дочанька, ну дык вярхом да іх у Кербедзі ездзілі. Ну, наогул, вольны час Пілецкі меў і такой справай займаўся ... Ён у форме хадзіў. Гэтыя стральцы па рознаму хадзілі, хто ў цывільным, хто ў вайсковым, а ён у вайсковай форме. Калі меў справу з коньмі ў грамадзе - дык і з шабляй. Але і ў цывільным я яго бачыў"* [16].

Вітольд Пілецкі знаходзіў час, каб пісаць вершы (захавалася і чакае перакладу на беларускую мову яго паэма "Сукурчы") і займацца жывапісам. І зараз у Крупаўскім касцёле, у будаўніцтве якога Пілецкі прымаў удзел, захаваліся два напісаныя ім абразы.

У сярэдзіне 1939 г. з-за надыходу Другой Сусветнай вайны ў Польшчы пачалася мабілізацыя. 26 жніўня была мабілізаваны кавалерыя 19 дывізіі пяхоты. Падпаручнік Вітольд Пілецкі імгненна арганізаваў прызыўны пункт у Крупаве і разам з мабілізаванымі жаўнерамі своечасова прыбыў у свой аддзел. 19 дывізія ўваходзіла ў склад арміі "Прусія". 4 верасня дывізія выйшла ў раён Петрыкава Мазавецкага, заняла абарону і была атакаваная 16 нямецкім танкавым корпусам. Палякі адступілі ў кірунку Тамашава Мазавецкага. Кіраваны Пілецкім эскадрон лідскіх уланаў быў разбіты падчас цяжкіх баёў пад Валбожам. Адступаўшыя жаўнеры разам са сваім падпаручнікам пераправіліся цераз Віслу і далучыліся да нанова фармаванай 41-й дывізіі пяхоты. Пілецкі быў прызначаны намеснікам камандзіра кавалерыі дывізіі маёра Яна Уладаркевіча. Пасля найцяжэйшых баёў 22 верасня 1939 г. дывізія была разбіта. Пілецкі не апусціў зброі і са сваімі ўланамі партызаніў да 17 кастрычніка 1939 г.

Сям'я Вітольда Пілецкага засталася ў Заходняй Беларусі. Марыя Пілецкая з дзецьмі ратавалася ад НКУС у мясцовых людзей. У красавіку 1940 г. ёй удалося перайсці мяжу і пасяліцца ў сваіх бацькоў у Вострaве-Мазавецкім. Тут яна першы раз пасля пачатку вайны сустрэлася з мужам.

Пры канцы кастрычніка 1939 г. Вітольд Пілецкі з'яўляецца ў Варшаве, аднаўляе кантакт з маёрам Янам Уладаркевічам, і разам яны пачынаюць ствараць канспіратыўную групу. 9 лістапада 1939 г. пад час сустрэчы ў кватэры швагеркі Элеаноры Астроўскай прымаецца рашэнне аб стварэнні Тайнай Арміі Польскай (ТАП). На наступны дзень ў гарнізонным касцёле па

вуліцы Доўгай канспіратары прынялі прысягу. Узначаліў ТАП маёр Уладаркевіч "Дарвіш", Пілецкі стаў начальнікам штаба.

У Варшаве Пілецкі жыў пад прозвішчам Томаш Серафінскі. Арыштаваныя немцамі чальцы ТАП патраплялі ў Асвенцым (Аўшвіц). Гэтая прычына разам з рознымі чуткамі, якімі поўнілася Польшча пра гэты лагер, звярнула на яго ўвагу кіраўніцтва ТАП - было вырашана правесці выведку ўнутры лагера. З ведама камандзіра Звязу збройнай барацьбы (Zwiazku Walki Zbrojnej, ZWZ) генерала Стэфана Равецкага "Грота" для выканання гэтай місіі добраахвотна быў вызначаны Вітольд Пілецкі. 19 верасня 1940 г. падчас аблавы ў варшаўскім раёне Жалібор падпаручнік дазволіў арыштаваць сябе і пад прозвішчам Серафінскі ў ноч з 21 па 22 верасня 1940 г. патрапіў у Асвенцым, дзе атрымаў лагерны нумар 4859.

Адразу пасля выгрузкі вагонаў Пілецкі зразумеў, што трапіў у пекла на зямлі - пакуль калону вязняў гналі ў лагер, іх білі і цкавалі сабакамі, адзін з вязняў, як быццам, паспрабаваў уцячы - яго застрэлілі і ў якасці кары эсэсаўцы тут жа расстралялі яшчэ дзесяць чалавек. У тую страшную ноч Пілецкі страціў толькі два зубы. Пасля ўсяго ён напісаў у рапарце: *"Тут мы пакінулі ўсе вялікія мяшкі, да якіх былі прымацаваныя нумары. Тут нам абрылі валасы на галаве і ўсім целе, далі ўмыцца халоднай вадой. Тут у мяне выбілі два зубы за тое, што свой ідэнтыфікацыйны нумар я нёс у руках, а не зубах, як хацеў эсэсавец. Атрымаў у сківіцу цяжкай палкай, выпалі два зубы. Трохі цякла кроў".*

Першую інфармацыю з Асвенцыма з апісаннямі таго, што там робіцца, Пілецкі прыслаў ужо ў кастрычніку 1940 г. Праз некалькі тыдняў гэтая інфармацыя была перададзена генералу Стэфану Равецкаму, які праз Стакгольм пераслаў яе ў Лондан, дзе яе атрымалі 18 сакавіка 1941 г. Да гэтага часу Пілецкі ўжо арганізаваў у лагеры канспіратыўную арганізацыю, якой паставіў наступныя мэты: "Падтрымліваць дух сяброў праз распаўсюд інфармацыі ў свеце, размеркаванне вопраткі, падрыхтоўка аддзелаў для паўстання, калі надыдзе час ...", аднавіў кантакты з чальцамі ТАП, якіх арыштавалі раней, у тым ліку з доктарам Уладзіславам Дэрынгам. Першая пяцёрка канспіратараў паўстала ўжо ўвосень 1940 г. У 1942 г. канспіратыўнай арганізацыяй у лагеры кіраваў палкоўнік Ян Карч, яна налічвала 600 сяброў, з якіх каля 100 асоб прыняў асабіста Пілецкі. Інфармацыя з лагера паспяхова паступала ў вольны свет, і за сваю дзейнасць у лагеры 11 лістапада 1941 г. Вітольд Пілецкі атрымаў чын паручніка.

Увесну 1943 г. лагернае гестапа пачало арышты сярод канспіратараў. З-за пагрозы арышту, Пілецкі ў ноч з 26 на 27 красавіка 1943 г. разам з Янам Рэдзеям (№ 5430) і Эвардам Цясельскім (№ 12969) уцёк з лагера. На волі ён так падсумаваў свой лагерны вопыт: *"Выйшаўшы меў на некалькі зубоў меней ... заплаціў надта танна за такі санаторый".*

Галоўнай мэтай яго на той час стала напісанне справаздачы аб Асвенцыме і падрыхтоўка збройнай акцыі, каб вызваліць вязняў. У Варшаву патрапіў 22 верасня 1943 г. і пачаў актыўна займацца канспіратыўнай працай. Праз нейкі час, каб сустрэцца з сям'ёй з'ездзіў у Востраў-Мазавецкі, потым бачыўся з жонкай і дзецьмі не часта.

За гераізм пад час выканання задання ў Асвенцыме галоўны камендант АК генерал Тадэвуш Камароўскі 19 лютага 1944 г. прысвоіў Вітольду Пілецкаму чын ротмістра, аднак ягоны праект атакаваць лагер не быў прыняты камандаваннем АК.

На пачатку варшаўскага паўстання Пілецкі ваяваў шараговым байцом у 1-м батальёне "Варшавянка". Аднак праз нейкі час стала вядома пра ягоны чын, Пілецкі быў прызначаны камандзірам аднаго з аддзелаў групы "Храбры II". Ваяваў у раёне варшаўскіх вуліц Таварнай, Панскай, Мядзянай і Жалезнай і плошчы Старыкевіча. Будынак рэдакцыі газеты "Рэч Паспалітая", які бараніў яго аддзел атрымаў назву "Рэдут Вітольда". Пасля задушэння паўстання, 5 кастрычніка 1944 г. Пілецкі разам з сваімі жаўнерамі патрапіў у канцэнтрацыйны лагер у Ажараве, потым - у Мурнаў, а потым - у Ламсдорфе. Пасля вызвалення лагера амерыканцамі 29 красавіка 1945 г. Пілецкі прабыў там нейкі час і выехаў у Італію дзе быў прыняты ў II Аддзел штаба 2-га корпуса польскага войска генерала Уладзіслава Андэрса. Летам 1945 г. Вітольд Пілецкі два разы размаўляў з генералам і пачаў рыхтавацца да вяртання ў Польшчу, дзе павінен быў арганізаваць разведвальную сетку для збору інфармацыі.

22 кастрычніка 1945 г. праз Рым, Балонню, Брэмен, Рэгесбург і Прагу выехаў у Польшчу і 8 снежня 1945 г. пад прозвішчам Раман Язерскі Пілецкі прыехаў у Варшаву. Хутка стварыў разведвальную сетку супрацоўнікаў і інфарматараў, якіх набіраў сярод былых жаўнераў ТАП і чальцоў канспіратыўнай арганізацыі ў Асвенцыме. Збіраў інфармацыю пра нарастаючы тэрор НКУС і польскай Службы бяспекі (Urzadu Bezpieczenstwa, UB), дзейнасць іншых канспіратыўных арганізацый, эканамічныя сувязі Польшчы з СССР. Уся інфармацыя дасылалася ў II Аддзел штаба 2-га корпуса ў Італіі[17].

Да гэтага часу на Лідчыне памяталі, што адразу пасля Другой сусветнай вайны Пілецкі пабываў тут, цесць расказваў: *"Ну такая была гісторыя пасля вайны. Расказваў адзін чалавек, Кучынскі, ... з Козіч, я з ім працаваў разам. Ён расказваў, што ў Пілецкага ў доме пасялілася дзяўчына, яна рабіла ў Крупаве брыгадзірам і дэпутатам была. Дык Пілецкі прыйшоў у форме лейтэнанта савецкага, у шынялі, гэта было ў канцы 40-х, ці ў пачатку 50-х, ... Ён мне расказваў, што Пілецкі прыйшоў, але яе не знайшоў. Але пасля гэтага яна тут жа з'ехала. Потым гэты дом неяк быў знішчаны"* [18].

У чэрвені 1946 г. з-за пагрозы арышту Пілецкі атрымаў загад вяртацца на Захад. Гэта быў адзіны загад, які ён не выканаў. Не хацеў вяртацца з-за дзвюх прычын: не меў намесніка, на якога можна было б пакінуць працу і не хацеў пакідаць у Польшчы сям'ю, з якой рэгулярна бачыўся.

Польская Службы бяспекі арыштавала Пілецкага 8 траўня 1947 г. (па некаторым крыніцам 5 тра-

ўня). Адразу быў падвергнуты катаванню пад час допытаў, непасрэдна кіраваў допытамі дырэктар Следчага дэпартамента Міністэрства публічнай бяспекі (Ministerstwa Bezpieczenstwa Publicznego, MBP) палкоўнік Юзаф Ружанскі (потым падчас суда, Пілецкі шаптаў жонцы: "Асвенцым - гэта былі дзіцячыя гульні").

Афіцыйнае следства закончылася 10 снежня 1947 г. Пілецкі быў абвінавачаны ў тым, што "*ў часе ад ліпеня 1945 г. да 8 снежня 1945 г. у Італіі, а потым, з таго часу да часу затрымання ў Польшчы 8 траўня 1947 г. дзейнічаў на шкоду польскай дзяржаве як рэзідэнт замежнай выведкі ... і арганізаваў на тэрыторыі Польшчы выведную сетку ... кіраваў дзейнасцю яе праз загады і інструкцыі ... здабываў дакументы якія былі таямніцай дзяржавы і войска, ... а таксама палітычную інфармацыю пра развіццё і моц уплыву дэмактратычнага блоку ..., развіццё гандлю і структуры гаспадаркі края і замежны гандаль з СССР і іншымі саюзнымі дзяржавамі*".

3 сакавіка пачаўся працэс Вайсковага акруговага суда над Вітольдам Пілецкім і яго сябрамі: Марыяй Шчалангоўскай, Тадэвушам Плужанскім, Рышардам Ямантам-Крывіцкім, Максіміліянам Каўцкім і інш. Старшынём суда быў падпалкоўнік Ян Грыцкавян, чальцамі суда - капітан Юзаф Бадэцкі і капітан Стэфан Навацкі, пракурорам - маёр Чэслаў Лапінскі[19].

Дачка Пілецкага Зоф'я ўспамінала, што падчас судовага працэсу ў школе, дзе яна вучылася, для ўсеагульнага праслухоўвання ўключалася радыё, і яна слухала, як бацьку называлі шпіёнам, злодзеем, лакеем Захаду. У нейкі момант, настаўніца падышла да дзяўчынкі і запытала, ці Вітольд Пілецкі - яе бацька, дзіцё адказала: "Так, гэта мой бацька, і я ім вельмі ганаруся" [20].

Падчас суда Вітольд Пілецкі адкінуў абвінавачванні ў шпіянажы: "Не быў рэзідэнтам, а быў толькі польскім афіцэрам. Выконваў загады да моманту арышту". 15 сакавіка 1948 г. быў агучаны вырак суда: ротмістр Вітольд Пілецкі, Марыя Шчалангоўская, Тадэвуш Плужанскі прыгавораны да страты. Астатнія - да шматгадовага заключэнне ў турму.

7 траўня 1948 г. Вітольд Пілецкі накіраваў прэзідэнту камуністычнай Польшчы Баляславу Беруту ліст з просьбай аб памілаванні: "*Усе жыццё працаваў для Польшчы. Пасля ссылкі майго дзеда царскім урадам за ўдзел у паўстанні 1863 г., пасля ўсіх падзелаў мне па жаночай лініі засталося 37,5 га ворнай зямлі з лугамі. Не спыніўся на працы на зямлі, але пайшоў будзіць народныя масы. Арганізаваў і кіраваў Сельскагаспадарчым гуртком, Добраахвотнай пажарнай аховай, малочным кааператывам 12 гадоў. Стварыў і 7 гадоў кіраваў арганізацыяй па падрыхтоўцы кавалерыстаў ... . Пасля разгрому пад Петрыкавым - па загаду генерала Пякарскага арганізаваў ва Уладаве 13 - 16.IX.1939 г. аддзел 41 дывізіі пяхоты, з якім пасля разгрому дывізіі трымаўся ў лясах да 17.X.1939 г., знішчыўшы 7 танкаў, 2 самалёты на аэрадроме і 1 самалёт у паветры ....*"

Берут адмовіўся памілаваць Пілецкага, але памілаваў Марыю Шчалангоўскую і Тадэвуша Плужанскага. Вырак быў выкананы 25 траўня 1948 г. у 21.30.

Памяць пра Вітольда Пілецкага не загінула. Ужо ў 1957 г. жонка пачала патрабаваць ягонай рэабілітацыі. З 1986 г. пачалося асэнсаванне ягонага вычыну, з 1989 г. яго імем "добраахвотніка ў Асвенцым" пачалі называць школы, вуліцы, скверы. 1 кастрычніка 1990 г. вырак ротмістру Пілецкаму быў цалкамануляваны. 22 студзеня 1995 г. прэзідэнт Польшчы Лех Валенса пасмяротна ўзнагародзіў яго Камандорскім Крыжам ордэна Адраджэння Польшчы. У 2006 г. прэзідэнт Лех Качынскі пасмяротна ўзнагародзіў ротмістра Пілецкага Ордэнам Белага Арла[21].

У сваёй кнізе "Six Faces of Courage" выбітны брытанскі гісторык прафесар Майкл Фут (Michael Foot) аднёс Вітольда Пілецкага да ліку шасці самых ад-важных герояў Другой Сусветнай вайны.

***Леанід Лаўрэш.***

**Літаратура:**

[1] Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego... Warszawa. 1890. T. 11. S. 561.

[2] Metryka Litewska. Rejestry podymnego Wielkiego Ksiastwa Litewskiego: Wojewodztwo wilenskie 1690 г. / Opracowal A. Rachuba. Warszawa, 1989. S. 212.

[3] Данскіх Сяргей. Шляхта італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ: пытанні рэцэпцыі і асіміляцыі // Герольд Litherland № 17. 2006. С. 62-63.

[4] Rybak A. Dekanat lidzki w 1784 roku w swietle opisow parafii. Praca magiterska. Bialystok, 2004. S. 69.

[5] Восстание и война 1794 г. в Литовской провинции (по документам архивов Москвы и Минска)./ Сост., ред. и предисл. Е.К.Анищенко.- Мн., 2001. С. 107-108.

[6] Пацюпа Юры. Tahafut al-Tahafut // Arche №4. 2006. С.205.

[7] У Літве існаваў закон, па якім, у выпадку неплацежаздольнасці даўжніка, яго маёмасць не прадавалася з аўкцыёну, але дзялілася на часткі адпаведна ліку крэдытораў.

[8] Narbutt Teodor. DZIEJE STAROZYTNE NARODU LITEWSKIEGO. Wilno, 1839. T. 5., S.491.

[9] Kurczewski J. Biskupstwo Wilenskie. Wilno, 1912. S. 486.

[10] Rybak A. Dekanat lidzki w 1784 roku w swietle opisow parafii. Praca magiterska. Bialystok, 2004. S. 68. 72-73.

[11] Гл: Лаўрэш Леанід. Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. // Гістарычны альманах. Т. 13. 2007. С. 109-118.

[12] Pawlowicz Jacek. Rotmistrz Witold Pilecki (1901-1948). Warszawa. Instytut Pamiaci Narodowej, 2013. S. 1-6.

[13] Ziemia Lidzka, nr 5 (75), pazdziernik, 2006.

[14] Kurjer Wilenski, № 240 (4203), 24 wrzesnia 1937.

[15] Kurjer Wilenski № 54 (4372), 24 lutego 1938.

[16] Хруль І. І. Размова са старым шляхціцам // Лідскі летапісец, 2012. № 2. С. 57-58.

[17] Pawlowicz Jacek. Rotmistrz Witold Pilecki (1901-1948). Warszawa. Instytut Pamiaci Narodowej, 2013. S. 8-15.

[18] Хруль І. І. Размова са старым шляхціцам // Лідскі летапісец, 2012. № 2. С. 58.

[19] Pawlowicz Jacek. Rotmistrz Witold Pilecki (1901-1948). Warszawa. Instytut Pamiaci Narodowej, 2013. S. 15-16.

[20] Ziemia Lidzka, nr 5 (75), pazdziernik, 2006.

[21] Pawlowicz Jacek. Rotmistrz Witold Pilecki (1901-1948). Warszawa. Instytut Pamieci Narodowej, 2013. S. 17-23.

# "МАЯ ЦІХАЯ ПЕСНЯ ДУБРАЎНАЯ..."

## *Да 100-годдзя Ніны Тарас*

Пра яе як асобу, заходнебеларускую падпольшчыцу і паэтку вельмі цёпла выказваўся падчас нашых сустрэч і гутарак Максім Танк. *"Ніна Тарас тады зарэкамендавала сябе з самага лепшага боку,* - разважаў Яўген Іванавіч, напрыклад, 21 траўня 1993 года, маючы на ўвазе сярэдзіну 1930-х гадоў. - *Гэта быў шчыры, надзейны, аддany справе нацыянальна-вызваленчай барацьбы таварыш, ну, і цікавая паэтэса..."* [9]. Выразнай сімпатыяй і прыхільнасцю прасякнуты яго згадкі Н. Тарас у дзённікавых нататках, а таксама ў аўтабіяграфіі.

Словы М. Танка неаднойчы прыгадваліся мне пазней, калі, пазнаёміўшыся з самой паэткай, напоўніцу адчуў усю глыбіню яе чалавечай натуры, чароўную прывабнасць асобы. Ніна Міхайлаўна сцвярджала высокую культуру ўзаемаадносін, вызначалася падкрэсленай духоўна-маральнай ветласцю, шчырасцю і адкрытасцю стасункаў, лагоднай прыродай характару, душэўна-чалавечай прыязнасцю, чуйнасцю да чужога болю. Гэта была прыгожая сваёй сціпласцю і прастатой, тонкай, высакароднай душэўнай арганізацыі і вялікага сэрца жанчына, далікатная, ранімая, сарамлівая... Яна неяк амаль заўсёды і ва ўсім сумнявалася, ніколі ні на чым асабліва не настойвала, нікога ні ў чым не папракала.

Я заўсёды буду ўдзячны Ніне Міхайлаўне Тарас за тое, што яна адной з першых актыўна падтрымала маё імкненне заняцца вывучэннем заходнебеларускай паэзіі, дапамагла ўдакладніць шэраг важных навуковых аспектаў і фактаў з жыцця канкрэтных творчых асоб на самым пачатку складанай працы. *"Тэма Вашага даследавання пра літаратуру былой Заходняй Беларусі мне вельмі імпануе,* - падкрэслівала яна ў лісце да мяне ў Гародні ад 30 ліпеня 1993 года. - *Вашы пісьмы абудзілі ў маёй душы самыя харошыя пачуцці. Прайшло больш, чым паўвека з тых далёкіх трыццатых гадоў, калі я знаходзілася ў Вільні і рабіла першыя свае крокі ў літаратуру. Не ўсё захавала памяць, многае ўяўляецца расплыўчатым, туманным, а многае - і зусім забылася. Але іменна той - віленскі - перыяд лічу самым светлым у маім жыцці. Там я ўпершыню адчула неабходнасць творчай працы, якая стала сэнсам майго жыцця. І там лёгка пісалася...*

*Ад усёй душы жадаю, каб той далёкі - гераічны - перыяд гісторыі развіцця заходнебеларускай паэзіі знайшоў дастойнае адлюстраванне на старонках Вашай даследчай працы.*

*З найбольшай прыхільнасцю - Ніна Тарас"* [9].

Нарадзілася паэтэса 15 траўня 1916 года ў вёсцы Заполле Наваградскага павета Менскай губерні (цяпер Наваградскі раён Гарадзенскай вобласці) у беднай сялянскай сям'і. Вучылася ў польскай пачатковай школе, у Наваградскай (1930 - 1934) і Віленскай



**Ніна Міхайлаўна ТАРАС** (15 траўня 1916, в. Заполле, цяпер Наваградскі раён Гарадзенскай вобласці - 12 снежня 2006) - беларуская пісьменніца. Сябра СП СССР з 1940 г.

Нарадзілася ў сялянскай сям'і. Сапраўднае прозвішча - **Жданук**. У час Першай Сусветнай вайны дакументы былі згублены, і бацька Ніны (Міхаіл Адамавіч) у час перапісу жыхароў вёскі ўзяў сабе прозвішча **Тарас**, якое потым перадаў і сваім дзецям. Акрамя Ніны ў сям'і Жданукоў былі тры малодшыя сястры і брат.

Першую адукацыю Ніна Тарас атрымала ад бацькі. Калі пачала працаваць сельская школа, яна была залічана ў другі клас, які складаўся з трох вучняў. Навучанне было толькі на польскай мове.

Свой першы верш - "Пастушка" - яна напісала прыкладна ў трэцім класе. Верш трапіў да дырэктара школы, і ён, разам з бацькам Ніны Міхайлаўны, вырашыў паслаць яе вучыцца ў гімназію. Праз некаторы час пачала пісаць вершы на беларускай мове (галоўны чынам пра прыроду). Бацька падтрымліваў Ніну, яе літаратурныя пачынанні. І ў 1930 годзе Ніна, пасля здачы іспытаў, паступае ў трэці клас Наваградскай гімназіі. У тым жа годзе ўступае ў падпольную камсамольскую ячэйку.

У 1934 годзе гімназію закрылі, і Ніна вяртаецца да бацькоў. У той час матэрыяльнае становішча ў сям'і было вельмі дрэннае, але, нягледзячы на гэта, Ніна ўгаворвае бацькоў накіраваць яе на два гады ў Вільню - закончыць гімназію. Так Ніна Тарас апынулася ў Віленскай гімназіі, куды таксама пасля закрыцця Наваградскай гімназіі прыехалі яе сябры-наваградчане з розных класаў. Там жа пазнаёмілася з Максімам Танкам, які ў той час працаваў у рэдакцыі газеты

(1934 - 1936) беларускіх гімназіях.

З Вільняй і яе грамадска-культурным асяроддзем у асабістай і творчай біяграфіі Н. Тарас, сапраўды, вельмі многае звязана. Тут яна сустрэлася і пасябравала з цікавымі людзьмі, вялікімі патрыётамі Бацькаўшчыны, якія непасрэдна спрычыніліся да яе жыццёвага і літаратурнага лёсу - Рыгорам Шырмам, Максімам Танкам, Міхасём Васільком, Валянцінам Таўлаем і інш., тут запачаткавала свой мастацка-творчы шлях, апублікаваўшы першыя вершы ў часопісах "Беларускі летапіс", "Шлях моладзі", газеце "Наша воля".

Мастацкі талент Ніны Тарас развіваўся ў рэчышчы лірыка-апавядальнай стылявой плыні заходнебеларускай паэзіі. Як вядома, да гэтай плыні належалі Гальяш Леўчык, Міхась Васілёк, Міхась Машара, Мікола Засім, Анатоль Іверс, Сяргей Крывец, Алесь Дубровіч і інш. Маладая паэтэса сцвярджала сябе, галоўным чынам, праз засяроджаны роздум над вострымі праблемамі і супярэчнасцямі грамадскага жыцця, самапаглыбленне, выяўленне драматызаванага, поўнага болю, суму і горычы, пачуцця. У яе характары светабачання і ладзе мыслення пераважалі працэсы душэўна-псіхалагічнага абжывання заходнебеларускай рэчаіснасці, суб'ектыўнага адчування і ўспрымання падзей і фактаў, тонкія лірычныя назіранні і ацэнкі. Нехта І.П. у сваёй рэцэнзіі на першы паэтычны зборнік Н.Тарас "На ўсход ідучы", які выйшаў пасля ўз'яднання Беларусі, у 1940 годзе, абгрунтавана адзначаў наступнае: *"Вершы напісаны проста, у іх яшчэ няма спеласці і спрактыкаванасці майстра (гэта толькі першыя спробы пяра), але яны шчырыя, нават непасрэдныя, ідуць ад сэрца - у гэтым характэрная іх рыса. У іх няма ненатуральнага, у іх п535ражытае, бачанае, зведанае, балючае. Гэта азначае, што вершы з'явіліся ў выніку патрабаванняў самога жыцця, народжаны ім, напоўнены яго зместам"* [3, с. 180]. З характарыстыкамі і заключэннямі І.П. шмат у чым пераклікаюцца словы заходнебеларускага літаратара і грамадска-культурнага дзеяча А. Чэмера (А. Анішчыка), які блізка ведаў паэтэсу, часта выступаў з ёю на літаратурна-мастацкіх імпрэзах. У лісце да аўтара артыкула ад 30 студзеня 2001 года ён разважаў: *"Што мне падабалася ў творчасьці Ніны Тарас? Перш за ўсё гарманічнасьць яе паэзіі (форма, распрацаваная сусветнымі класікамі) - моцная рыфма, рытмічнасьць і яснасьць думкі, простай і мудрай. І шчырая, душэўная эмацыянальнасьць.*

*У яе ня было штучнасьці, дурнаватых хітрасплятаньняў (напр., "хмары ў портках ці спадніцах"). І ні цені "напышлівасьці". Усё ясна, усё сьветла, усё рэальна і праўдзіва. Па прыкладу геніяльных паэтаў - Байрана, Шылера, Пушкіна, Лермантава ці Баградановіча і Купалы"* [9].

Характарыстычныя і паказальныя назіранні і заключэнні на гэты конт знаходзім у сучасных даследчыкаў. *"Сіла лірыкі Н. Тарас,* - падкрэсліваў, да прыкладу, А. Лойка, - *у душэўнай чысціні, у даверлівасці інтанацый, выяўленні душы тонкай, чалавечай, адкрытай, а таму шмат у чым безабароннай* "Наша воля". Аднойчы Максім Танк папрасіў у яе верш для газеты "Наша воля". Так упершыню быў надрукаваны яе верш "Яшчэ, веру, ты, вёска, устанеш…"

У 1936 годзе пасля паспяховай здачы выпускнога іспыту Ніна вяртаецца дамоў, дзе ў дрэнным стане знаходзіцца яе сястра Марыся (туберкулёз лёгкіх). У той час матэрыяльныя сродкі ідуць на лячэнне сястры, таму пра паступленне ва ўніверсітэт не магло быць і размовы.

Восенню яна прымае рашэнне пакінуць назаўсёды родны дом, і другога верасня выязджае ў Вільню ў пошуках працы. Пасля доўгіх, безвыніковых пошукаў, звяртаецца ў Віленскае бюро працы. Першым месцам працы аказваюцца звычайныя парнікі ў раёне Звярынца, якія трэба было прыводзіць у парадак. У той жа час кватэра, у якой Ніна пражывала з сяброўкай, становіцца явачнай. Часта для сустрэч з падпольшчыкамі на явачную кватэру прыходзіў і Максім Танк. У той жа час (прыкладна 1935 год) Ніна рыхтуецца да паступлення на філалагічны факультэт (партыйная арганізацыя хацела паслаць яе вучыцца). Адначасова з падрыхтоўкай да паступлення піша і друкуе новыя вершы, пакуль існуюць газеты "Наша воля" і "Па-просту".

Увесну 1937 года, пасля атрымання паведамлення ад бацькоў, Ніна вяртаецца дамоў каб наведаць сястру, якая адчувае сябе вельмі дрэнна. Прайшло лета, а восенню сястры Марыські не стала. У Вільні пачаліся арышты падпольшчыкаў, таму Ніне не ўдалося вярнуцца туды. Таксама не ўдалося і паступіць ва ўніверсітэт.

Летам 1938 года выходзіць замуж за Янка Федаровіча і пераязджае жыць да мужа ў Ліду, дзе ён меў свой домік.

*"Чырвоную армію сустракала ў Лідзе. А праз нейкі час пайшла працаваць у лідскую газету "Уперад". Гэта была першая праца ў маім жыцці". "Пачалося новае, вольнае, поўнае захаплення жыццё. Новыя вершы, літаратурныя старонкі ў газеце. Праца грамадская - мяне выбіраюць дэпутатам Лідскага гарадскога савету; прымаюць у члены ВЛКСМ - ужо фармальна, па ўсіх правілах. Выступленні перад выбаршчыкамі, перад чытачамі"*, - пісала ў сваёй аўтабіяграфіі Ніна Тарас. У 1940 годзе выходзіць першы зборнік - "На ўсход ідучы".

Вялікую Айчынную вайну сустрэла ў Лідзе. У 1942-1944 гг. сувязная лідскай спецгрупы партызанскай брыгады імя С.М. Кірава і партызанскага атрада імя Р.І. Катоўскага брыгады імя Ф.Э. Дзяржынскага Баранавіцкай вобласці. У час вайны хата Ніны Міхайлаўны выкарыстоўвалася для явак партызан. Праз некаторы час хата згарэла, згарэлі і ўсе рукапісы, памятныя кнігі і іншыя каштоўныя ёй матэрыялы.

Зноў працавала ў райгазеце "Уперад" (1944-1945), была стыльрэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве БССР (1945-1946), літработнікам рэдакцыі газеты "Піянер Беларусі" (1951-1953), літкансультантам пры рэдакцыі газеты "Звязда" ў Менску.

У пасляваенныя гады друкавала зборнікі вершаў, пісала аповесці. Вучылася завочна ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, які так і не скончыла. Скончыла Вышэйшыя двухгадовыя курсы ў Маскве.

Узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны II ступені, медалямі.

Аўтар зборнікаў вершаў "Суніцы" (1946), "Вершы" (1952), "Кветка шчасця" (выбранае, 1958), "Пад белым яварам" (выбранае, 1966), "У тапаліную замець" (вершы і паэма, 1976), "Праметэю прыйду пакланіцца" (1981), "Праз вятры-завеі" (выбранае, 1986). Напісала кніжкі паэзіі для дзяцей "Казкі пра абавязкі" (1955), "Наш бор" (1968).

Паасобныя вершы сталі папулярнымі песнямі ("Сонца за хмарамі ўранні…").

Перакладала з рускай, украінскай, польскай моў.

*перад грубасцю і абыякавасцю. Лірычную гераіню паэтэсы лёгка параніць, бо яна - чуллівая, як мембрана, яна - імгненны рэзанатар, настроены на абвостранае перажыванне ўсяго, што дзесьці, камусьці баліць, пагражае, кагосьці зневажае і ганьбіць"* [5, с. 4].

Н. Тарас адкрыта глядзела на знешні свет, пазнавала яго адвечныя таямніцы і загадкі, сумныя рэаліі і канкрэтыку праз усведамленне сваёй унутранай, душэўна-чалавечай повязі з ім, лучнасці з клопатамі і турботамі працоўнай масы, духоўна-маральнага сумоўя з прадстаўнікамі грамадска-патрыятычнага руху, прыналежнасці да ўсяго ходу сацыяльных змен і зрухаў і адказнасці за яго. У яе паэтычным малюнку, натуральна, прысутнічалі прадметы і аксесуары аб'ектыўнай рэчаіснасці, у прыватнасці, сялянскай жыццядзейнасці, але яны амаль заўсёды сумяшчаліся з тонкімі лірычнымі вобразамі, спалучаліся з пластычна-выяўленчымі паралелямі і асацыяцыямі, у якіх пераважалі цёплыя, мяккія, стрыманыя колеры і адценні:

*Лёгка ўздыхнулі у полі вятры,*
*Сонца ясней узышло, як учора.*
*Жаўранак недзе у хмарах разліў*
*Звонкае гора.*

*За баразною ішоў аратай,*
*Ціха на коніка нукаў;*
*Можа, й не цяжка, а неяк спіна*
*Гнулася крукам.*

*Думаў пра хату, што хлеба няма -*
*Дзеткі абедаць паселі...*
*Маці на пальцах худых да жніва*
*Лічыць нядзелі.*

*Не сумавалі, здаецца, цяпер*
*За пустой міскай чацвёра...*
*Мо грэла сонца у вокны ясней,*
*Лепш, як учора.* [7, с. 9]

("Вясна")

Відаць, менавіта гэтая акалічнасць дала падставы Н. Левіну, другому рэцэнзенту зборніка вершаў "На ўсход ідучы", пераканана заўважыць: *"Ніна Тарас - "ціхая" паэтэса. Яна ўнікае гучных слоў і гаворыць нібы ўпаўголаса. Яе палітра ведае толькі напаўпрытушаныя, спакойныя фарбы"* [4, с. 3].

Н. Тарас задумвалася над балючымі рэаліямі, задаўненымі супярэчнасцямі заходнебеларускай рэчаіснасці, асаблівасцямі складанага і беспрасветнага жыцця народа, сацыяльных нізоў грамадства, імкнулася вытлумачыць іх прычынную сутнасць і абумоўленасць, блізка да сэрца прымала людскую нядолю, чалавечыя беды і няшчасці. Яе лірычная гераіня востра адчувала дэфіцыт праўды і справядлівасці ў грамадстве, шчырасці і даверу, чуласці і спагады, гарманічных адносін паміж людзьмі, асуджала бяспраўе, здзек і прыніжэнне. Гэта добра відаць на прыкладзе вершаў "Вясна", "Замятае снегам", "На бруку", "За кудзеляй" і інш.

У вершы "Замятае снегам" паэтэса намалявала вобраз панурага, падбітага цяжкім шляхам і непасільным горам адзінокага падарожніка ў лапцях на нагах і з торбаю за плячыма, які *"Праз вятры-завеі ды у свет ідзе"*. Яго выгналі з дому скрутныя жыццёвыя няўладзіцы, матэрыяльная нэндза, бясхлебіца і беспрасвецце. Лютуе пранізлівы вецер, настырна змяіцца снежная дуйка, нудны далягляд усцілае прыцмелыя навакольныя абшары (*"Замятае снегам зналыя дарогі, Ні агню, ні следу вокала нідзе..."*), а ён, занядбаны непрыхільным лёсам і прыгнечаны цяжкімі думамі, цягавіта крочыць па бездарожжы, адольвае шлях ад адной вёскі да другой у пошуках хлеба і спагады, падтрымкі і надзеі.

*Пракладаюць сцежку па сумётах лапці,*
*Пакідаюць лапці доўгія сляды...*
*Ці ж за хлебам лёгка па людзях цягацца?*
*Эх, жыццё, жыццё ты, цяжкія гады!..*

*Латае сярмягу неспакойны вецер*
*І над лёсам горкім плача у галлі,*
*Ды ізноў імчыцца па шырокім свеце*
*Праз палі глухія, снежныя палі.*

*Хіба там, у вёсцы, дзе сплялося гора,*
*Дзе дрыжыць ад сцюжы вечарам сям'я,*
*Вынесе батрачка лустачку з каморы,*
*Хоць вясной спаткае голад і сама.* [7, с. 12-13]

У вершы "На бруку" прадметам увагі і лірычнага роздуму Н. Тарас з'явілася чалавечая трагедыя - ціхая, непрыкметная, маўклівая смерць у адным з цёмных гарадскіх завулкаў бяздомнай галоднай жанчыны. У ім паэтэса здолела стварыць зрокава наглядную, псіхалагічна насычаную, пераканаўчую і ўражлівую карціну.

Звяртаюць на сябе ўвагу дэталі гэтай карціны, несумненна, удала расстаўленыя маладой аўтаркай сэнсавыя і эмацыянальныя акцэнты. Позні асенні вечар (*"Хутка дзень заплюшчыў змораныя вочы..."*), аселы змрок і раскінутыя *"густыя цені на бруку"*, цяглы, золкі дождж, які *"сцюдзёна шыбы, звонячы, палошча, Гасіць на прадмесці ліхтары, вітрыны"*, і парывісты, колкі вецер. *"І жыло ў завулку нешта і дрыжэла..."* Паэтэса праводзіць тонкую псіхалагічную паралель паміж станам прыроды і тым, што адбылося "Пад сырой сцяной" на халодным, мокрым бруку.

*Атуліўшы дзіця хусткаю парванай,*
*Пад сырой сцяной галодная сядзела,*
*Галаву схіліла ніжай, як прад панам, -*
*Хіба, можа, болей есці не хацела.*

*І ніхто не бачыў, як яна сканала...* [7, с. 13]

На першы погляд, шараговае здарэнне, прыватны выпадак з жыцця Заходняй Беларусі набыў пад пяром Н. Тарас адметную сімвалічную афарбоўку,

рысы сацыяльнай заканамернасці і тыповасці, стаўся матэрыялам для роздуму паэтэсы адносна чалавечай долі ва ўмовах грамадства, заснаванага на несправядлівасці і прыніжэнні. Досыць шматзначна і ў той жа час характарыстычна гучаць заключныя радкі верша:

*"Ды нашто галодным заглядаць у вочы?!*
*Толькі доўга вецер па глухіх кварталах*
*Скавытаў асенняй неспакойнай ноччу"*
[7, с. 13].

Трэба сказаць, Н. Тарас здолела адчуць і раскрыць тыя зрухі, якія адбываліся ў свядомасці народных мас, асаблівасці рэвалюцыянізацыі працоўнага асяроддзя. У яе лепшых вершах знайшлі сваё выяўленне маўклівае непрыманне і асуджэнне героем негатыўных працэсаў з жыцця Заходняй Беларусі і яго адкрытая перасцярога, папярэджанне сваіх апанентаў, цягавітае цярпенне, прытоенае супрацьстаянне палітыцы сацыяльнага і нацыянальнага ўціску і пратэст, вера ў непазбежны надыход якасных пазітыўных змен і пераўтварэнняў. Р. Бярозкін, выдатны знаўца паэтаў і паэзіі, несумненна, меў рацыю, калі адзначаў: *"Вуснамі М. Танка альбо П. Пестрака гаварыў актыўны змагар, рэвалюцыянер-прафесіянал, той, хто вёў за сабой народныя масы. Творчасць жа такіх паэтаў, як Ніна Тарас, адлюстравала працэс равалюцыянізацыі, які адбываўся ў заходнебеларускай вёсцы, у свядомасці тых, каго вялі за сабой камуністы. Тое, што Ніне Тарас удалося па-свойму, з вялікім адчуваннем жыццёвай праўды, перадаць найбольш характэрныя бакі гэтага працэсу, ды яшчэ ў спецыфічна-жаночым яго праламленні, робіць яе паэзію з'явай цікавай і знамянальнай ва ўсіх адносінах"* [2, с. 30].

Думаецца, выяўленне гэтага працэсу шмат у чым было абумоўлена і той акалічнасцю, што паэтэса знаходзілася пад моцным уплывам асобы і творчых пошукаў М. Танка, што непасрэдна адбілася як на змесце, тэматыцы і праблематыцы яе вершаў, так і на іх форме, мастацка-стылявых асаблівасцях.

Лірычная гераіня верша "Ужо зіма" імкнецца знайсці сябе як асобу, усвядоміць сваё прыроднае, лёсаноснае наканаванне, жыццёвую місію, задумваецца над сваім месцам і роляю ў чалавечай супольнасці, грамадскіх варунках. Ёй сняцца *"шляхі нязнаныя Праз межы, вузкія палі"* [7, с. 16]. Яна глядзіць наперад, марыць аб шчаслівым будучым, прыгадваючы нядаўняе мінулае, свае родныя ваколіцы і ўсё, звязанае з імі: крынічку, якая *"ўецца на лугу"*, *"вербы ў ціхай лёгкай просіні"*, што навяваюць *"светлую тугу"*, у водгуках звонкай без слоў песні вёску... Яна вяртаецца да бацькоўскай хаты, матчынага парога, вандруе знаёмымі юнацкімі сцежкамі, паэтызуе блізкія і дарагія сэрцу мясціны і краявіды. Усё гэта, натуральна, з'яўляецца крыніцай яе ўражанняў і перажыванняў, пакут і роздуму, назаўсёды стала часцінкай яе душы і яе самой.

*Цяпер зіма... І шлях замецены*
*Не раз снягамі уначы...*
*Сумуе маці недзе вечарам,*
*Кудзелю тонка прадучы,*
*А прада мною зноў нязнаныя*
*Дарогі, вузкія палі.*
*Хоць позна ўжо, і, ветрам гнаныя,*
*Далёка хмары адплылі.* [7, с. 17]

У большасці вершаў Н. Тарас 1930-х гадоў традыцыйная для беларускай паэзіі апавядальная аснова выглядае прыкметна паслабленай, сюжэтная лінія (калі яна ёсць) пакідае адчуванне прыглушанасці, як бы недавыяўленасці, вытрымана ў сваіх контурных абрысах. Вядучае ж месца ў іх займае лірычны пачатак з медытатыўным адценнем, гэтак званы працэс паглыблення ў сферу свядомага, трывожлівая развага аўтаркі, як у наступных радках:

*Эх, мая доля, доля дзяўчыны, -*
*Цяжка застацца адной!..*
*Помню, любіла, казаў: "Не пакіну..."*
*Арыштавалі вясной.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Жала я жыта летам у полі,*
*А пасярод каласоў*
*Блытаўся вецер у сінім прыволлі -*
*Мілы ка мне не прыйшоў...* [7, с. 14]
("За кудзеляй")

Так, у паэзіі Н. Тарас мы не сустрэнем той канкрэтыкі прадметна-рэчыўнага мыслення, характэрнай фактурнасці і дэталізацыі вобразна-метафарычнага выяўлення і раскрыцця жыццёвых працэсаў, часам ролевага пераўвасаблення героя, якія вызначалі, напрыклад, мастацкае пісьмо М. Засіма, некаторых іншых аўтараў. Яна была досыць далёкая ад распаўсюджанай і папулярнай у Заходняй Беларусі, асабліва ў насычаныя важнымі грамадскімі зменамі, сацыяльнымі ўзрушэннямі 1920-я гады, эталагічнай, публіцыстычна-заклікавай, часам псеўдааптымістычнай лірыкі. У аснове яе зместу палягаў не расказ пра пэўныя падзеі і факты, а выяўлялася маналагічная споведзь аўтаркі, поўная ўсведамлення складанасці і драматызму часу, душэўнай трывогі, суму і шкадавання, прадчування новых нягод і выпрабаванняў, а таксама страт. Гэта была паэзія не характэрнага адмабілізавана-эталагічнага сцвярджэння і вываду, а працэсу, развіцця, аналізу, пошуку праўды і ісціны, ідэалу, не дыдактычнага павучання, а выхавання праз довад, перакананне, раскрыццё складанага свету душэўна-псіхалагічных перажыванняў. Дадзеныя асаблівасці знойдуць сваё далейшае развіццё ў творчасці Н. Тарас савецкага перыяду. Праз многія гады, характарызуючы зборнік вершаў паэтэсы "У тапалiную замець" (1976), П. Пестрак у лісце да яе адзначыць наступнае: "Здаровае думанне і пачуццё. Ясная, паэтычная акрэсленасць думак і вобразаў. У пабудове вобразаў моцна праяўляецца адчувальнасць аўтара "сваіх" жыццёвых абставін, пад уплывам якіх аўтар і вядзе-выкладае задуму свайго сюжэту, вядзе роўна, упэўнена, з харошым пачуццём меры, ад чаго і плыве ўвесь паэтычны, ураўнаважаны, цёплы сказ творчай плыні" [8, арк. 2].

Варта заўважыць, што творчасці Н. Тарас 1930-

х гадоў была ўласціва прыкметная праблемна-тэматычная абмежаванасць; лірычнай гераіні паэтэсы не ставала цэльнасці характару, яе вызначала пэўная расслабленасць у раскрыцці душэўна-псіхалагічных перажыванняў. Гаворачы пра вершы Н. Тарас "Вясна", "Яшчэ, веру...", "Замятае снегам" і "На бруку", якія з'яўляюцца лепшымі ў яе творчасці 1930-х гадоў, У. Анісковіч, услед за іншымі крытыкамі і літаратуразнаўцамі, падкрэсліваў, што іх індывідуальна-аўтарская адметнасць у мастацкім выяўленні рэчаіснасці, "эстэтычнае ўздзеянне" на чытача паслаблены "рыторыкай, апісальніцтвам, дэкларатыўнасцю, часам і няўменнем арганізаваць настроі, ураженні адной вобразнай думкай" [1, с. 3].

У гады вайны Н. Тарас становіцца актыўным удзельнікам барацьбы з ворагам, з'яўляецца сувязной партызанскіх брыгад імя С. Кірава і Ф. Дзяржынскага. З 1945 года жыве ў Менску, працуе стыльрэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, выдае зборнік "Суніцы" (1946), які склалі вершы ваеннага тэматычнага пласта. Яны характарызуюцца значнасцю ідэйнага зместу, арыгінальнасцю назіранняў, непасрэднасцю аўтарскага пачуцця. Глыбокім смуткам поўніцца, напрыклад, верш "Суніцы", пабудаваны па прынцыпе кантраснага супрацьпастаўлення пластычных малюнкаў даваеннай і ваеннай рэчаіснасці. На фоне мірнага жыцця і стваральнай працы людзей падкрэслена дысанансна гучаць наступныя характарыстычныя радкі:

*"Тырчаць балюча коміны руінаў,*
*Разносіць вецер попел па траве…"* [7, с. 30].

У 1950-я гады Ніна Тарас працуе ў газеце "Піянер Беларусі", літкансультантам рэдакцыі газеты "Звязда". У 1957 годзе заканчвае вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. У пасляваенны час выйшлі наступныя яе кнігі: "Вершы" (1952), "Кветка шчасця" (выбранае, 1958), "Пад белым яварам" (выбранае, 1966), "У тапаліную замець" (вершы і паэма, 1976), "Праметэю прыйду пакланіцца" (1981), "Праз вятрызавеі" (выбранае, 1986). Выдала кніжкі для дзяцей "Казкі пра абавязкі" (1955), "Наш бор" (1968). У 1960 - 1980-я гады істотна пашыраюцца ідэйна-тэматычныя абсягі творчасці паэтэсы. Адзначаныя кнігі засведчылі не толькі адлюстраванне праблем сучаснага грамадска-сацыяльнага жыцця, мірных працоўных клопатаў беларуса ("Знаю, дзень гэты пройдзе", "Я ў захапленні на палі гляджу…", "Заўжды мы марым аб нечым узнёслым…"), але і зварот да драматычна-трагічных старонак заходнебеларускага мінулага, героікі рэвалюцыйнага падполля, вогненнай памяці ваеннага ліхалецця ("Як жа маглі б мы жыць без надзеі…", "Памяці Валянціна Таўлая", "Ельнік вясняны пахне смалою…", "Фіялкі", "Ля абеліска"). У паэзіі Н. Тарас у добрай згодзе суседнічаюць вершы пра высокую красу роднай зямлі, вёску, дарагі і любы сэрцу бацькоўскі кут, прыродаапісальныя замалёўкі ("Елачкі", "Ад спёкі, што цэлы паліла дзень…", "Яшчэ пад Мінскам белыя сумёты…"), багатая на матывы і эмоцыі любоўная лірыка ("Рамонкі", "Мы з мілым размінуліся", "Адчуваю з днём кожным: усё ад цябе адыходжу…"), а таксама творы на тэму паэта і паэзіі, прысвечаныя таямніцам мастацка-творчага акту ("Мая ціхая песня дубраўная…", "Слова пра слова", "Вершы, бы дзеці, нараджаюцца ў муках…"). Але, галоўнае, у творчасці паэтэсы прыкметна ўзрастае вага духоўна-гуманістычнага пачатку, паглыбляецца асабовасць ідэйна-эстэтычнага дыскурсу, узмацняецца шматмернасць аўтарскай думкі, сінтэтычнасць перажывання, давер да усёй парадыгмы ўнутранага свету асобы, багатага вопыту пражытага і інш. ("Вёскі родныя", "У белай палаце", "Мая дарога"). Н. Тарас актыўна ступае на шлях самапазнання, імкнецца вызначыць аснаватворны змест з'яў і падзей. Яна асэнсоўвае працэсы грамадскай рэчаіснасці ў цеснай спалучанасці бягучых актуалій паўсядзённасці і гістарычнага мінулага, у іх суаднесенасці з унутраным самаадчуваннем лірычнай гераіні:

*Бывае так, што нешта ўскалыхнецца*
*Ў душы тваёй, і ўжо на ўсе лады*
*Тут песня нечаканая пальецца,*
*Нібы струмень гаючае вады.*

*І месца ёй у сэрцы не стае -*
*На волю рвецца ў сінія прасторы…*
*Глядзіш, і падхапілі ўжо яе*
*Даліны неабсяжныя і горы.* [7, с. 90]

Лепшыя вершы Н.Тарас гэтага часу сведчаць пра актыўнае духоўна-сацыяльнае жыццё паэтэсы і ўтвараюць характэрную ідэйна-эстэтычную цэласнасць. Перад намі асоба, якая прайшла доўгімі шляхамі-дарогамі нягод і выпрабаванняў і ведае цану сапраўдным каштоўнасцям чалавечага жыцця.

*"Ростань мяне навучыла зараз*
*Цаніць усё роднае і дарагое",*

сцвярджае Н. Тарас у вершы "Ці помніш белыя ў лесе канваліі?" [7, с. 72]. А гэта - з верша "Помнік культуры":

*"Мне цяжка было б без птушынага звону,*
*Без летніх наднёманскіх подыхаў свежых…"*
[7, с. 83].

Філасофска-медытатыўны, аналітычны пачатак дамінуе ў вершы Н. Тарас "Мой белы свет, на луг сцяжынка тая…" Лірычная гераіня паэтэсы робіць своеасаблівы вертыкальны зрэз свайго нялёгкага жыццёвага лёсу, апелюе да мілых і дарагіх аксесуараў дзяцінства, звязаных з вясковым прыволлем, чароўнай красой бацькоўскай зямлі:

*Мой белы свет, на луг сцяжынка тая,*
*І сажалка, і ў квецці сенажаць…*
*Лілея ціха-ціха дацвітае,*
*Таўкачыкі у завадзі дрыжаць.*

*Сяброўка мілая, лілея, прыгарніся,*
*Схілі свае пялёсткі пад рукой.*
*Маё дзяцінства, да мяне вярніся.*
*З рамонкамі, вянкамі васількоў.*
[7, с. 92 - 93]

Звяртае на сябе ўвагу маральная чысціня перажывання: мяккая душэўнасць, летуценнасць перапляталоцца тут з унутранай дабратой і даверлівасцю споведзі. У свядомасці паэтэсы паўстаюць стрыжнявыя этапы асабістай біяграфіі, жыццёвага шляху:

*Няхай панікне дзесьці там, удалі,*
*Мінулы шлях, нібы ў забытым сне,*
*І той, з кім лёсу разлучылі хвалі,*
*Праз далячынь гадоў хай не кляне;*

*Прабачыць мне за тое, што не з поўным*
*Жыццёвую дарогу перайшла*
*І не пакінула яму хвілін чароўных,*
*Ні кропелькі душэўнага цяпла.* [7, с. 93]

Паэтэса гаворыць даходліва, вобразна-выразна, па-мастацку пераканаўча. Мы тут бачым і радасць, і дакор, і шкадаванне… Праявы часовага, хуткацечнага арганічна кладуцца ў агульнае рэчышча вечнага, анталагічнага. Рэалізуючыся праз матыў асацыятыўнай памяці, лірычная эмоцыя заключае ў сабе адзнакі напружанага духоўна-філасофскага роздуму і сацыяльна-маральнага пошуку лірычнай гераіні. Верш у цэлым прасякнуты элегічна светлай танальнасцю:

*Сама нічога не ўзяла з сабою,*
*Як толькі гэтую нябёсаў сінь*
*І толькі шлях нязнаны ўдалячынь,*
*Ды песню, што заўжды была са мною.*
[7, с. 93]

Даволі разнастайная паэзія Н. Тарас у стылёвавыяўленчым плане. Мы заўважаем у ёй і грамадзянскі маналог, і філасофскую медытацыю, і горкую споведзь, і лірычную імпрэсію, і проста верш-замалёўку з нагоды.

У артыкуле з нагоды 50-годдзя паэтэсы пад характэрнай назвай "Жніво" Е. Лось падкрэслівала: *"Вершам Ніны Тарас уласцівы лагодны "жаноцкі" лірызм, настраёвасць, шчырасць. Паэтэса нібы знарок пазбягае эфектных словатвораў, гучных рыфмаў і рытмаў. Яна нібы хоча даказаць, што і ціха сказанае паэтычнае слова мэты дасягне"* [6, с. 4]. Так, творчасць Ніны Тарас сціשаная, пяшчотная, задушэўная. Яна някідкая як па сваім ідэйным пафасе, праблемна-тэматычным змесце, так і ў паэтыка-стылявым плане. Не прэтэндуючы на вырашэнне нейкіх глабальных тэм і праблем, лірыка паэтэсы займае даволі сціплае месца ў гістарычна-літаратурным працэсе Беларусі пасляваеннага перыяду - "як валошка ў сінім вяночку, кропля светлая ў ручаёчку". Дарэчы, гэта добра ўсведамляла і сама Н. Тарас, пра што сведчаць наступныя радкі яе вядомага верша:

*Не думаю пра ямбы і харэі*
*І націскаў на пальцах не лічу,*
*І рыфмай самай моднай не хварэю,*
*І наўздагон за славай не лячу.*

*А прагну ўсё ж, каб мой напеў нягучны*
*Хаця б малой крынічкаю звінеў,*
*Сярод лугоў, сярод травы гаючай*
*Струменем чыстым булькатаў на дне.*
*Каб кожны, хто жадае тут напіцца,*
*Сумеў хоць трохі смагу наталіць*
*І каб адчуў, што б'ецца ў той крыніцы*
*І боль, і радасць роднае зямлі.* [7, с. 144 - 145]

Адметнай летуценнасцю светаўспрыняцця, тонкай пачуццёвасцю, пяшчотнасцю лірычнага мыслення прасякнуты многія мастацка-вобразныя структуры паэтэсы:

*"Сабралі мы пшаніцу ў добры час -*
*Зярняты на далоні, быццам зоры"*
("Я ў захапленні на палі гляджу…"),
*"Летам звонка шпакамі пяе*
*Груша кожная, кожны клён"*
("Вёскі родныя"),
*"Елачкі ў снезе, бы ў танцы дзяўчынкі, застылі"*
("Елачкі") і інш.

Памерла Ніна Тарас 12 снежня 2006 года, пражыўшы вялікае, насычанае значнымі падзеямі і пераўтварэннямі жыццё. Лепшыя вершы паэтэсы сцвярджаюць высокія прынцыпы дзейнасці асобы і вызначаюцца чысцінёй духоўна-маральных ідэалаў і памкненняў гераіні, святлом гуманізму, мужнай спавядальнасцю, глыбінёй лірычнага роздуму, звернутасцю да адкрытага грамадзянскага раскрыцця думак і пачуццяў. Яны кранаюць і запамінаюцца цеплынёй і шчырасцю ў паэтызацыі Бацькаўшчыны, тонкім пранікненнем у філасофію жыцця сучасніка, адметным асэнсаваннем вечных праблем, пластычнай выяўленчасцю прыродных малюнкаў.

***Мікола Мікуліч.***

**Спіс літаратуры:**

1. Аніскові, У. Плён гадоў / У. Аніскові // ЛіМ. - 1967. - 12 мая. - С. 3. - Рэц. на зб.: Тарас, Н. Пад белым яварам: выбр. вершы / Н. Тарас. - Мінск: Беларусь, 1966. - 247 с.

2. Бярозкін, Р. "Кветка шчасця" / Р. Бярозкін // Беларусь. - 1959. - № 7. - С. 30. - Рэц. на зб.: Тарас, Н. Кветка шчасця: выбр. вершы / Н. Тарас. - Мінск: Дзяржвыд БССР, 1958. - 180 с.

3. І.П. [Рэцэнзія] / І.П. // Полымя рэволюцыі. - 1941. - № 1. - С. 180-181. - Рэц. на зб.: Тарас, Н. На ўсход ідучы... (вершы) / Н. Тарас. - Мінск: Дзярж. выд-ва пры СНК БССР, 1940. - 43 с.

4. Левін, Н. Вера ў жыццё / Н. Левін // ЛіМ. - 1940. - 14 вер. - С. 3. - Рэц. на зб.: Тарас, Н. На ўсход ідучы... (вершы) / Н. Тарас. - Мінск: Дзярж. выд-ва пры СНК БССР, 1940. - 43 с.

5. Лойка, А. Шчырая песня / А. Лойка // Тарас, Н. Праз вятры-завеі: вершы / Н. Тарас. - Мінск: Маст. літ., 1986. - С. 3 - 6.

6. Лось, Е. Жніво / Е. Лось // ЛіМ. - 1966. - 20 мая. - С. 4.

7. Тарас, Н. Праз вятры-завеі: вершы / Н. Тарас. - Мінск: Маст. літ., 1986. - 176 с.

8. ЦНБ НАН Беларусі, аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. - Фонд 33. - Воп. 1. - Адз. зах. 414. Кароткія заўвагі на вершы Тарас Н., якія ўвайшлі ў зборнік "У тапаліную замецъ" / П. Пестрак.

9. Цыт. па матэрыялах, якія захоўваюцца ў аўтара.

# Паненка з навабеліцкага саду

## *Да 60-годдзя з дня нараджэння Ірыны Багдановіч*

### Аўтабіяграфія

Нарадзілася я ў той час, калі пачаўся актыўны працэс рэабілітацыі сталінскіх ахвяраў, калі былыя вязні і вольнапасяленцы вярталіся са сваіх "аддаленых" месцаў і ў паветры патыхала так званай "адлігай". Месцам майго нараджэння стаў наш старажытны горад-крэпасць Ліда, куды на працу былі накіраваныя мае бацькі пасля заканчэння Ленінградскага тэхналагічнага інстытута. Нас было двое дзяцей у сям'і: старэйшая сястра Вольга і на два гады меншая я. Бацькам дасталіся адказныя пасады на толькі што ўведзеным у эксплуатацыю Лідскім малочна-кансервавым камбінаце, і маладыя інжынеры тады былі запатрабаваныя: маці, Марыя Яфімаўна, загадвала лабараторыяй, бацька, Эрнст Фёдаравіч, быў галоўным механікам. Гэтыя два маладыя інжынеры вельмі любілі сваю працу, былі адданыя ёй, завод быў іхнім другім домам. Тады яшчэ адчуваўся працоўны энтузіязм савецкіх "пяцігодак", людзі верылі, як здавалася, у камуністычны міф і з аптымізмам глядзелі ў будучыню, бо на той час - у 1960-я гады - быў, як здавалася, знішчаны першы сталёвы абруч таталітарызму. Заводскі пасёлак у Лідзе, дзе жылі бацькі, - так званая "малочка" - адчуваў сябе ў той час як адна сям'я. Тут наладжваліся вясенне - летнія "маёўкі" з пачастункам і купаннямі ў Нёмане і Дзітве, а выязджалі на іх цэлымі сем’ямі, разам з дзецьмі. Сяброўскімі застоллямі са спевамі заўсёды ўшаноўваліся традыцыйныя для тагачаснага жыцця святы, а ўзаемадапамога і шчырасць былі галоўнымі ў кодэксе паводзін бацькоў, іх сяброў і калег.

Аднак так склалася, што з бацькамі я жыла вельмі мала: па сутнасці, толькі два гады ад нараджэння, а потым наведвала іх толькі пад час школьных канікул некалькі разоў у год. Мяне ўзялі на выхаванне дзед і бабуля, бацькі майго таты: Фёдар Уладзіміравіч Багдановіч і Марыя Нікіцічна Савіцкая, - і ў гэтым цяпер я бачу неверагодную праяву Гасподняй ласкі над маім лёсам. Бо я спазнала глыбіні дабрыні і пяшчоты, вялікую любоў да мяне, далікатную выхаваўчую апеку людзей, ад прыроды адораных тактоўнасцю і педагагічным талентам, мудрасцю і цярплівасцю, тою асаблівай унутранай шляхетнасцю, годнасцю, культурнасцю, пачуццём справядлівасці, якія нельга было вынішчыць з натуры гэтых людзей ніякім прэсінгам татальнай уніфікацыі грамадства. Так прыкладна ў двухгадовым узросце я апынулася ў Навабеліцы - паўднёвай левабярэжнай частцы Гомеля, якая пачыналася адразу за мостам праз Сож. Навабеліца была калісьці самастойным горадам са сваім старажытным гербам - гожай выявай рысі на блакітнага колеру тарчы. Навабеліца ў часы майго маленства была больш чым напалову драўлянай, у ёй заўсёды адчуваўся свой асаблівы дух і ўклад: яе жыхары традыцыйна падкрэслівалі сваю адметнасць звычайнай распаўсюджанай фразай "паехаць у Гомель", хоць Навабеліца даўно ўжо



***Ірына Эрнстаўна Багдановіч*** *- беларуская паэтэса, перакладчыца, літаратуразнаўца.*

*Нарадзілася 30 красавіка 1956 года ў горадзе Лідзе Гарадзенскай вобласці. Скончыла гістарычна-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (Менск, 1983). Працавала малодшым і старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (1983-2002), старшым выкладчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускага ўніверсітэта культуры (1995-1997), вядучым навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Янкі Купалы (2002-2003). З 1996 года - дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кандыдат філалагічных навук (1985). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў (з 1989 г.). Старшыня Рэспубліканскага аддзялення навуковага грамадскага таварыства "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" (з 2010 г.).*

*Аўтар зборнікаў вершаў "Чаравікі маленства" (1985), "Фрэскі" (1989), "Вялікдзень" (1993), "Альбом першакласніцы" (для дзяцей, 2003), "Сармацкі альбом" (2004), "Прыватныя рымляне. Вершы і пераклады" (2006), "Душа лістападу" (2012), “Залатая горка. Вершы. Пераклады. Артыкулы” (2016), манаграфій "Янка Купала і рамантызм" (1989), "Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння" (2001).*

*Даследуе беларускую літаратуру XIX - першай паловы XX стагоддзя, беларуска-польскія міжлітаратурныя сувязі, творчасць Адама Міцкевіча, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, паэтаў "Маладняка" і "Узвышша", літаратурную спадчыну пісьменнікаў-святароў. Перакладае з польскай, украінскай і рускай моў. Жыве ў Менску.*

адміністрацыйна лічылася тым самым Гомелем.

Спачатку дырэктарская кватэра дзядуні была ў школе - у памяшканні з асобным уваходам з двара і ганкам. Зручных бытавых выгод не было, але затое была тая асаблівая атмасфера Школы, высокага духу Асветы, якія прымушалі заміраць маю дзіцячую душу, марыць пра кнігі як крыніцы спазнання таямнічых глыбінь быцця. Я з дзяцінства літаральна "благагавела" прад кнігай, а настаўнік у маім уяўленні быў усямоцным магам, які ведаў адказ на любое пытанне. Найпершым жа сярод магаў-настаўнікаў быў мой дзядуля - прыклад самаахвярнага служэння асвеце, які вынес на сваіх плячах пасляваенную адбудову школы і вырасціў разам з першымі пасляваеннымі вучнямі цудоўны школьны Сад. Унікальны, па ўсіх правілах садовай культуры пасаджаны, сад некалькі дзесяцігоддзяў упрыгожваў самы цэнтр Навабеліцы Гэта быў, магчыма, водгалас даўніх шляхецкіх каранёў дзеда, які ніколі не быў службістам перад начальствам, але годна і самавіта на працягу чвэрці стагоддзя ўзначальваў адну з найлепшых сярэдніх навучальных устаноў у горадзе, дбаючы аб якасных ведах, агульнай культуры і здароўі сваіх выхаванцаў, спрыяючы творчай і талерантнай атмасферы сярод настаўнікаў. Школьныя калідоры, класы, дырэктарскі кабінет майго дзеда, сад, дзе на цэнтральнай алеі - каля фантана - раскашавалі акацыі, вялікі двор са спартыўнымі прыладамі, таполевай алеяй і майстэрнямі, наша кватэрка пры школе - усё гэта складала той непаўторны цудоўны свет майго маленства, які пакінуў адбітак у сэрцы на ўсё маё далейшае жыццё.

У 1973 годзе я закончыла навабеліцкую сярэднюю школу № 2 з залатым медалём і тады ж паступіла на рускае аддзяленне гістарычна-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ужо ў раннія школьныя гады, літаральна толькі засвоіўшы азы пісьменства, я пачала сачыняць вершы. Натхненне прыйшло неяк само сабой аднойчы глыбокім восеньскім вечарам, і напісаўся, як і зараз памятаю, верш пра журавоў, што адляталі ў вырай і пакідалі смутак у душы. Напісаўся ён на сіняй вокладцы звычайнага школьнага сшытка. Мне было тады, мабыць, восем гадоў, і мы жылі ўжо ў двухпакаёвай кватэры ў новым, толькі што пабудаваным доме насупраць школы. Затым на працягу ўсяго школьнага жыцця мае вершы змяшчаліся ў насценгазетах, я выступала з імі на школьных урачыстасцях і на раённых аглядах мастацкай самадзейнасці. Некаторыя з вершаў у стылі тых часоў прысвячаліся святам, але ж, безумоўна, пісаліся і вершы "для душы". Пісала я спачатку на рускай мове, і ў тых дзіцячых вершах нават незалежна ад мяне моцна прысутнічаў уплыў рускай класікі. У маім "пісанні" мяне падтрымлівалі дзед і бабуля, а таксама выкладчыца рускай мовы і літаратуры Лідзія Іванаўна Панкова (Шаўцова), якая цудоўна ведала і з любоўю выкладала свой прадмет, а таксама заахвочвала мяне да пісання.

Недзе ў 9-м класе, падахвочаная Лідзіяй Іванаўнай, я ўдзельнічала ў гарадской літаратурнай алімпіядзе і там пазнаёмілася з вядомым у раёне настаўнікам літаратуры Цярэнціем Пракопавічам Кажамякіным, які выкладаў у суседняй навабеліцкай сярэдняй школе № 4. Ён звярнуў увагу на маю "пісаніну" і параіў прыйсці на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання "Рунь" пры абласной газеце "Гомельская праўда". Так я стала сябрам "Руні". Неўзабаве ўпершыню для мяне там было наладжана прафесійнае абмеркаванне маіх вершаў, выказаны добразычлівыя парады старэйшымі, больш вопытнымі літаратарамі. Падтрымалі мяне тады пісьменнікі Міхась Даніленка, Уладзімір Дзюба, якія стала працавалі ў рэдакцыі, і Леанід Гаўрылкін, які тады кіраваў Гомельскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў БССР. Для мяне гэта была першая важная паваротка на творчай сцежцы. Неўзабаве ў 1973 годзе на старонках "Гомельскай праўды" рускамоўнымі вершамі "Кукла" і "Наш старый сад" адбыўся мой паэтычны дэбют. Я тады заканчвала выпускны дзясяты клас. Праз пару тыдняў на адрас школы прыйшоў ліст з сімпатычнай, але даволі з'едлівай пародыяй на другі верш. Я была крыху збянтэжаная, а пазней - удзячная, бо гэта азначала, што дэбют быў заўважаны, хоць аўтар пародыі застаўся невядомым.

У час вучобы ва ўніверсітэце я пачала спрабаваць пісаць па-беларуску. Да гэтага скіроўвала і атмасфера "Руні", і студэнцкае літаб'яднанне "Крыніца", якое тады працавала пад кіраўніцтвам прафесара Міколы Грынчыка. "Крыніцу" наведвалі таксама Анатоль Зэкаў, Алесь Лозка, пазней Анатоль Сыс. Часта мы выязджалі ў раённыя гарады і вёскі на літаратурныя выступленні, друкавалі свае вершы ў шматтыражцы "Гомельскі ўніверсітэт". У 1975 годзе мае вершы з'явіліся на старонках рэспубліканскай газеты "Літаратура і мастацтва", куды іх завезла Вера Вярба, якая тады працавала ў рэдакцыі і наведала нашу абласную пісьменніцкую арганізацыю, згуртаваную вакол "Гомельскай праўды" і "Руні". Пасля гэтай публікацыі ў мяне наладзілася доўгагадовая перапіска з журналістам беластоцкай беларускай газеты "Ніва" Віктарам Рудчыкам, які пастаянна скіроўваў мяне на беларускамоўную творчасць, штораз даводзячы правінцыйную другараднасць рускамоўнага літаратара на Беларусі. Гэтыя першыя ўрокі нацыянальнай самасвядомасці былі для мяне таксама вельмі важнымі. Вялікую ролю ў маім творчым станаўленні ў студэнцкія гады адыграў таксама ўдзел у семінары маладых літаратараў у Каралішчавічах у 1974 годзе. Паэтычнай "гвардыяй" на тым семінары кіраваў Анатоль Вярцінскі, які перажываў перыяд сваёй творчай славы, зоркай жа сярод маладых удзельнікаў семінара быў тады Уладзімір Някляеў. Незабыўнымі засталіся тыя ўражанні, яны давалі глебу для натхнення, паступова скіроўвалі ісці ў глыбіню нацыянальнай культурна-гістарычнай традыцыі і там шукаць крыніцы ўласнай творчасці Разам з маімі паэтычнымі штудыямі развіваліся і навуковыя зацікаўленні. Вельмі важным тут для мяне быў удзел на 5-м курсе ва Усесаюзнай студэнцкай навуковай канферэнцыі ў Новасібірску, дзе я атрымала, можна сказаць, першае навуковае "хрышчэнне". З універсітэцкіх выкладчыкаў найбольш адчувальным быў на мяне ўплыў Алены Канстанцінаўны Няронскай - асобы яркай, неардынарнай, якая валодала ўніверсальнымі ведамі і дарам даносіць іх да студэнтаў. Яна стала і кіраўніком маёй дыпломнай работы, прысвечанай творчасці Васіля Шукшына.

У 1978 годзе я скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт з чырвоным дыпломам і з накіраваннем у

аспірантуру. У гэтым жа годзе не стала больш у зямным жыцці майго дзядулі Бабуля памерла на два гады раней. Пасля яе смерці з Ленінграда пераехала жыць да нас у Гомель мая цётка па бацьку Рэма Фёдараўна Багдановіч, фізік па адукацыі, якая на працягу двух гадоў апекавалася мною і дзедам. Прыгожая і добразычлівая "цёця Рэма" была вельмі любімым і блізкім мне з дзяцінства чалавекам. 1978 год стаў у поўным сэнсе пераломным для мяне годам, калі закончыліся ўсе апекі і пачалося новае самастойнае жыццё. Я паступіла ў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР у Менску і развіталася з роднай Навабеліцай - месцам майго светлага дзяцінства і рамантычнага юнацтва. Апошняй знамянальнай падзеяй гомельскага жыцця быў мой шлюб пасля заканчэння ўніверсітэта з аднагодкам, выпускніком фізічнага факультэта Станіславам Бондаравым. Шлюб гэты дабраславіў перад самым сваім адыходам у іншы свет мой незабыўны клапатлівы аберагальнік дзядуля.

Аспіранцкія гады ў Менску былі ў поўным сэнсе слова для мяне новым адкрыццём свету. Паступова праз самастойную працу з кнігамі ў Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук, а таксама ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (тады бібліятэка імя У. І. Леніна), у менскіх, віленскіх і ленінградскіх архівах, у гутарках з новымі сябрамі з акадэмічнага кола, у вандроўках па гістарычных мясцінах Беларусі для мяне адкрывалася Айчына ва ўсёй складанасці і трагічнасці яе гістарычнага лёсу, ва ўсёй прыгажосці і глыбіні яе культурных традыцый, нацыянальнай духоўнай спадчыны Я адчула натуральнасць і лёгкасць самавыражэння па-беларуску, асалоду ад пісання і думання на роднай мове, ад новага спазнання сябе і сваёй глыбіннай спрадвечнай сувязі з роднай зямлёй. Я проста ўжо не ўяўляла, як я магла без гэтага самаадчування і самаўсведамлення жыць раней на гэтым свеце. З захапленнем працавала над дысертацыяй па творчасці Янкі Купалы, пісаліся новыя вершы, хацелася яшчэ глыбей зазірнуць у мінулае, каб больш адэкватна перажываць сучаснасць У 1979 годзе дзеля гэтага цэлае лета правяла ў археалагічнай экспедыцыі на Віцебшчыне і Пскоўшчыне, перабіраючы зямлю ў раскопах, рэшткі керамікі, крэменю, уяўляючы мінулыя жыцці старадаўніх людзей, іх пачуцці, змаганні, жарсці. Уражанні гэтай вандроўкі засталіся ў радках паэмы "Кераміка" і ў цэлым на старонках зборніка "Фрэскі" (1989). Гэта была мая другая кніга ў бездакорна густоўным мастацкім афармленні мастака і пісьменніка Уладзіміра Сцяпана (Сцепаненкі) - тагачаснага майго суседа па акадэмічным сямейным інтэрнаце ва Уруччы. Першая ж кніга "Чаравікі мален-ства" (1985) пабачыла свет з дабраслаўлення Рыгора Барадуліна, чараўніка беларускага паэтычнага слова, які стаў маім "хросным бацькам" у паэзіі, "адкрыўшы" і падтрымаўшы мяне на маім другім каралішчавіцкім семінары ў 1982 годзе.

Сваю дысертацыю аб рамантычных матывах у творчасці Янкі Купалы я абараніла ў 1985 годзе. У гэты час у мяне ўжо была чатырохгадовая дачка Александрынка. Навуковым кіраўніком маёй працы быў тагачасны дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, вучоны і вядомы пісьменнік Іван Якаўлевіч Навуменка, які не навязваў мне ніякіх навуковых стэрэатыпаў, не патрабаваў адпаведнасці ідэалагічным догмам, даваў поўную творчую свабоду і зрэдзьчас рабіў слушныя стылёвыя заўвагі. Мне падабаўся такі спосаб навуковага кіраўніцтва. У 1983 годзе па заканчэнні аспірантуры мяне пакінулі на працу ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі на пасадзе малодшага навуковага супрацоўніка. Марыла займацца адразу доследамі беларускай паэзіі 1920-х гадоў, інтуітыўна адчувала, што тут яшчэ шмат неадкрытага і непрачытанага на скрыжалях новага часу. Новы час, "перабудова", сапраўды наступіў і ў мае творчыя праекты ўнёс свае карэктывы. У інстытуце стараннямі Адама Іосіфавіча Мальдзіса вялася падрыхтоўка да стварэння біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў, і я была ўключана ў творчую групу па напісанні біяграфічных артыкулаў. Маімі героямі былі пераважна пісьменнікі 1920-х гадоў, і лёс кожнага з іх адкрываў новую, узлётную і трагічную, старонку тагачаснага літаратурна-грамадскага жыцця. Я была захоплена працай, якая давала магчымасць пошуку. Многія імёны пасля доўгіх гадоў замоўчвання ізноў уводзіліся ў літаратурны кантэкст, адкрываліся вяршыні і трагедыі нашай літаратуры, постаці пісьменнікаў часоў "Маладняка" і "Узвышша" бачыліся ярка, жыва, яны нібыта размаўлялі пры мне, чыталі і абмяркоўвалі свае творы, дыскутавалі аб шляхах развіцця літаратуры, потым гінулі трагічна ў нкусаўскіх засценках, бо былі прасякнутыя залатым святлом неўміручай нацыянальнай ідэі. Чытаючы пратаколы іх паказанняў пад час сумнавядомага працэсу 1930 года, я перажывала іх лёсы так, нібыта ўсё гэта адбывалася са мной. Я і дагэтуль адчуваю сябе ў даўгу перад памяццю гэтага трагічнага і бліскучага пакалення літаратараў, нягледзячы на тое, што праца над слоўнікам паспяхова завяршылася і ён без перашкодаў выйшаў з друку ў 1992-1995 гг. Аднак у мяне заставалася шмат нявыкарыстаных запісаў, назіранняў, думак, якія чакалі свайго ўвасаблення ў іншых жанрах. Часткова гэта ўжо адбылося ў маіх кнігах "Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння" (2001) і "Уладзімір Дубоўка і паэтыка "Узвышша" (пакуль што апублікаваны толькі фрагменты ў перыядычным друку).

Дзевяностыя гады былі часам гістарычна-літаратурных адкрыццяў, руплівага ўзнаўлення страчаных культурных кантэкстаў, часам пераацэнкі грамадскіх каштоўнасцяў і вызначэння новых прыярытэтаў. Адыходзіла ў нябыт савецкая рэгламентаванасць грамадства, пакідаючы мноства жорсткіх рэцыдываў. Нараджаліся новыя формы грамадскага жыцця з кволымі прыкметамі дэмакратыі і аптымістычнымі надзеямі на завяршэнне і канчатковае замацаванне ў дзяржаўных актах нацыянальнага адраджэння Беларусі. Бел-чырвона-белы сцяг з "Пагоняю" над плошчай Незалежнасці сталі вяршыняй беларускай гісторыі XX стагоддзя. На жаль, не ўтрыманай намі самімі вяршыняй. Але жыццё на той час вірыла. Утваралася шмат новых грамадска-палітычных арганізацый, і я не магла быць убаку ад абнаўленчай жыццёвай плыні. На гэтай хвалі ў 1991 годзе я спрычынілася да адраджэння калісьці актыўнай у Заходняй Беларусі хрысціянска-дэмакратычнай партыі і некаторы час была яе сустаршынёй

ад канфесіі грэка-католікаў (уніятаў). Цікавасць да хрысціянскіх дэмакратаў для мяне не была выпадковай Перад гэтым некалькі гадоў я ўжо вывучала гісторыю гэтай партыі па старонках віленскай газеты "Крыніца" ("Беларуская крыніца") у сувязі з працай над артыкуламі пра лёсы і дзейнасць беларускіх святароў-літаратараў Казіміра Сваяка і Адама Станкевіча. Мяне здзівіла і ўразіла, наколькі гэта была чынная і грунтоўная арганізацыя, што два дзесяцігоддзі прадстаўляла адну з наймацнейшых палітычных плыняў грамадскагажыцця Заходняй Беларусі, рэпрэзентуючы нацыянальную ідэю, высокія духоўныя хрысціянскія ідэалы, і пры гэтым не была падвержаная камуністычнай спакусе прымусовага загону ўсіх у "шчаслівую будучыню", дзе асновы жыцця вызначае за кожнага чалавека партыйнае кіраўніцтва. Ідэя хрысціянскай дэмакратыі, на маю думку, застаецца і зараз найбольш перспектыўнай грамадскай ідэяй, але не запатрабаванай пакуль што беларускім палітычным жыццём.

У 1993 годзе стараннямі Алеся Бяляцкага, тагачаснага дырэктара Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, таксама чыннага тады ў хрысціянскай дэмакратыі, убачыла свет мая трэцяя паэтычная кніга "Вялікдзень". Назву для яе прапанаваў між іншым сам Алесь, пазнаёміўшыся як рэдактар з яе зместам і крытычна паставіўшыся да майго загалоўка (не памятаю, дарэчы, ужо якога). Я пагадзілася з прапановай, бо сапраўды новая назва здавалася вельмі сімвалічнай у тым часе і найлепш адлюстроўвала дух і змест зборніка. У 1997 годзе быў завершаны рукапіс новай паэтычнай кнігі "Сармацкі альбом" Вялікія падборкі вершаў з яе раздзелаў убачылі свет у перыёдыцы: у газеце "Беларуская маладзёжная" (1997) і часопісе "Крыніца" (1998), дзе я стала лаўрэатам года ў намінацыі "Паэзія".

З канца 1990-х займаюся таксама перакладамі з польскай мовы. Праца над перакладамі "Крымскіх санетаў" Адама Міцкевіча стала для мяне ў пэўным сэнсе літаратурнай школай. Падахвоціў мяне да гэтага старэйшы калега па Інстытуце літаратуры, вядомы перакладчык і паэт, даследчык польскамоўнай культурнай спадчыны Беларусі XIX стагоддзя Уладзімір Мархель. Неўзабаве пачалася таксама праца над перакладамі твораў Зоф'і Тшашчкоўскай (Манькоўскай), вядомай у свой час у друку пад крыптанімам Адам М-скі, яна была ўнікальнай пясняркай на беларускіх землях на зломе XIX- XX стагоддзяў.

Творчыя планы часам паглынаюцца рэальнай жыццёвай плынню. У ёй, хочаш не хочаш, трэба знаходзіць месца хаця б для мінімальнага вырашэння бытавых, сямейных праблем і, бясспрэчна, на належным прафесійным узроўні выконваць прафесійную працу, якая для мяне з 1997 года звязана з выкладаннем на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе я чытаю курсы лекцый па гісторыі беларускай літаратуры XVIII-XIX стагоддзяў Маёй *alta mater* у Менску быў у свой час Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук, з якім я працягваю таксама супрацоўнічаць. Натхненне ж даецца звыш, насылаецца з таямнічых нябесных вяршыняў-глыбіняў, і калі яно прыходзіць, ува мне маўчыць выкладчык і навуковец, і я дзякую Богу за ласку спазнання творчага экстазу, "выпадзення" з рэальнасці, адлёту ў тыя блакітныя вяршыні - глыбіні, дзе толькі і магу адчуваць сябе па-сапраўднаму шчаслівай, самадастатковай, дзе адкрываюцца сувязі часоў і прастораў, вертыкаляў і гарызанталяў, быту і нябыту, дзе крышку прыадчыняецца змройлівае покрыва над спрадвечнай таямніцай універсальнай Ісціны Быцця. Паэт жа абуджаецца ў чалавеку не столькі дзеля таго, каб адлюстраваць вялікія гістарычныя падзеі часу, колькі дзеля адчування пакліканасці перадаць непаўторнасць цуду свайго гасціявання на зямлі. У гэтым сэнсе я і цяпер адчуваю сябе дзяўчынкай з навабеліцкага саду.

*Красавік 2000 года.*



***Новая кніга Ірыны Багдановіч "Залатаяя горка", Мінск, "Кнігазбор", 2016.***

**Заўвага:**

*Аўтабіяграфія пісалася для кнігі біяграфій беларускіх пісьменнікау і была замоўлена выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 2000 г. Кніга з друку так і не выйшла. На 5-м Міжнародным кангрэсе беларусістаў, у траўні 2010 г., тэкст аўтабіяграфіі перададзены мною Івану Штэйнеру праз Валянціну Лебедзеву ў Гомель для публікацыі ў кнізе пра пісьменнікаў выпускнікоў Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вынікі публікацыі пакуль што мне не вядомыя. Асобнік у раздрукаваным выглядзе перададзены ў кастрычніку 2010 г. таксама ў школьны музей навабеліцкай СШ № 2 (г. Гомель). Нарэшце ў 2016 годзе была надрукавана ў кнізе "Залатая горка" (наклад 200 асобнікаў).*

# Як два разы старажытную Ліду адкрывалі

Усім вядомы пасыл Тодара Нарбута, прывязаны да 1180 года, што на месцы горада Ліды была "асада літоўская". Успрымалася і ўспрымаецца гэта як ці то легенда, ці то гіпотэза.

Разам з тым у газеце "Кур'ер Віленскі" № 273 (2814) за 11 кастрычніка 1933 года была змешчана нататка наступнага зместу:

***"Адкрыццё старажытных слядоў чалавека на тэрыторыі Ліды.***

*На тэрыторыі Ліды на ўчастку "Выган" падчас земляных работ на пляцы настаўніка М. Міхальчука натрапілі на вялікую колькасць чарапкоў гаршкоў, раскіданых на значнай плошчы. Таўшчыня чарапкоў была характэрная для керамічных вырабаў з далёкай мінуўшчыны, таму інжынер, які наглядаў за работамі пераслаў тыя чарапкі ў Кансервацыйную камісію ў Вільні, а земляныя работы прыпыніў.*

*Чарапкі паказваюць, што посуд быў роблены на ганчарным крузе, а таму з пазнейшага перыяду - можа паходзіць з перыяду раннегістарычнага.*

*Чарапкі знайшлі таксама і ў іншай частцы ўчастка "Выган". Абодва месцы знаходак размешчаны на схіле ўзвышша тэрыторыі "Выган", якое да нядаўняга часу было аточана дрыгвой, а да хвілі парцэляцыі, што пачалалася ў апошнія часы, служыла пашаю.*

*Узнікае дапушчэнне, што на ўзвышшы тэрыторыі "Выган" могуць знайходзіцца або старажытныя могілкі, або знішчанае гарадзішча, або рэшткі паселішча. Патлумачаць гэта даследаванні на тэрыторыі, якія будуць праведзены з погляду на тое, што тэрыторыя "Выган" можа хаваць каштоўны гістарычны матэрыял.*

*У бліжэйшыя дні з Вільні па запрашэнні пана лідскага старасты, які асабіста зацікавіўся адкрыццём, мае прыехаць на месца для правядзення даследванняў асістэнтка кафедры археалогіі УСБ* (Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні, *пер.*) *д-р Гелена Цэгак.*

*Улад."*

"Кур'ер Віленскі" № 292 (2833) ад 30 кастрычніка 1933 года друкуе ўжо артыкул слыннага ў будучым археолага Ўладзіміра Галубовіча "Выправа па невядомае", у якім гаворыцца пра лідскую знаходку:

*"На ўчастку "Выган" горада Ліды падчас земляных работ натрапілі на старыя чарапкі гаршкоў, на косці і вуглі. Запахла археалогіяй. Пан старacта Багаткоўскі, як добры гаспадар той зямлі, які дбае пра ўсякія яе каштоўнасці, прыпыніў работы і, пакрыўшы кошт пераезду, запрасіў з Вільні спецыяліста па археалогіі п. д-ра Гелену Цэгак, якую суправаджаў дэлегат гуртка археолагаў УСБ.*

*"Выган" - тэрыторыя, на якую Ліда вядзе экспансію ўжо некалькі гадоў, запаўняючы яе зграбнымі мураванымі дамкамі. Ліда наогул імпэтна разрастаецца. Што год прыбывае ў ёй каля 30 новых будынкаў, а межы горада займаюць у пэўных кірунках прастору звыш пяці кіламетраў у даўжыню. Паўстаюць прыгожыя грамадскія гмахі, як усеагу-*

**Odkrycie prastarych śladów człowieka na terenie Lidy.**

Na terenie Lidy w dzielnicy „Wygoń", podczas robót ziemnych na posesji nauczyciela M. Michalczyka, natrafiono na większą ilość skorup garnków, rozrzuconych na znacznej przestrzeni. Grubość skorup była charakterystyczna dla wyrobów ceramicznych z dalekiej przeszłości, dlatego też kierujący robotach inżynier przesłał te skorupy do Urzędu Konserwatorskiego w Wilnie, a roboty ziemne wstrzymał.

Skorupy wskazują, że naczynia były toczone na kole, — a więc są z okresu późnego: — mogą pochodzić z okresu wczesnohistorycznego.

Skorupy znaleziono także i w innej części dzielnicy „Wygon". Oba miejsca znalezisk znajdują się u zbocza wyniosłości terenu „Wygon", które doniedawna było otoczone moczarami, a do chwili parcelacji, co nastąpiło w ostatnich czasach, służyło jako pastwisko.

Zachodzi przypuszczenie, że na wyniosłości terenu „Wygon" może się znajdować albo prastare cmentarzysko, albo zniszczone grodzisko, albo szczątki osady. Wykażą to badania w terenie, które będą przeprowadzone ze względu na to, iż teren „Wygonu", może zawierać cenny materjał historyczny.

W dniach najbliższych z Wilna, na zaproszenie p. starosty lidzkiego, który szczególnie zainteresował się odkryciem, ma udać się na miejsce dla dokonania badań asystentka katedry archeologji na USB. dr. Helena Cehak.

Włod.

# Wyprawa po nieznane.

W dzielnicy Wygon miasta Lidy podczas robót ziemnych natrafiono na stare skorupy garnków, na kości i węgle. Zapachniało prehitsorją. Pan starosta Bogatkowski, jako dobry gospodarz tej ziemi, dbały o wszelkie jej wartości, wstrzymał roboty i, ponosząc koszta przejazdu, zaprosił z Wilna specjalistkę od prehistorji, p. dr. Helenę Cehak, której towarzyszył delegat Koła Prehistoryków U. S. B.

„Wygon" jest terenem na który Lida ekspansuje od kilku już lat, zapełniając go zgrabnemi murowanemi domkami. Lida wogóle rozrasta się imponująco. Co rok przybywa jej po przeszło 30 nowych budynków, a granice miasta obejmują w pewnym kierunku przestrzeń przeszło pięciokilometrowej długości. Powstają ładne gmachy publiczne, jak szkoła powszechna im. Narutowicza i o nawskroś współczesnym rysunku gmach gimnazjum im. Chodkiewicza. Lida może być z tych gmachów dumna.

„Wygon" jest wyniosłością donie dawna otoczoną grząskiem bagnem, które teraz pocięto suchemi ulicami. Został także prawie cały już przekopany.

Próbny rów zaczynamy kopać na terenie posesji nauczyciela Michalczaka. Ukazuje sie humus, zmieszany z gliną. Teren przekopywany niezbyt dawno. Są kości i węgiel gdzieniegdzie skorupy naczyń glinianych.

Kopią bezrobotni. Odrabiaja otrzymane poprzednio zasiłki. W zimie liczba bezrobotnych w Lidzie dochodziła do 2.500 osób na 22 tys. mieszkańców Teraz w sezonie robót budowlanych i drogowych ilość ta zmalała do 250 osób(!). W naszej grupie znajduje się 13-letni chłopak. Dzielnie dłubie ziemię olbrzymią dla niego łopatą, sapie ze zmęczenia i trwożliwie zerka na nas.

— Czy też bezrobotny?

— Nie, odrabia za ojca. Mówi, że chory i nie może przyjść, a chce odrobić — informuje inżynier — kazałem mu iść do domu. Rozpłakał się. Ojciec — powiada — kazał. Niech dłubie...

— Czy często praktykowane jest podobne odrabianie zasiłków przez osoby inne?

— Dość często. Naprzykład przy robotach restauracyjnych w zamku Gedymina kilka kobiet odrabia za mężów.

— Czy ruiny zamku są zagrożone?

— Nie, zreperowano małą szczelinę, a teraz wzmacnia się fundament na niewielkiej przestrzeni. Są to roboty ziemne.

— Podobno pod ruinami zamku, jak głosi legenda, są lochy?

— Twierdzi to legenda, a częściowo pewien fakt. Opowiadał mi 80-letni staruszek z pobliskiej wsi, że 65 lat temu, będąc chłopcem, chodził do podziemi. Było wtedy odsłonięte wejście do nich. Podobno ciągną się b. daleko, jak mówi, aż do Trok. Tak daleko jednakże ten starzec nie chodził, bo mu łuczywa nie wystarczyło. Starzec ten może częściowo mieć rację. Mogą istnieć podziemia. Dwa lata temu na dziedzińcu zamku zrobiono ślizgawkę. Nawożono dużo śniegu. Oblano to sporą ilością wody. Na wiosnę cała masa śniegu i lodu stopniała prędko. I co dziwne — woda nie spływała ani też nie tworzyła większych kałuż, a znikała prawie nagle. Znalazła sobie ujście pod ziemią.

Opowieść starca jest ciekawa. Czyżby w tradycji ludu tak głęboko tkwiła pamięć o prastarej świetności Trok?

Wracamy do „Wygonu". Rów próbny rozszerza się i pogłębia. Można już wyciągnąć wnioski. Kiedyś w okresie czasu od wieku XI do XIII istniała na tej wyniosłości osada słowiańską. Ślady jej są dziś zupełnie zniszczone. Dlaczego słowiańska? Skorupy naczyń mają słowiański pasmowy ornament, charakterystyczny dla grup plemiennych idących ze wschodu.

Dzieci rękami wykopały. Brr.. Cmentarzysko epidemiczne. Brr...

Prędzej do auta, bo już i słońce zachodzi, i czemprędzej do Lidy. Wiatr zimny i przenikliwy wyje i kąsa — jakby legjon potępieńców ścigał nas zażarcie.

**Włod. Hołubowicz.**

*льная школа імя Нарутовіча і зусім сучаснага выгляду гімназія імя Хадкевіча. Ліда можа ганарыцца гэтымі гмахамі.*

*“Выган” - узвышша да нядаўняга часу аточанае гразкім балотам, а цяпер перарэзанае сухімі вуліцамі. Ужо амаль увесь перакапаны.*

*Пробны роў пачынаем капаць на тэрыторыі пляца настаўніка Міхальчыка. Паказваецца гумус змешаны з глінай. Тэрыторыя перакопвалася не так даўно. Ёсць косці і вуглі, дзе-нідзе чарапкі гліняных пасудзін.*

*Капаюць беспрацоўныя. Адрабляюць атрыманыя перад гэтым дапамогі. Зімой лік беспрацоўных у Лідзе даходзіў да 2500 чалавек на 22 тыс. жыхароў. Цяпер у сезон будаўнічых і дарожных работ колькасць іх зменшылася да 250 чалавек. У нашай групе знаходзіцца 13-гадовы хлопец. Старанна дзяўбе зямлю велізарнай для яго рыдлёўкай, сапе ад стомы і трывожна зыркае на нас.*

*- Гэта таксама беспрацоўны?*

*- Не, адрабляе за бацьку. Гаворыць, што хворы і не можа прыйсці, а хоча адрабіць, - інфармуе інжынер, - казаў яму ісці дадому. Расплакаўся. Бацька - гаворыць - сказаў. Няхай дзяўбе...*

*- Ці часта практыкуецца падобная адпрацоўка дапамог іншымі людзьмі?*

*- Досыць часта. Напрыклад пры рэстаўрацыйных работах у замку Гедзіміна некалькі жанчын адпрацоўваюць за мужоў.*

*- Ці руіны замка ў небяспецы?*

*- Не, адрамантаваны малыя шчыліны, а цяпер узмацняецца фундамент на невялікім участку. Гэта земляныя работы.*

*- Падобна, пад руінамі замка, як гаворыць легенда, ёсць лёхі?*

*- Цвердзіць гэта легенда, а часткова пэўныя факты. Апавядаў мне 80-гадовы дзядок з бліжняй вёскі, што 65 гадоў таму назад, будучы хлопцам, хадзіў у падзямеллі. Быў тады адкрыты ўваход у іх. Падобна, цягнуцца яны далёка, як гавораць аж да Трок. Так далёка той дзядок не хадзіў, бо яму лучыны не хапіла. Дзядок той часткова можа мець рацыю. Могуць існаваць падзямеллі. Два гады таму назад на дзядзінцы замка зрабілі каток. Навазілі шмат снегу. Аблілі яго вялікай колькасцю вады. Вясной уся маса снегу і лёду хутка растала. І што дзіўна - вада не выцякала і не ўтварала вялікіх лужын, а знікала амаль раптоўна. Знайшла сабе выхад пад зямлёй.*

*Аповесць дзеда цікавая. Ці ж бы ў традыцыі люду так глыбока сядзела памяць пра старажытную святасць Трок?*

*Вяртаемся на “Выган”. Пробны роў расшыраецца і праглыбляецца. Можна ўжо рабіць высновы. Некалі ў акрэсе часу ад XI да XIII стагоддзя існавала на гэтым узвышшы славянскае паселішча (“асада славянская”). Сляды яе сёння цалкам знішчаныя. Чаму славянская? Чарапы посуду маюць славянскі палоскавы (пасьмавы) арнамент, характэрны для племянных*



***Гелена Цэгак-Галубовіч, кіраўнік раскопак старажытнай Ліды***



***Уладзімір Галубовіч, удзельнік раскопак старажытнай Ліды***

*груп, ішоўшых з усходу.*

*Пан стараста Багаткоўскі зрабіў вялікую паслугу навуцы. На археалагічнай карце Польшчы з'явіцца новы знак, які паказвае, што на тэрыторыі "Выгану" знойдзены сляды побыту славян у раннегістарычную эпоху ў нашым краі.*

*Лідскі павет мае шэраг іншых, не вывучаных яшчэ помнікаў..."*

Так было знойдзена старажытнае паселішча на тэрыторыі Ліды. Як відаць з артыкулаў, ніхто пакуль не звязвае знаходку з "Лідай Нарбута". Тым больш, што звесткі пра раскопкі былі надзейна сцёртыя з памяці ў выніку войнаў, зменаў уладаў і г.д.

Другі раз адкрыў гэтае паселішча **Леанід Лаўрэш** у 2015 годзе рыхтуючы артыкул для "Лідскага летапісца" № 3 (71) пад назвай "Лідчына ў люстэрку прэсы, 1930-1935 гг.". Адкрыў, што называецца, "на кончыку пяра", знайшоўшы ў "Кур'еры Віленскім" прыведзеныя артыкулы.

Такім чынам, што мы маем?

Узвышша на Выгане, аточанае балотамі - гэта на чужы погляд. Для лідзян - гэта ўзвышша над поймай рэчкі Каменкі, якая ў XI-XIII стагоддзях забалочанай не была, ды і Каменкай ці называлася. У часы раскопак русла Каменкі яшчэ можна было прасачыць.

Паводле раскопак паселішча было спалена і даўно перастала існаваць. Адбылося гэта хутчэй за ўсё ў XIV стагоддзі, пасля пабудовы замка. Спаленае пад час чарговага набегу крыжакоў ці яшчэ каго паселішча не аднавілася на старым месцы, а ацалелыя жыхары перабраліся пад сцены замка, дзе было значна надзейней. Адлегласць ад паселішча на Выгане да замка - недзе з кіламетр, мо чуць больш.

Калі дапусціць, што паселішча на Выгане і ёсць старажытная Ліда - "Ліда Нарбута", то ўзнікаюць наступныя акалічнасці:

1. Заснавалі Ліду не балты, а славяне.

2. Заснавана Ліда не на Лідзейцы, а на Каменцы. Таму назва паселішча ***Ліда*** ёсць першасная, а назва рэчкі ***Лідзейкі*** паходзіць ад назвы горада, пра што не адзін раз пісалася. Таму ўжываць для рэчкі назву *Лідзея* - неправамерна. Назва можа быць толькі *Лідзейка*.

3. Усе этымалагічныя пошукі ў балцкіх мовах адходзяць на другі план. На першы план выходзіць славянская этымалогія. Хаця славяне таксама маглі нешта запазычыць.



***Знак "Нулявога кіламетра" ў раёне старажытнай Ліды***

4. Славянскае паселішча не магло ніяк быць старэй за XI стагоддзе. На гэты перыяд прыпадае хваля славянскай экспансіі ў балцкія землі Панямоння.

Не трэба быць правідцам, каб здагадацца, што старажытная Ліда, якая сёння - у самым цэнтры Ліды сучаснай, ніяк на карце горада не абазначана. Хаця вышнія сілы, відаць, усё-такі ёсць, бо менавіта тут, прыблізна на месцы старажытнай Ліды пастаўлены знак "Нулявога кіламетра". Адсюль лічацца кіламетры, то, можа, адсюль варта лічыць і гісторыю?

***Станіслаў Суднік.***

Сяргей Дычок

# Зянон Ленскі - заснавальнік Гуты

У гісторыі Бярозаўкі ёсць чалавек як бы і агульнавядомы, так і зусім невядомы шырокаму колу краязнаўцаў. Я кажу пра заснавальніка першай "гуты" Зянона Антонавіча Ленскага. Усё, што мы пра яго ведаем, памяшчаецца ў тры радочкі. Верасень 1883 года - прашэнне ў павятовую паліцыю на адкрыццё гуты, маленькага, кустарнага заводзіка на адну печ па вырабу шкла. 28 рабочых, гадавы выпуск прадукцыі на паўтары-дзве тысячы рублёў. Потым запрашэнне арандатараў Вільгельма Краеўскага і Юліюша Столе, 1891 год. І, нарэшце, пасля доўгіх угавораў-перамоў прыблізна ў 1899 ці 1900 гг. Ленскі прадае гуту фірме "Краеўскі і Столле". Практычна і ўсё.

Я вырашыў, што гэтага мала, і паспрабаваў пашукаць інфармацыю пра Зянона Ленскага.

Прашэнне Ленскага датуецца 19-м вераснем 1883 года , а ўжо 8 -га ці 9-га кастрычніка паліцэйскі прыстаў першага стану Лідскага павета падпісвае пратакол агляду мейсца меркаванага завода. Апытаныя сяляне навакольных вёсак (Дамінік Рахман, Адам Каламыцкі, Іван Казак, Іван Шут, Міхал Каламыцкі з вёскі Ганцавічы, Казімір Сянкевіч з Агароднікаў, Якаў Бялецкі з Бенявічаў, Вікенці Буйніцкі з Руды, Адам Данэйка з Ганчароў) паведамілі паліцыі, што ніякіх пярэчанняў пабудове "Гуты" з іх боку няма, таму што сапраўды *"лесное урочище, именуемое Устроня…на лесной речке под названием "Чёрная"… принадлежит Ленскаму З.А."* разам з пабудовамі жылымі і гаспадарчымі. Гэта не пакідае ніякіх сумненняў, што да месцазнаходжання гуты Зянона Ленскага. Устроня на Чорнай рэчцы - гэта каля чатырох кіламетраў лесам ад сучаснага завода, які з'явіцца ў маёнтку Квяцінскага Астроўна не раней 1896-га года і стане пераемніка гуты Ленскага. Натуральнае развіццё прадпрыемства - тэхналагічна і геаграфічна. Столе 35 гадоў сваёй фірмы святкаваў у 1926 г. (адлік вёў ад 1891-га). А мы святкуем 115 гадоў у 1998-ым, 130 - у 2013-ым, адлік вядзём менавіта ад 1883 г.

У інтэрнэт-рэсурсах я знайшоў вялікі артыкул лідскага краязнаўцы Валерыя Васільевіча Сліўкіна, частка якога тычылася Зянона Ленскага. Працытую.

*"Зенон Антонович Ленский (1864 -1927) - легендарный для Лидского уезда помещик. По его инициативе и на его средства был построен первый в Лидском уезде стекольный завод, ставший со временем крупнейшим в Виленской губернии.*

*Закончил Виленскую гимназию и Горный институт в Санкт-Петербурге. Будучи еще студентом, 19 сентября 1883 г. Зенон Ленский обратился в Лидское уездное полицейское управление с письмом:* ***"Проситель желает устроить в лесной даче имения моего Заенчицы стеклянный завод или "Гуту" для выделки стекла и стеклянных посуд, для чего желаю получить разрешение надлежащей власти. А потому имея в виду, что законных препятствий к устройству того стеклянного завода или фабрики встретится не может, осмеливаюсь покорно просить Лидское уездное полицейское управление разрешить мне устройство и открытие стеклянной фабрики или "Гуту" в лесной даче имения моего Заенчицы, в чем и выдать мне надлежащее удостоверение".***

*9 октября 1883 года пристав первого стана Лидского уезда после обследования предполагаемого места строительства стеклозавода отписал,* ***"что к открытию в означенном лесном урочище стеклянного завода … никаких препятствий не имеется".*** *Виленское губернское правление разрешило постройку "стеклянного завода". В 1885 г. на заводе Зенона Антоновича Ленского работали 28 человек: 16 мужчин, 6 женщин и 6 подростков. Было произведено 200 ящиков оконного стекла и 50000 пивных бутылок на сумму в 2000 руб.*

*В 1891 г. З.А. Ленский сдал стеклозавод в аренду инженеру Дядьковского стеклозавода Вильгельму Краевскому и руководителю художественной мастерской завода Юлиусу Августиновичу Столле, восемь лет спустя продал завод арендаторам. Он определился, что для него важнее, стекольное производство или живопись. Стекольный завод мешал заниматься живописью, поэтому так легко он от него избавился. Некоторое время учился в Академии Художеств, закончил Петербургскую школу Юзефа Брандта и художественную школу в Мюнхене. В начале XX века выставлял свои живописные работы в Петербурге, Кракове, Варшаве, Минске. Усадебный дом родителей в Суле украсил фресками. В Национальном художественном музее Беларуси хранится одна его работа - портрет младшей сестры Эльжбеты (Василевской, 1903 г.) "*

Аднак пагадзіцца з версіяй паважанага Валерыя Васільевіча катэгарычна не магу. З дапамогаю Інтэрнэту, які ўсё ведае, даволі лёгка пераканацца, што Зянон Ленскі - мастак ніякага дачынення не меў да Вашкевіч, Заёнчыцаў, Устроні і будучага шклозавода "Нёман". Нарадзіўся ён у вялікай сям'і (шэсць сыноў і дачка Эльжбэта) Аляксандра і Сабіны Ленскіх у маёнтку Сула Менскай губерні і Антону Паўлавічу Ленскаму даводзіўся ўнукам. Сапраўды вучыўся ў віленскай гімназіі і Горным інстытуце С. Пецярбурга. Але не давучыўся, перайшоў у Акадэмію мастацтваў *(асабістая справа Зянона Аляксандравіча Ленскага,за 1885 год, № 92 у вопісе 11, фонд 789, Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу.)* Сапраўды, выбітны мастак-партрэтыст, шмат вучыўся і працаваў за мяжою, прысылаў дадому, у Сулу мастацкія каштоўнасці, уласнаручныя партрэты. Распісваў будынкі ў Суле фрэскамі. Выдатны аповед пра мастака Зянона Ленскага, жыццё і творчасць надрукаваны ў часопісе "Наша вера" № 3 за 1999 год аўтарства Надзеі Усавай з Нацыянальнага Мастацкага музея ў Менску. Нямала на гэту тэму пісала і карэспандэнт "СБ" Людміла Сяліцкая ў 2003-2013 гг. У "павуціне" Сеціва ёсць

таксама кароценькая звестка, што на выставе мясцовай старасветчыны, арганізаванай Іванам Луцкевічам з дапамогаю нямецкіх гісторыкаў у Менску ў 1918-ым годзе, сярод пяці літых слуцкіх паясоў быў адзін, прысланы з Варшавы мастаком Зянонам Аляксандравічам Ленскім. Памёр З.А. Ленскі ў 1927-ым у Варшаве, але пахаваны быў, верагодна, усё ж у радавой усыпальні Ленскіх у Суле. На жаль, пахавальны храм-ратонда разрабаваны сучаснымі вандаламі, параскіданыя парэшткі гаспадароў маёнтка мясцовыя жыхары перазахавалі пазней на мясцовых могілках.

Ну а што ж Зянон Антонавіч Ленскі?

Я звярнуўся да маладога вучонага-гісторыка Васіля Герасімчыка, які вывучае дакументы часоў паўстання 1863 года. Ён адразу - за што яму вялікі шчыры "Дзякуй"- даслаў мне вытрымкі з многіх архіўных дакументаў. Крытычна асэнсаваўшы ўсё, што з розных крыніц мне было даступна, я атрымаў наступную версію падзей.

Паміж 1884 (вопіс парафій Лідскага дэканата, у Вашкевічах гаспадараць Пузыні) і 1795 годам (рэвізія прыгонных душ) маёнтак Вашкевічы набывае Павел Ленскі *"староста любоніцкі, кавалер ордэна Св. Станіслава і Белага Арла"*, як ён сам сябе называе. Першы - і апошні - дакумент рэвізіі, падпісаны Паўлам Ленскім. Рэвізію 1811 года - *"па смерці яго"* - падпісвае ўдава Петранэля, дачка Франца з Бучынскіх, Ленская, *"старосціна любоніцкая"*. Яна ж застаецца гаспадыняю Вашкевіч па рэвізіях 1816, 1834, 1850 гадоў і пры інвентарызацыі маёнтка ў 1848-ым годзе, то бок перажыла мужа не меней, як на сорак гадоў. (Што, відаць, і дало падставу В. Сліўкіну лічыць яе другой жонкаю Паўла Ленскага, мачыхаю для Антонія Паўлавіча Ленскага.) Аднак гэтая тэза - пра дзве жонкі Паўла Ленскага - пакуль не атрымала дакументальнага пацверджання.

Далей, В. Сліўкін лічыць, што па смерці Петранэлі Ленскай у 1857 годзе маёнтак Вашкевічы адышоў яе дачцы Вераніцы Аборскай (да 1864 года), а потым Антонію Ленскаму. Але не ўсё так проста.

Па-першае, рэвізію 1850-га года падае (па даверанасці сваёй састарэлай мацеры Петранэлі) Аляксандр Паўлавіч Ленскі, павятовы маршалак ("уездный предводитель дворянства") Віленскага павета. Не асабіста сам - ён піша дакументы з пазнакай "Вільно", дакументы прадстаўляе і распіску атрым-лівае з яго дазволу *"управитель имения Вашкевичы Баранцевич"*.

Па-другое, яшчэ больш істотнае. З рэвізіі 1858-га года вынікае, што маёнтак Вашкевічы падзелены. У маёнтку было (па стану на 1848-ы год) пяць фальваркаў, восем вёсак, тры засценкі. Прынамсі, фальварак Заёнчыцы з вёскамі Ганчары і Дроздава (Дразды) выдзелены з маёнтка Вашкевічы і належыць Антону Паўлавічу Ленскаму *"по наследству после матери Петронели из Бучиньских Ленской"*. Каму дасталася асноўная частка маёнтка Вашкевічы, як дакладна ён быў падзелены, трэба высвятляць. Таму што ў дакументах 1883-га года маёнтак Вашкевічы належыць графу Ледухоўскаму, але якім чынам перайшоў, калі… Таксама ёсць кароткая інфармацыя 1907-га года пра выстаўлены на продаж маёнтак Андрэя Анж'яна *"Масявічы-Буячкі"* Лідскага павета, вельмі верагодна, таксама частка былых уладанняў Паўла і Петранэлі Ленскіх.

Антоні, сын Паўла, Ленскі (1797-1873), шляхціц герба "Астоя", уладальнік маёнка Сула ў Менскім павеце, старшыня менскага межавага суда, меў з жонкаю Сафіяй з Залескіх трох дачок (Марыю, Міхаліну, Вільгельміну) і сыноў Аляксандра (1836), Канстанціна (1839), Зянона (1841), Міхала (1845).

Марыя выйшла замуж за кагосьці з Вайніловічаў, Міхаліна - за павятовага маршалка Іяхіма Бжазоўскага, але даволі хутка памерла, пакінуўшы дачку Марыю. Вільгельміна (Вільца) памерла ў 1867-ым, сасланая ў Табольск за удзел *"в польском мятеже 1863 года"*. Міхал і Аляксандр, падобна, не былі рэпрэсаваныя, некаторыя даследчыкі лічаць іх лаяльнымі да расейскіх уладаў. Канстанцін і Зянон пайшлі ў атрад, які фармаваўся ў лясным урочышчы Тонвы і маёнтку Ленскіх Хотаў. За удзел ў паўстанні былі ў 1864-ым пазбаўленыя шляхецтва, маёмасці, сасланыя *"в менее отдалённыя места Сибири"* (застаецца пакуль нявысветленым, куды менавіта). Дарэчы будзе тут адзначыць, што Аляксандр Антонавіч Ленскі сваіх сыноў, што нарадзіліся ў 1864-м (двайняты?) назаве Зянонам і Канстанцінам, у гонар асуджаных, рэпрасаваных братоў. (Зянон Аляксандравіч стане вядомым мастаком. Канстанцін Аляксандравіч стане вайскоўцам, даслужыцца да палкоўніка ў расейскай арміі, потым ў такім жа чыне будзе афіцэрам польскай арміі, загіне ў сталінскіх лагерах, рэпрасаваны НКУС у 76-гадовым узросце.)

Зянон і Канстанцін - паўстанцы, праз дзесятак гадоў атрымаюць "прощение" ад імперыі (цар не быў такім людажэрам, як сталіністы), вернуцца на радзіму, адноўляцца ў шляхецтве, з правам на маёмасць. Бацькаў маёнтак Сула належыць старэйшаму, Аляксандру Антонавічу, з сям'ёй, таму Канстанціну дастаецца Антопаль, дзе ён і пражыве несямейны-бяздзетны. А Зянону - Заёнчыцы, частка Вашкевіч, набытых некалі дзедам Паўлам Ленскім. Але спачатку Зянон Антонавіч жэніцца з дачкой Іяхіма Бжазоўскага Ганнай (ад другога шлюбу, з Уладзіславаю Здзяхоўскаю). Дзеці: Уладзіслаў, (1875), Здзіслаў (1877), Юзаф, (1880), Станіслаў (1887), а таксама дочкі Міхаліна і Яніна. Запісы аб хрышчэнні дзяцей павінны былі б знайсціся ў метрычных кнігах касцёлаў Лідчыны, але дзе? Вашкевічы? Ельня? Беліца? Мінойты? Вось Зянон Антонавіч Ленскі - уладальнік невялікана маёнтка і бацька шасцярых дзяцей для паляпшэння свайго матэрыяльнага стану і засноўвае гуту. Аднак паважны ўзрост і, напэўна, здароўе, падарванае ў высылцы, не дазваляюць яму самому трымаць канкурэнтаздольнае прадпрыемства. Ён спачатку здае ў арэнду, а ў 1899 годзе прадае сваю "Гуту" фірме "Краеўскі і Столе", на гэтым звесткі аб ім і яго сям'і пакуль што заканчваюцца. В. Герасімчык лічыць, што Зянон сын Антонія Ленскі памёр у 1910-ым і пахаваны ў Рубяжэвічах, але гэта выклікае сумненні.

Поўная гісторыя Зянона Антонавіча Ленскага чакае новых даследчыкаў, але тое, што Бярозаўка па факту заснавана паўстанцам 1863 года, накладвае на яе жыхароў не абы-якія абавязкі...

*Міхал Шымялевіч*

# Дворышча і Тракелі[1]

Ордэн езуітаў некалі меў у Рэчы Паспалітай вялікую зямельную маёмасць, сялян, гарадскую нерухомасць і капіталы. На Лідчыне гэты ордэн меў некалькі апорных пунктаў: місію ў Дэмбраве і Ваверцы, а таксама ўласную маёмасць у Дворышчы і Тракелях.

## I

Зямельная маёмасць Дворышча знаходзіцца над ракой Жыжмай, за 13 км на поўнач ад горада Ліды і за 11 км на паўночны ўсход ад чыгуначнай станцыі Бастуны. У палове XV ст., у часы Казіміра Ягелончыка, гэтая тэрыторыя ўваходзіла ў склад Лідскай воласці і была ўласнасцю дома Вялікіх князёў ВКЛ. У 1520 г. Дворышчам ужо валодаў прыватны ўласнік Юры Ільініч, каралеўскі маршалак, лідскі дзяржаўца. Пасля яго маёмасць перайшла ў рукі ягонаму сыну Шчаснаму Ільінічу, які быў жанаты з Зоф'яй Радзівіл, дачкой Яна Радзіаіла Барадача, троцкага кашталяна. Калі Шчасны Ільніч ў 1540 г. памёр, дык яго адзіны сын Юры быў прыняты на выхаванне сваім дзядзькам Мікалаем Радзівілам Чорным і выхоўваўся ў Нясвіжы са сваімі стрыечнымі баратамі. Потым ён служыў ў аўстрыйскім войску. У 1555 г. імператар Фердынанд II надаў Юрыю Ільінічу тытул графа на Міры. Згодна з попісам войска 1567 г. пан Юры Ільініч ставіў з маёнтка Дворышча ў Лідскім павеце на земскую службу 12 коней і 6 драбаў. Юры Ільініч усынавіў князя Мікалая Крыштафа Радзівіла, свайго стрыечнага брата. 4 траўня 1569 г. дараваў яму ва ўласнасць замак Мір і маёнткі Жухавічы, Дворышча, Зельвак, Чарнаўчыцы і Белую і яшчэ не старым памёр. Гэта быў апошні з магутнага раней роду Ільінічаў. Новы ўладальнік Дворышча князь Мікалай Крыштаф Радзівіл, які меў прыдомак Сіротка, быў вернуты езуітамі ў каталіцызм і моцна хацеў патрымаць іх у справе адкрыцця калегіюма (ўніверсітэта) ў Вільні.

Маёмасць Дворышча з усімі прылеглымі вёскамі, палямі, лугамі, лясамі і іншымі прыналежнасцямі князь Мікалай Крыштаф Радзівіл, выправіўшыся ў пілігрымку ў Святую зямлю, аддаў у заставу[2] віленскаму біскупу Валяр'яну Пратасевічу, а пасля вяртання з пілігрымкі, 22 жніўня 1577 г. прадаў калегіюму за палову той сумы, якую маёнтак быў варты. 25 жніўня 1578 г. князь Валяр'ян Пратасевіч дараваў і перадаў навечна свае застаўныя правы на Дворышча таму ж калегіюму. Гэты фундуш зацвердзіў кароль Стэфан Баторы 1 красавіка 1579 г.

Дзвесце гадоў Дворышча і Тракелі былі маёмасцю езуітаў, утрымлівалі Віленскую акадэмію і падпарадкоўваліся ўладзе рэктараў, пачынаючы ад Пятра Скаргі. Рэктары стала трымалі тут адміністратараў ці так званых пракурораў, але і самі, асабіста, наведвалі і кантралявалі гаспадарку. Вайна 1654-1660 гг. так знішчыла тут усю маёмасць, што згодна з падлікамі Адама Саковіча, адміністратара літоўскага скарбу, за 1661 г. *"Іхмосці айцы езуіты з маёмасці калегіюма Віленскага Дворышча і Тракелі атрымалі грошы толькі з 16 дымоў, якія толькі і засталіся нязнішчанымі ў гэтай велічэзнай маёмасці"*. У так званым "Шчорсаўскім" рукапісе, які граф Яўстах Тышкевіч надрукаваў у "Лістах аб Швецыі" (1847 г.) ксёндз-езуіт апавядае, што ў часы Паўночнай вайны ў Літве Карлам XII Дворышча было спустошана няспынными рабункамі і павінна бало пайсці з дымам (1706 г.), калі б за яго не адкупіліся сотняй чырвоных злотых, які адзін з манахаў спешны прывёз з калегіюма.

Пасля роспуску ордэна езуітаў у 1773 г. гэта маёмасць перайшла Размеркавальнай камісіі, якая прадала яе троцкаму суддзі Міхалу Ромеру з абавязкам выдзялення пэўных квот Адукацыйнай камісіі. Хутка гэтая маёмасць была падзелена паміж арандатарамі другой і трэцяй рукі. Згодна з люстрацыяй 1796 г. Дворышча з фальваркамі Уладзіслававым, Тракелямі і Гуранамі знаходзілася ў дзедзічнай пацэсіі слонімскага земскага пісара Ігнацыя Шукевіча, ад якога Дворышча і Уладзіслававва трымала Пузыніна, старасціна шатэрніцкая, а Гурава - Станіслаў Воўк. У тым часе гэта маёмасць абдымала 22 вёскі і мела 224 дымы і 1265 душ. На пачатку XIX ст. часткай гэтай маёмасці валодалі Валадкевічы, потым Дворышчам з Тракелямі валодаў Стэфан Незабытоўскі, наваградскі падкаморы, ад якога іх набыў уладальнік суседніх Геранёнаў стацкі дарадца Войцах Пуслоўскі. Пуслоўскі прадаў Дворышча і Тракелі Антону Наркевічу, капітану польскіх войскаў. Аднак ні Наркевіч, ані яго спадкаемцы не рабілі законныя выплаты Адукацыйнай камісіі і Правячы сенат у 1821 г. вярнуў гэтую маёмасць Пуслоўскаму, які за пакрыццё даўгоў 17 лютага 1822 г. заплаціў Адукацыйнай камісіі 33 817 рублёў срэбрам. Пасля смерці Войцаха Пуслоўскага (у 1833 г.) яго сыны Францішак, Уладзіслаў, Ксаверы, Вандалін прадалі паезуіцкую маёмасць Дворышча і Тракелі Аляксандру Вольскаму.

Пасля адмены прыгону, па надаўчым акце 27 траўня 1866 г. сялянам маёнткаў Дворышча і Тракелі на выкуп перададзена зямля: вёскі Бянейкі для 9 дымоў, Кабыльнікі - 14, Пашунцы - 8, Юравічы - 4, Суцькі - 4, Гурава - 6, Ючавічы - 4, Міргінцы - 12, Эйтуны - 18, Мігуны - 17, Граблі - 4, Вайтовічы - 7, Шнурэвічы - 4, Папашаны - 3, Дайнава - 10, разам для 124 дымоў - 2 664 дзесяціны 1995 квадратных сажняў, ці 2911 га.

Каля Лідскага гасцінца, уздоўж дарогі да Бянеяк, здаўна стаяла вёска Дворышча ў складзе 14 дымоў, але ў 1859 г. Аляксандр Вольскі перасяліў сялян на пусташ да іншай вёскі, а зямлю, на якой стаяла вёска, уключыў у землі маёнтка.

8 чэрвеня 1865 г. у Дворышчы нечспадзявана адміністрацыя Мураўёва пайшла насустрач віленскай дырэкцыі дзяржаўнай маёмасці і цэлы комплекс паезуіцкай маёмасці - Тракелі, Гурава, Скверні, Уладзі-

[1] Szymielewicz Michal. Dworzyszcze i Trokiele // Ziemia Lidzka №3-1939. S. 82-91.

[2] Від арэнды - *Л.Л.*

славова і Дворышча з лясамі, лугамі і інш. быў секвестраваны ў дзяржаўны скарб - адабраны ў законнага уласніка Аляксандра Вольскага. Інструкцыя ад 23 ліпеня 1865 г. цалкам адсунула усялякую магчымасць датычнасці асоб польскага паходжання да гэтай маёмасці і аддзяліла Дворышча ад Тракеляў. Грунтуючыся на акце ад 5 лютага 1870 г. міністэрства дзяржаўнай маёмасці перадала Дворышча генерал-ад'ютанту, барону Вільгельму Лівену, чальцу Дзяржаўнай рады. Пасля смерці Лівена, маёмасць перайшла да яго брата Карла Лівена, а ад яго ў 1890 г. - сыну Карла - Мікалаю Лівену. Гэты, апошні, у 1896 г. прадаў Дворышча дзяржаўнаму кантралёру, сенатару Філіпу Перцюшову, які ў сваю чаргу ў 1900 г. прадаў маёнтак Івану Карышову. Пасля Карышова 24 траўня 1906 г. Дворышча з фальваркамі Уладзіславова, Сліжы, Нікадзімаў, Дашкялі і Марысева (разам 1 754 дзесяціны) набыў Сяргей Філіпаў, камергер царскага двара. Пры ім маёнтак быў падзелены, прычым ягоны цэнтр плошчай 302,5 дзесяціны з млынам на рацэ Жыжме ў 1911 г. набыў Аўгуст Амберг.

У Дворышчы, пры Лідскім гасцінцы знаходзяцца даўнія могілкі, дзе стаяла драўляная капліца, якую ў 1591 г. пабудаваў Гарцяс Алябянус, рэктар Віленскага калегіюма. У спісах касцёлаў ад 1669 г. (складзеным пад час біскупства Сапегі) і ад 1744 г. (складзеным пад час біскупства Зянковіча) гэтая капліца запісана як філіял парафіяльнага касцёла ў Тракелях. Пасля зруйнавання яе ў 1770 г. капліцу нанава адбудавалі езуіты. У 1860 г. Аляксандр Вольскі, у той час уладальнік Дворышча, на тым жа месцы пабудаваў новую капліцу ў форме васьмікутніка. 9 траўня 1864 г. ксёндз Канстанцін Сцефановіч, тракельскі пробашч, пахаваў тут памёрлую 7 траўня ў веку 67 гадоў жонку фундатара Станіславу Вольскую (з князёў Мірскіх). Капліцы была высвечана ў гонар Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай і мела яе абраз у срэбных шатах старажытнай работы. Штогод, 8 верасня пры вялікай колькасці народу тут адбываецца набажэнства.

**II**

Маёнтак Тракелі знаходзіцца за 17 км на паўночны ўсход ад горада Ліды на вышыні 211 м над узроўнем мора. Першы ўспамін пра Тракелі знаходзіцца ў лісце князя Жыгімонта Кейстутавіча, якім ён у 1433 г. пацвердзіў Яну Гаштольду маёмаснае права на цэлы шэраг розных двароў і вёсак, у тым ліку Новага Двара і Тракеляў. Маёмасць Гаштольдаў пасля смерці астатняга ў родзе - Станіслава Гаштольда, віленскага ваяводы, па тагачасным праве адышла да караля Жыгімонта І, які ў 1543 г. дараваў яе каралевічу Жыгімонту Аўгусту.

Мы нічога не ведаем пра лёс Тракеляў ажно да канца XVI ст. Калі ў Дворышчах аселі езуіты, дык яны абмянялі Шырвінты, якія ім належалі, на Тракелі, і 23 лютага 1585 г. кароль Стэфан Баторы сваім прывілеем надаў Тракелям усе дабрадзействы і палёгкі, якімі карысталася духоўная маёмасць. З таго часу Тракелі стваралі адзіны гаспадарчы комплекс з Дворышчам і іншымі гаспадарчымі аб'ектамі і капіталамі і з'яўляліся багатай крыніцай для ўтрымання Віленскай акадэміі, якую ўтрымлівалі езуіты. Агульная плошча гэтых уладанняў дасягала 10 000 га і ў XVII-XVIII ст. на поўначы і ўсходзе межавала з маёнткамі артылерыі ВКЛ Геранёнамі і Ліпнішкамі, на поўдні з маёмасцю Віленскага біскупства Дуброўняй, на захадзе з маёмасцю радзівілаўскіх Жырмунаў і дробнымі шляхецкімі засценкамі. Дворышча і Тракелі, як і іншыя маёнткі, з даўніх часоў былі заселены падданымі сялянамі "на службах", якія аднаасобна ці разам з іншымі сялянамі апрацоўвалі зямельныя ўчасткі розных памераў, плацілі рознага кшталту падаткі і выконвалі розныя павіннасці для ўладароў зямлі. Валочная рэформа - падзел зямлі на аднолькавыя па памерах дзялкі ці так званыя валокі і раздача гэтых дзялак падданым з устанаўленнем павіннасцяў і падаткаў ад валокі, а таксама забудова вёсак на вызначанай зямлі, праведзена ў Дворышчы ў часы князя Мікалая Радзівіла каля 1570 г., а ў Тракелях - ужо ў часы езуітаў, каля 1590 г.

Згодна з інструкцыяй ад 23 ліпеня 1865 г. Тракелі былі аддзелены ад Дворышча як "маёмасць памерам 3 168 дзесяцін" (3456 га) і выстаўлены на продаж. 12 студзеня 1870 г. адбыўся царскі дазвол на продаж Тракеляў Аляксандру Нікіціну, начальніку штаба Віленскай вайсковай акругі, а потым камандзіру 2-га корпуса. Акт продажу складзены 5 лютага таго ж года на суму 25 804 рублі - 8 рублёў за дзесяціну. Нікіцін валодаў Тракелямі нядоўга і 20 траўня 1875 г. прадаў маёнтак інжынеру Канстанціну Міхайлоўскаму, дзеячу "абрусення" за 73 500 рублёў (згодна з народнымі размовамі - праіграў у карты). 27 чэрвеня 1877 г. Міхайлоўскі прадаў Тракелі Марыі Языкавай. Пасля яе смерці, згодна з тастамантам, зацверджаным 26 студзеня 1883 г., маёнтак успадкаваў яе муж, вайсковы інжынер, палкоўнік Мікалай Языкаў, камандзір 1-га чыгуначана батальёна ў Слоніме. Языкаў паўторна ажаніўся з сястрой сваёй першай жонкі Юліяй Варанец, якая пасля смерці мужа стала гаспадыняй Тракеляў на падставе тастаманту, зацверджанага Акруговым судом у Вільні 24 верасня 1892 г. Юлія Языкава паўторна выйшла замуж за Уладзіміра Пурцаладзе, грузіна, асабістага сакратара міністра юстыцыі Мураўёва. Пурцаладзе памёр у 1896 г., а Языкава валодала маёнткам да сваёй смерці ў 1923 г.

Лічыцца, што парафільяны касцёл у Тракелях закладзены ў 1500 г. віленскім ваяводам Марцінам Гаштольдам. Аднак Марцін Гаштольд быў толькі троцкім ваявадам і памёр у 1483 г., ягоны сын Ольбрыхт Гаштольд быў віленскім ваяводам у 1522-1539 гг. і таму, гледзячы на гэтую інфармацыю, дата заснавання касцёла застаецца пад пытаннем.

Рэктар Віленскай акадэміі ксёндз Гарцяс Алябянус, жадаючы дапамагчы збавенню душ сваіх сялян як у Дворышчах, так і Тракелях, з дазволу генерала ордэна, вызначыў фундуш для плябані ў Тракелях - вёску Мейлуны з шасцю чалавекамі і па тры грошы з хаты маёнтка Дворышча, аб чым 1 траўня 1591 г. у Вільні быў напісаны адпаведны акт.

У часы нашэсця маскоўскіх войскаў у 1655-1659 гг. тракельскі касцёл быў знішчаны і адбудаваны езуітамі каля 1674 г., а ў 1687 г. (?) высвечаны віленскім біскупам-суфраганам Уладзіславам Сільніцкім. У 1758 г. езуіты, верагодна, пасля пажару касцёла зноў адбудавалі яго і высвецілі пад тытулам Visitationis Beatae Mariae Virginis. Сучасны драўляны касцёл пабудаваў у 1809 г. Стэфан Незабытоўскі. Грунтоўна яго рэстаўраваў адміністратар Тракелькай парафіі ксёндз Юзаф Сідорскі ў 1866 г. Згодна з даўняй мерай, касцёл мае

30 аршынаў даўжыні і 14 аршынаў шырыні.

У касцёле за вялікім алтаром, пры тыльнай сцяне ёсць іншы алтар з абразом Найсвяцейшай Панны Марыі, які здаўна слыве вялікімі ласкамі. У адным старым дакуменце ад 1644 г. перададзеным мне Міхалам Сулкоўскім з маёнтка Жыжма, на апошнім, вольным баку аркуша знайшоў напісаны характэрным для паловы XVIII ст. почыркам гімн, які калісьці спявалі ў гонар гэтага абраза:

Скалечаных і нявечных лечыш ты цела,
Здаровымі іх робіш. Шмат сведчаць Тракелі,
Што ласкаў цуды Твае спазнаюць
І фавары з неба маюць
З Тваёй прычыны.

Хто ў сваіх просьбах горнецца да Цябе,
Аб ратунку просячы ў патрэбе,
Атрымае, чаго просіць,
Без адкладу. Ты прыносіш,
Чаго хто прагне.

І хто калі цуды вылічыць Твае можа,
Пра якія сам ведаеш лепш за ўсіх, Божа!
Бо праўда, што дзень, што гадзіна
Абвяшчаецца тут навіна
Пра ласкі Твае.

*Дата "Год 1769".*

Пасля пажару касцёла, як пра тое сведчыць візіта 1782 г., гэты абраз быў знойдзены на пажарышчы цэлы і непашкоджаны. У 1782 г. абраз быў наклеены на новае палатно. Згодна са старымі інвентарамі, абраз быў устаўлены ў драўляную раму і закрыты металічнымі пасрэбранымі шатамі, а ўверсе пазалочаны і ўпрыгожаны трымя каронамі. Таксама абраз упрыгожваюць восемдзесят "так званых камянёў" і некалькі дзясяткаў вотаў. Штогод, 2 ліпеня, у свята З'яўлення Найсвяцейшай Панны Марыі, тут адбываецца слынны на ўвесь павет кірмаш "Тракелянка", на які прыбываюць з блізкіх і дальніх парафій некалькі тысяч чалавек. Другі кірмаш прыпадае на 7 жніўня, на дзень апекуна вучнёўскай моладзі Св. Каятана, алтар якога да нашага часу ёсць жывой памяццю аб прыналежнасці Тракеляў да слаўнай акадэміі езуітаў, прабабкі сучаснага ўніверсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні.

Каля касцёла, на могілках, знаходзіцца мураваная пахавальня-капліца роду Шукевічаў. Надпіс на мармуровай пліце над уваходам ў яе: *"Дом вечнага адпачынку Вяльможанай Ягамосьці пісаровай зем. Слонім. Памерла 1803 года 16 красавіка: "Лепш ісці ў дом жалобны, чым у дом святочны, бо ў ім ёсць канец усіх людзей, а чалавек, які жыве, думае, што будзе потым: Экл. 7 раздзел".* Капліца закрытая ў 1870 г.

Дварышчанская капліца - філія Тракельскага касцёла. Таксама мелася капліца ў маёнтку Гімбуты, пабудаваная ўладальнікам маёнтка, прэзідэнтам лідскага земскага суда Адамам Барымоўскім і высвечаная віленскім біскупам Ігнацыем Масальскім у 1782 г. Урад закрыў капліцу ў 1870 г., і праз нейкі час яна была знішчана.

У архіве тракельскага касцёла захоўваюцца метрычныя кнігі: хростаў з 1680 г., шлюбаў з 1678 г., памерлых з 1776 г.

Пры касцёле з даўніх часоў, згодна з прынятым звычаем, за ахвяраванні ўтрымліваўся дабрачынны прытулак для старых і школа для дзяцей, у школе звыкла выкладаў арганіст. У школе дзеці вучыліся пісьму і чытанню: у 1777 г. - 4-ра сялянскіх дзяцей, у 1782 г. - 2-е дзяцей шляхты і 4-ра сялян, у 1797 г. - 3 чалавекі, у 1798, 1804, 1805 гг. - па адным. Недзяржаўнае легальнае навучанне дзяцей арганістам пратрымалася да 1865 г., потым навучанне працягвалася ўжо як "тайнае", з пэўнымі засцярогамі.

Тракельская парафія ў 1842 г. межавала з парафіямі Германішскай, Геранёнскай, Ліпнішскай, якія ўваходзілі ў склад Ашмянскага павета, праз раку Жыжму - з Лідскай і Жырмунскай парафіямі Лідскага павета. З таго часу змянілася мяжа і зажыжмянская тэрыторыя стала таксама Лідскім паветам. У спісе касцёлаў ад 1669 г. Тракелі і Дворышча належалі да Радунскага дэканату, а ў 1842 г. былі далучаны да Лідскага дэканату. У 1781 г. Тракельская парафія налічвала 2 814 душ, а ў 1896 г. - 4 288.

Маёмасць тракельскага касцёла, гэта значыць зямля плябані і вёска Мейлуны ў 1842 г. была прынята ў дзяржаўны скарб і потым прададзены свецкай асобе. У 1850 г. гэтая маёмасць уваходзіла ў склад дзяржаўнага маёнтка Дзевянішкі Ашмянскага павета, была праведзена "люстрацыя", гэта значыць сяляне пераведзены на чынш і ўключаны ў склад Дзевянішскай грамады скарбовых сялян. У 1854 г. частка былой зямлі плябані, а менавіта каля 48 дзесяцін, вернута тракельскаму пробашчу, а рэшта, каля 30 дзесяцін, перададзена за чынш сялянам, потым гэтая зямля пайшла сялянам за выкуп. Пры аб'яднанні ў 1866 г. інстытуцый скарбовых і прыватных сялян, увесь гэты абшар былых касцельных зямель разам з Мейлунамі застаўся ў межах Ашмянскага павету. А астатняя частка былых зямель Тракеляў і Дворышча сталася часткай Жырмунскай гміны. Адсюль паўстала так званая "Тракельская" шахаўніца двух паветаў і дзвюх гмін, якая існавала да 1915 г.

Зараз каля касцёла існуе невялікая вёска Тракелі з некалькіх дзясяткаў дамоў, якія пабудаваны на былой касцельнай зямлі. У Тракелях каля касцёла здаўна існавала карчма - частка тракелькага маёнтка. Карчма была зруйнавана пры канцы XVIII ст. У 1808 г. Стэфан Незабытоўскі пачаў будаваць новую карчму, але тракельскі пробашч - смаленскі канонік, ксёндз Ян Даўкша пачаў пратэставаць, бо лічыў што гэтая карчма стаіць на землях касцёла. Аднак справа да суда не дайшла, і ксёндз Даўкша ўступіў гэтую зямлю, а Незабытоўскі абавязваўся адрамантаваць касцёл і плаціць штогод пробашчу 700 злотых, акрамя таго аплочваць 10 вартаўнікоў падчас кірмашу, даваць пробашчу 2 бочкі жыта, 2 гарнцы віна, 2 гарнцы гарэлкі і кадушку масла. Дамова была падпісана 17 траўня 1808 г., Незабытоўскі адрамантаваў касцёл і да 1810 г. цалкам выконваў дамову, так што пробашч не меў ніякіх заўваг. Толькі, калі праз суд Віленска-Літоўскай губерні маёнткі Дворышча і Тракелі былі вернуты пані Валадкевіч, 11 красавіка 1811 г. Незабытоўскі разарваў дамову, а карчму перадаў пробашчу. У 1897-1915 гг. тут працавала скарбовая манаполька па продажы гарэлкі.

Бліжэйшыя народныя школы былі: у Пераганцах - 8 км, Ліпнішках - 10 км, Лідзе - 17 км, Жырмунах - 10 км.

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

*Леанід Лаўрэш*

# Лідскія могілкі

Думаю, што нікога не можа здзівіць думка, што большасці жыхароў любога горада ўжо няма сярод нас, яны памерлі, і мы, тыя, хто жыве зараз, у нейкім сэнсе дзелім свае гарады з імі. Прычым, для іх гісторыя ўжо адбывалася, і героі назаўжды застануцца героямі, мярзотнікі - мярзотнікамі, а звычайныя, добрыя людзі, якія заўжды былі большасцю - добрымі людзьмі. У кожным старым горадзе ёсць месцы, дзе фізічна адчуваецца прысутнасць тых, хто раней за нас нарадзіўся, любіў, ненавідзеў, пакутаваў і радаваўся. Гэтыя месцы - старыя гарадскія могілкі. Усім вядомы могілкі на Росах у Вільні, Кальварыя ў Менску ці Лычакоўскія могілкі ў Львове. Ёсць такія ж, толькі зразумела, меншыя ў Лідзе - гэта старыя гарадскія (яны яшчэ называюцца "каталіцкія") і старыя праваслаўныя могілкі. Тут, сярод старых соснаў жыве мінулае нашага горада і я, калі прыходжу сюды, рухомы сваёй цікаўнасцю да гісторыі - найчасцей каб пашукаць магільны помнік кагосьці з тых, пра каго пішу, адчуваю тут сапраўдны подых мінуўшчыны. Але старыя лідскія могілкі - ахвяра вандалізму канца савецкай эпохі, большасць помнікаў тут разбіта і перавернута, д'ябальская злая моц у свой час зрабіла ўсё магчымае, каб ператварыць могілкі ў пустэльню.

Да XIV ст. амаль што адзіным месцам для могілак служылі двары цэркваў і касцёлаў, але з ростам гарадоў месцаў каля храмаў стала не хапаць, і таму могілкі пачалі ўладкоўваць на ўскраінах гарадоў. У XVII і асабліва ў XVIII ст. урады, зыходзячы з меркаванняў санітарнай бяспекі, пачалі забараняць пахаванне памерлых пры храмах, а ў XIX ст. усталявалася норма, якая забараняла могілкі ўнутры гарадоў ці паселішчаў. Могілкі павінны былі знаходзіцца на вызначанай адлегласці ад апошняга жытла. У Італіі адлегласць гэта вызначаналася ў 100 м, у Саксоніі ў 136 м, у Аўстрыі і Францыі ў 200 м. Брусельскі гігіенічны кангрэс 1852 г. прызначыў адлегласць як мінімум у 400 м, па рускім заканадаўстве могілкі ўладкоўваліся ў гарадах на адлегласці не менш за 200 м ад апошняга жытла, а ў селішчах - на адлегласці паўвярсты: "*Для гарадскіх могілак адводзяць месцы за горадам ... у месцах зручных, адлегласцю ад апошняга гарадскога жылля не менш за сто сажняў*" [1]. Таму практычна ўсе захаваўшыяся мемарыяльныя могілкі нашага краю заснаваны пры канцы XVIII - пачатку XIX ст.

У артыкуле я паспрабую расказаць пра ўсе вядомыя лідскія могілкі - якія існавалі раней і існуюць зараз.

### Старажытныя ўніяцкія могілкі

Па традыцыі, каля хрысціянскага храма амаль што заўжды існаваў цвінтар - месца дзе хавалі парафіян гэтага храма. Таму можна дакладна сказаць, што першыя могілкі былі каля лідскіх хрысціянскіх храмаў, якія з'явіліся адразу пасля заснавання горада. Больш прэстыжным былі пахаванні непасрэдна ў храме ці ў яго склепе.

Ужо ў першай палове XVII ст. ў горадзе дзейнічалі чатыры грэка-каталіцкія царквы: Св. Яна, Св. Мікалая (каля рынкавай плошчы), Св. Спаса (у горадзе), царква Прачыстай (на Зарэччы)[2]. Пра месца, дзе знаходзілася царквы Св. Спаса, на жаль нічога не вядома.

Мы дакладна ведаем пра існаванне дваіх уніяцкіх (верагодна, раней яны існавалі і як праваслаўныя) могілак ў нашым горадзе.

Прачысценская царква стаяла каля сучаснага скрыжавання вуліц Калініна і Стралкоўскага[3], пры царкве былі прыходскія могілкі. У другой палове XVIII ст. Ліда інтэнсіўна развіваецца. У 1765-1770 гг. паўстаў новы мураваны касцёл - Фарны, пабудаваны замест старога драўлянага. У 1765 г. з дрэва разабранага старога Фарнага касцёла ("як кажуць, яшчэ добрым для сценаў" [4]) паміж могілкамі былой уніяцкай царквы Прачыстай і млынам (недалёка ад месца былой царквы Прачыстай) пабудавалі новую ўніяцкую царкву Ўваскрасення Госпадня. Пры царкве дзейнічаў невялікі шпіталь. А могілкі, верагодна, засталіся ад папярэдняй царквы. Пра існаванне тут могілак пры канцы XVIII ст. пісаў Міхал Шымялеівч: "*... хрысціянскія могілкі горада Ліды знаходзіліся на ўзгорку паміж вуліцамі Гражыны, Вызвалення, Гарыстай*" [5].

Жыхарка горада Я. Ярмант пісала ў мемуарах пра сваё жыццё ў 1930-я гг.: "*Наш дом знаходзіўся ніжэй вуліцы Вызвалення (цяпер Калініна), калісьці на гэтым месцы былі могілкі таму, што ў агародзе знаходзілі чалавечыя косці*" [6].

Другія ўніяцкія могілкі былі каля царквы Св. Мікалая, якая ў XVIII ст. пасля перабудовы была пе-

[1] Свод Законов Российской Империи. 1842 г. Т. XIII. С. 90.

[2] Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S. 107-109.

[3] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[4] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyszszenia krzyza sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 103.

[5] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Zemia Lidzka. 1937. № 11. S. 117.

[6] Ярмонт Е. В тени замка Гедимина. Лида, 1995. С. 38.

раасвечана ў царкву Міхала Арханёла. Пры гэтай царкве меўся шпіталь і пабудовы плябані. Плябань *"часткова плотам, а часткова жэрдкай агароджана, з брамай, стараннем Двара і святароў пабудаваная"*[7]. Тут жа каля царквы знаходзіліся старажытныя могілкі: *"пляц, дзе пабудаваны царква са шпіталем і дзе знаходзяцца могілкі, мае паўтара моргі"* [8]. Могілкі *"не абгароджаныя, на іх была старая, нядаўна зруйнаваная, званіца"* [9]. У візітацыі 1784 г. запісана: *"... званіца старая на двух слупах, на якой два вялікія званы - адзін вагой у 6 камянёў, другі - у чатыры камяні і адзін малы, 15 фунтаў. Каля могілак пабудоў няма"*[10].

На паштоўках пачатку XX ст. з выявай былога касцёла піяраў (у той час Свята-Міхайлаўская царква) бачны могілкі, верагодна на гэтых старых уніяцкіх могілках працягвалі хаваць нябожчыкаў і ў другой палове XIX ст.

Пры капітальным рамонце вуліцы Сувальскай (зараз - Савецкай) і пракладцы тэлефонных кабеляў да будаванай у той час новай пошты па вуліцы Міцкевіча ў 1937 г. знойдзены парэшткі XVIII ст. *"лідскіх месцічаў, якія былі пахаваны на могілках пры ўніяцкай царкве, якая згарэла ў першай палове XVIII ст. ... . Потым праваслаўныя святары прадалі пляц былых могілак каля царквы пад участкі для будаўніцтва, і тут былі пабудаваны дробныя крамы"* [11].

**Старажытныя рыма-каталіцкія могілкі**

У 1387 г. Ягайла заклаў у Лідзе адзін з першых касцёлаў у ВКЛ. Знаходзіўся ён дзесьці каля таго месца дзе зараз стаіць Фарны касцёл, на падзамчы[12]. Можна не сумнявацца, што адразу, каля яго былі заснаваны і рыма-каталіцкія могілкі. Першы Лідскі касцёл згарэў у 1392 г. пры нападзе крыжакоў. У 1397 г. быў пабудаваны новы касцёл. Яго асвяціў віленскі біскуп Андрэй, які зноў адкрыў пры касцёле францішканскую місію, бо ранейшыя місіянеры гэтага ордэна былі хутчэй за ўсё забітыя або выгнаныя падчас нападу крыжакоў на Ліду ў 1394 г. І гэты касцёл згарэў у 1406 г. У 1414 г. ён быў узноўлены як парафіяльны і пасвечаны пад назвай "Найсвяцейшай Дзевы Марыі Панны, Усіх Святых" [13]. Пад час спусташальнай вайны 1654-1663 гг. горад быў цалкам знішчаны. У тэксце візітацыі касцёлаў Віленскай дыяцэзіі ў 1674 г. біскупам-суфраганам Мікалаем Слупскім, пра Лідскі касцёл зроблены наступны запіс: *"Касцёл новазбудаваны, драўляны, пабудаваны коштам мясцовага дэкана, ксендза Ігната Рэберта, асвечаны пад час знаходжання візітатара"* [14].

У другой палове XVIII ст. у Лідзе, верагодна па праекту віленскага архітэктара Глаўбіца, з цэглы ў стылі барока быў пабудаваны Фарны касцёл Узвіжання Святога Крыжа, які дзейнічае да нашага часу[15].

Пад прэзбітэрыюмам[16] новага касцёла, у скляпеннях адразу былі падрыхтаваны месцы для пахаванняў больш заможных парафіянаў. У 1846 г. парэшткі з гэтага склепа былі перазахаваны ў зямлю[17].

Касцёл агароджвала мураваная сцяна, знутры якой знаходзіліся могілкі для простых парафіян[18]. У візітацыі 1777 г. пра гэтыя могілкі пісалі так: *"Могілкі каля касцёла цалкам агароджаны мурам, прасторныя, ад вуліцы агароджа пабудавана за кошт ягамосцяў фундатараў, астатнія муры - коштам ксендза-пробашча, пабудова мура цалкам не закончаная, не дабудавана палова стаі*[19]*. На заканчэнне агароджы ўжо назапашана цэгла, і вясной будоўля можа быць закончана. Брама з могілак на вуліцу крытая бляхай, пабудаваная ягамосцямі фундатарамі. Дзверы ў браме на жалезных завесах, ушчыльненне дзвярэй упала, бо было без жалезных цвікоў. У браме двое малых дзвярэй на завесах, з клямкамі і зашчапкамі. Ад бабінца*[20] *праз браму ажно да вуліцы намаганнямі ... пробашча дарога забрукавана"* [21].

На гэтых могілках у 1794 г. былі пахаваныя паўстанцы Тадэвуша Касцюшкі, якія загінулі пры абароне Ліды ад расейскіх войскаў - пра гэта меўся запіс у метрычных актах Лідскага касцёла за 1794 г.: *"Усе, забі-*

[7] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. Арк. 35 адв.

[8] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 86-86 адв.

[9] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244.. 35 адв.

[10] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. ... Арк. 85 адв.

[11] Slowo № 268 (4832) 28 wrzesnia 1937.

[12] Kurczewski Jan. Biskupstwo Wilenskie. Wilno, 1912. S. 208.

[13] Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197; Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 2008. С. 233

[14] Kurczewskie Jan. Stan kosciolow parafialnych w djecezji wilenskiej po najaciu nieprzyjacielskiem 1655-1661 r. // Litwa i Rus. Luty, 1912. T.1. Zeszut II. S. 122.

[15] Кулагін А. М. Каталіцкія храмы на Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 2000. С. 86; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S.107 - 109.

[16] Прэзбітэрый ці прэзбітэрыюм - ("месца для выбраных", ад старагрэчаскага "сход святароў") частка каталіцкага храма між асноўным аб'ёмам і алтарнай апсідай, прызначаная для царкоўнага кліра.

[17] Інвентарны вопіс Лідскага рымска-каталіцкага касцёла і бенефіцыі // Лідскі летапісец № 2 (18) - 2002. С. 9.

[18] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza Sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 103.

[19] Стая (staja, staje) - мера даўжыні, найчасцей каля 200 м.

[20] Бабінец - пярэдняя частка культавага збудавання, прызначаная для жанчын, з'яўляўся часткаю асноўнага аб'ёму пад харамі. Часам бабінцам называлі прыбудову да храма з боку галоўнага фасада.

[21] Opis i inwentarz kosciola farnego w Lidze z r. 1777 // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 126.



**Фарны касцёл у 1917 г.**

*тыя падчас аблогі Ліды, пахаваныя каля касцельнай агароджы"* [22].

Пры канцы XIX ст. Ян Сегень: *"З правага боку вул. Віленскай, як раз насупраць гатэля стаіць парафіяльны касцёл, могілкі і пладовы сад..."* [23].

Другія рыма-каталіцкія могілкі існавалі каля кляштара і касцёла кармелітаў. Мураваныя кляштар і касцёл пры ім знаходзіліся ў цэнтры горада на адлегласці за 108 крокаў ад Фарнага касцёла, на супрацьлеглым баку вуліцы. На невялікіх могілках, якія межавалі з кляштарным дзядзінцам, стаяла званіца. У 1829 г. была пабудавана новая званіца, якая стаяла на чатырох дубовых слупах і мела тры званы[24].

Захаваліся тастаманты тых, хто жадаў быць пахаваным тут, напрыклад, 20.09.1804 г. лідскім ротмістрам Каралем Янашам Жамойцелем у судзе быў прадстаўлены тастамант Эліяша Хруля, напісаны ў 1712 г. У тастаманце Эліяш Хруль прасіў *"... пахаваць яго ў лідскіх кармелітаў, для гэтага дае 500 злотых, на імшу дае 5 талераў"* [25]. Дарэчы Эліяш Хруль - прамы продак маёй жонкі.

У 1908 г. касцёл быў разабраны, хоць касцельныя муры ўсё яшчэ стаялі да ўзроўню даха. Цэгла выкарыстоўвалася для будаўніцтва кашараў Паўночнага вайсковага гарадка. У тым жа 1908 г. кляштар занялі вайскоўцы. Пад час нямецкай акупацыі ў будынку былога кляштара месціўся жаўнерскі клуб, а з 1927 г. тут стала размясцілася староства Лідскага павета[26].

Ужо ў 1929 г. пры рэканструкцыі электроўні і будаўніцтве новых размеркавальных электрычных сетак, лідскі пробашч забараніў будаваць новы трансфарматарны пункт і весці земляныя работы на месце былых карміліцкіх могілак. Прэса паведамляла: *"Пробашч Лідскай парафіі кс. дэкан Баярунец напісаў пану ваяводзе пратэст супраць планаў будоўлі трансфарматарнага пункта на пляцы, дзе раней месціўся касцёл кармелітаў і могілкі каля касцёла - каля сучаснага будынка Лідскага староства"* [27]. Як бачна з фотаздымкаў канца 1930-х гг., улады прыслухаліся да меркаванняў ксендза, бо той самы трансфарматарны пункт 6/0,4 кВ быў пабудаваны на вуліцы Сувальскай насупраць староства (прыкладна насупраць сённяшняга помніка Скарыну).

Пасля 1945 г. тут неаднаразова вяліся земляная работы пры пракладцы і рамонтах падземных камунікацый і часта знаходзіліся парэшткі людзей. На пачатку верасня 1937 г. падчас устаноўкі фундамента пад кіёск Таварыства падтрымкі супрацьпаветранай абароны (LOPP) на плошчы Збаўцы былі знойдзены падмуркі былога касцёла кармелітаў[28]. Пры канцы верасня "Кур'ер Віленскі" пісаў: *"Зноў натрапілі на сляды могілак у цэнтры горада. Нядаўна пры пракладцы каналізацыі на вуліцы 3-га Мая насупраць гмаха староства (былога будынка кляштара) знойдзены косткі людзей. Зараз зноў пры капанні равоў і ўкладцы трубаў для тэлеграфных кабеляў да новага будынка пошты ў некалькіх месцах па вуліцы Сувальскай знойдзены людскія косткі. З гэтага вынікае, што ў самым цэнтры горада, на перакрыжаванні вуліц 3-га Мая і Сувальскай былі старыя могілкі"* [29]. Як вядома, гэта былі могілкі кляштара кармелітаў.

[22] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок. // Виленский календарь. Вильно. 1906, С. 51.

[23] Ян Сегень. Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя // Лідскі летапісец, № 12 - 2001. С. 17.

[24] Pyzel Konrad. Kosciol p.w. Najsw. Marii Panny i Sw. Alberta oraz klasztor karmelitow trzewiczkowych w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 172-173.

[25] НИАБ Ф. 1722. Воп. 1. Спр. 19. (Актовая книга Лидского гродского суда 1803-1802 гг.) С. 765-766.

[26] Pyzel Konrad. Kosciol p.w. Najsw. Marii Panny i Sw. Alberta oraz klasztor karmelitow trzewiczkowych w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 173.

[27] Zycie Nowogrodzkie № 282 (639) 15 pazdziernika 1929.

[28] Slowo № 247 (4811) 7 wrzesnia 1937.

[29] Kurjer Wilenski № 269 (4230) 30 wrzesnia 1937.

Зараз прыкладна там, дзе стаяў кармеліцкі кляштар, знаходзіцца будынак музычнага каледжа, а на тым месцы, дзе быў касцёл праходзіць паўдзённая праезджая частка вуліцы Ленінскай.

**Яўрэйскія могілкі**

Яўрэі пасяліліся ў Лідзе ў XVI ст.

Кароль Стэфан Баторы ў 1579 г. выдаў лідскім яўрэям прывілей на права пабудовы новай сінагогі і рамонт старой, аднак з умовай, каб новая сінагога не была вышэйшай за касцёл і цэрквы.

Упершыню лідскі кагал узгадваецца ў 1623 г., у гэты год ён быў падпарадкаваны гарадзенскаму. Да таго ж часу належыць і перапіска паміж лідскім кагалам і суседнімі яўрэйскімі супольнасцямі. Як толькі ў горадзе з'явілася яўрэйскае насельніцтва, дык акрамя сінагогі, зразумела, з'явіліся і яўрэйскія могілкі. Прэса ў сакавіку 2009 г. пісала пра цікавыя знаходкі на былых лідскіх яўрэйскіх могілках, якія дазваляюць дадаваць гэты аб'ект канцом XVI ст.: *"Падчас пракладкі кабеля сувязі ў горадзе Ліда, рабочыя знайшлі габрэйскую магілу з помнікам 1872 г. Яўрэйскія могілкі знаходзяцца ў цэнтры Ліды, але былі разбураны савецкай уладай, каб зрабіць жылыя дамы. Сёння, надмагіллі і парэшткі часта знаходзяцца падчас будаўніцтва. Некалькі гадоў таму былі выяўлены два надмагіллі, датаваныя 1605 г., яны былі дададзены да існага мемарыяла Халакосту. Рабін Іцхак Кофман з Гародні разам з чальцамі яўрэйскай грамады перапахавалі парэшткі, знойдзеныя нядаўна ..."* [30].

На плане горада 1842 г. гэтыя могілкі займаюць каля двух гектараў, і бачна, што плануецца іх пашырэнне. На яўрэйскіх могілках меліся надмагіллі рознай вышыні, сустракаліся там таксама і наземныя вялікія цагляныя пахавальні, з трохвугольным дахам і плітамі з эпітафіяй, якія прымацоўваліся да сцяны.

Трэба адзначыць традыцыйны яўрэйскі прынцып "магілы непарушныя". Гэта значыць, што парэшткі памерлых павінны назаўсёды застацца ў тым месцы, дзе былі пахаваны. Хрысціянскае разуменне дазваляе парушаць існыя пахаванні пасля пэўнага часу, хрысціянскія могілкі, якія не выкарыстоўваецца на працягу доўгага часу, могуць быць ліквідаваны. Згодна з прынцыпам юдаізму кожнае надмагілле і ўсе могілкі недатыкальныя да таго часу, пакуль вядома што ў пэў-



***Лідскія яўрэйскія могілкі***

[30] "While laying communication cables in the city of Lida, workers discovered what was later determined to be a Jewish grave dating back to 1872....A Jewish cemetery was once located in the center of Lida, but in the [1950s] it was destroyed by the Soviet government to make room for housing. Today, gravestones and human remains are frequently uncovered during construction projects. Several years ago, two headstones dating from the year 1605 were discovered, and were subsequently added to an existing Holocaust memorial. Rabbi Yitzchak Kofman of nearby Grodno together with members of Jewish community reburied the recently discovered remains ... The original gravestone, which was discovered on Saturday, will remain where it was found to serve as a memorial to the Jewish cemetery that once existed there." [March 2009] . Гл: http://www.iajgsjewishcemeteryproject.org/belarus/lida.html

ным месцы знаходзяцца пахаванні. Выключэннем можа быць выпадак, калі эксгумацыя робіцца для пераносу парэшткаў на Святую Зямлю альбо ў сямейную магілу, для пераносу парэшткаў з неяўрэйскіх могілак, ці калі могілкам пагражае прафанацыя альбо падмыў вадой.

Могілкі пачалі разбурацца з 1941 г. Былы жыхар Ліды І. Рубіновіч успамінаў: *"Адразу пасля акупацыі горада Ліды немцамі пачалася ліквідацыя яўрэйскіх могілак. Сяляне пачалі пасвіць тут сваіх кароў, а потым пачалося разбурэнне надмагілляў, іх пачалі вывозіць для гаспадарчых мэтаў. Так працягвалася і пасля вайны ... . У сярэдзіне 1950-х гадоў гарадскі савет забараніў некалькім яўрэйскім сем'ям, якія жылі ў Лідзе, хаваць сваіх нябожчыкаў на гэтых старых могілках. У якасці альтэрнатывы яны маглі хаваць сваіх нябожчыкаў у горадзе Іўе. У 1960-х гадах у Лідзе пачалася хуткая ліквідацыя яўрэйскіх могілак. Па-першае, была разбурана частка бліжэйшая да берага Лідзейкі: тут, на беразе штучнага возера, былі пабудаваныя розныя канструкцыі і памяшканні для лодак, катэраў і персаналу .... Пасля гэтага, была таксама разбурана частка магіл, якія межавалі з былой вуліцай Пастаўскай, тут зламалі магільныя пліты, якія ўсё яшчэ заставаліся. Усё гэта было зроблена, нягледзячы на пратэсты яўрэяў, якія да гэтага часу жылі ў горадзе. Многія чалавечыя косці былі раскіданыя па паверхні зямлі. Яўрэі сабралі іх у мяшок і закапалі на частцы могілак, якая яшчэ захоўвалася ў той час. Пры канцы студзеня 1966 года толькі ў цэнтры могілак засталіся некалькі надмагілляў - яны былі знішчаны пазней. Такім чынам, апошнія сляды, якія сведчылі пра існаванне вялікай і квітнеючай яўрэйскай супольнасці ў горадзе Ліда былі разбураны і знішчаны"* [31].

Лідзянка Ларыса Канчэўская ўспамінае: *"Возера ў канцы вуліцы Міцкевіча "стварылі" ў 1962 годзе. Паставілі плаціну і загаварылі пра "Лідскае мора". Падзея была не шараговая! Горад быў поўны азёраў, а купацца ўсур'ёз няма дзе. І вось, адбылося! З першымі цёплымі днямі народ накіраваўся на пляж, які быў завалены ... магільнымі плітамі габрэйскіх могілак, што знаходзіліся здаўна на беразе Лідзейкі і ёю ж затопленыя... Вельмі проста загаралі на замшэлых плітах з экзатычнымі старажытнымі пісьмёнамі. І гэта цягнулася даволі доўга: гадоў пяць, калі не даўжэй. Атэізм і вайна надоўга зрабілі людзей неадчувальнымі да сакральных рэчаў быцця, і таму яны не задумваліся аб рознага роду блюзнерствах"* [32].

Да 1960-х гадоў яўрэйскія могілкі месціліся каля сучаснай вуліцы Фрунзе. Зараз на тэрыторыі гэтых могілак пабудаваны жылыя дамы, могілкі сталі часткай вадасховішча. І сёння, па вуліцы Свярдлова, тратуар якой вымашчаны каменем, можна ўбачыць надмагіллі з надпісамі на іўрыце.

**Вайсковыя могілкі**

У 1916 г. немцы заснавалі адмысловыя ваенныя могілкі недалёка ад Паўночнага вайсковага гарадка (зараз - каля СШ № 6). Могілкі былі агароджаныя невысокім мурам. Па правым баку былі магілы нямецкіх і аўстрыйскіх жаўнераў, па левым - расійскіх, якіх сабралі па палях пасля заканчэння баёў вакол Ліды, на магілах расійскіх жаўнераў меліся надпісы *"Невядомы жаўнер расейскай арміі"*, ці проста *"Невядомы"*. Цікава, што асобна былі пахаваны чэхі - жаўнеры аўстра-венгерскай арміі і палякі - жаўнеры нямецкай арміі. У канцы могілак, з паўднёвага боку, недалёка ад выязной брамы знаходзіўся прыгожы помнік часоў Першай сусветнай вайны ў форме піраміды, якая, як пісаў ў 1936 г. Аляксандр Снежка, *"... пабудавана з пэўным мастацкім густам з вялікіх груба абчасаных камянёў. Ля падножжа піраміды ляжыць паміраючы жаўнер, адліты з жалеза, пад ім выразаны надпіс "Fur das Vaterland""* [33].

У міжваенны час тут жа хавалі і польскіх жаўнераў. У 1919-1920 гг. на гэтых жа могілках былі пахаваны салдаты польскай арміі: Сувальскага пяхотнага палка, 4-га і 11-га уланскіх палкоў (1919) г., 1-й дывізіі



***Помнік на вайсковых могілках***

легіёнаў (1920). На могілках былі пастаўлены цэментныя крыжы з надпісамі: *"Невядомы жаўнер Вялікай Польшчы"* без даты нараджэння і смерці. У адным з вуглоў могілак стаяў адзінокі цэментны крыж з надпісам: *"Невядомы салдат бальшавіцкай арміі"*[34].

У 1924 г. была пабудавана невялікая капліца ў закапанскім стылі. У капліцу на набажэнствы, якія праводзіў капелан 77 палка ксёндз Шабельскі, прыходзілі не толькі польскія вайскоўцы, але і жыхары бліжніх раёнаў горада. Праіснавала капліца нядоўга, яна прыйшла ў заняпад і была разбурана разам з вайсковымі могілкамі пасля Другой Сусветнай вайны. На жаль, інфармацыі пра яе не шмат, але вядома, што ў лютым 1925 г. старшы капелан, ксёндз Юзаф Бляўскі праз газету "Слова" падзякаваў усім, хто 31 студзеня спры-

[31] Rubinovitch I. Liquidation of the Jewish cemetery // Sefer Lida. Tel Aviv, 1970. P. 384.

[32] http://pawet.net/memoirs/konchevskaja/Воспоминия_Кончевской_Л.Г..html.

[33] Aleksander Sniezko. Lidzki cmentarz wojenny // Ziemia Lidzka №8-1936.

[34] Kuwalek Robert. Nieistniejancy Nieistniejacy cmentarz wojskowy w Lidzie. // Ziemia Lidzka. №15-1994.

чыніўся да папаўнення касы будаўніцтва гэтай капліцы, а перад усім *"грона непрацуючых паней-гаспадынь ... Шукевіч, Здановіч (старасціна), Сестранцэвіч (інжынярова), Рашкоўскую, Фэглер (прафесарова), Юрагу, Зямкову (капітанова), Мярвінскую (інжынярова), панну Ядвігу Шкоп, Гарлінскую (капітанова), Рашкевіч (інжынярова), Скавінскую, Грэб, Чаславу Мейлун, Баркоўскую, дзякуючы якім была арганізавана імрэза, якая прынесла ў скарбонку будаўніцтва капліцы 634 зл. і 6 гр."* [35].

25 траўня 1924 г. Ліду наведаў прэзідэнт Польшчы Станіслаў Вайцяхоўскі: *"У 9 гадзін раніцы цягнік прэзідэнта спыніўся ў Лідзе. На ўпрыгожаным пероне высокага госця сустракалі старшыня грамадскага камітэта і прадстаўнік Звязу землеўласнікаў князь Людвік Чацвярцінскі, прадстаўнікі гараджан разам з каталіцкім, праваслаўным і яўрэйскім духавенствам. Пасля сустрэчы на вакзале, прэзідэнт у суправаджэнні коннага экскорта паехаў у горад. Прэзідэнт прыняў шэраг дэлегацый і наведаў казармы 77 палка пяхоты, дзе прыняў удзел у ганаровым адкрыцці помніка загінуўшым жаўнерам 77 палка. Помнік у выглядзе калоны быў пабудаваны па праекце падпалкоўніка Сестраневіча"* [36]. У спісе загінуўшых былі прозвішчы 12 афіцэраў: капітана Аляксандра Хацэя, паручнікаў Мар'яна Ласковіча, Цэзары Халецкага, 7 падпаручнікаў, 2 харунжых і 174 жаўнераў дзесяці пяхотных, трох кулямётных, штабной і тэхнічнай ротаў[37].

У 1920-х гадах могілкі былі павялічаны і тут, у асобнай агароджанай зоне хавалі памерлых жаўнераў 77-га пяхотнага палка і цывільных асобаў, якія жылі на Кашарах (Казармах, *рэд.*). У 1939-1941 гг. на могілках былі пахаваны некалькі салдатаў Чырвонай Арміі. У 1941-1944 гг. мо-гілкі былі месцам пахаванняў нямецкіх салдатаў, загінуўшых пад Лідай і памерлых у шпіталях[38].

У 2015 годзе таму я атрымаў па электроннай пошце цікавыя ўспаміны старажыла нашага горада Яна Рацько (1927 г.н.) з Чанстахова, запісаныя ягонай ўнучкай. Ян Рацько да 25 верасня 1959 г. жыў у Лідзе па вуліцы Крупаўскай, 78. З-за каштоўнасці інфармацыі прывяду вялікі ўрывак з ягонага тэксту:

*"Вайсковыя могілкі знаходзіліся каля нашага дома, памятаю, як яны выглядалі да вайны і да 1959 г., калі я выехаў у Польшчу. Гэтымі ўспамінамі хачу падзяліцца з людзьмі, лідзянамі, якія, можа быць, гэтага не памятаюць.*

*Дык вось, як вядома старым лідзянам, могілкі тыя знаходзіліся паміж старой жвіроўняй і казармамі - з аднаго боку, з другога боку была вуліца Рыдз-Сміглага, хоць могілкі і не даходзілі да вуліцы. Іншыя бакі могілак абмяжоўваліся вуліцамі Кашаровай* (Казарменнай, *рэд.*) *і ксендза Скарупкі.*

*Да прыходу ў Ліду бальшавікоў у верасні 1939 г. могілкі выконвалі сваю ролю. Тут былі пахаваны жаўнеры I Сусветнай і польска-бальшавіцкай вайны. Тут жа меліся магілы немцаў, аўстрыйцаў, чэхаў, палякаў, рускіх, у пазнейшыя часы тут хавалі сем'і польскіх афіцэраў і жаўнераў, якія служылі ў 77 палку і жылі ў казармах. Да 19 верасня імі апекавалася польскае войска. За саветамі могілкамі ніхто не цікавіўся. 27 чэрвеня 1941 г. Ліду занялі немцы і ўзялі апеку над могілкамі. Яны ўпарадкавалі магілы, аднавілі жалезную браму, папраівілі агароджу. Могілкі былі даведзены да ладу, і ўсталяваўся парадак. Кожны год, пакуль у Лідзе стаяла нямецкае войска, нямецкі аддзел прыходзіў сюды, каб выказаць пашану сваім палеглым. Гэта было ў кастрычніку ці ў лістападзе, дакладна не памятаю, але гэта было нейкае вайсковае свята.*

*Калі 20 ліпеня 1944 г. у Ліду увайшла Савецкая Армія, каля могілак усю зіму стаяла супрацьпаветраная артылерыйская батарэя. Каб перазімаваць, жаўнеры капалі бульбу. Зіма таго года была надта суровай. Калі скончыліся дровы, жаўнеры пачалі шукаць паліва, каб было чым абагрэць зямлянкі. На могілках стаяла каплічка ў закапанскім стылі, у якой раней адпраўляліся жалобныя імшы пры пахаваннях, а ў траўні - маёвае набажэнства. Савецкія жаўнеры не задумваючыся, пачалі разбіраць гэту каплічку на паліва. Так знікла капліца на могілках. Магілы засталіся не парушаныя. Тут стаяў помнік - піраміда з рымскім жаўнерам. Такі стан рэчаў пратрымаўся да 1949 г. Раней шмат людзей добраахвотна ці пад прымусам выехалі ў Германію. Некаторыя пасля вайны вярталіся ў родны край. Сярод іх быў і нейкі Шымялевіч, жыхар вуліцы Кашаровай* (Казарменнай, *рэд.*). *Адной ноччу 1949 г. ён разбіў фігуру жаўнера і здаў на металалом. Сама піраміда стаяла да майго выезду ў 1959 г. У 1966 г. могілкі зраўнялі з зямлёй. На зямлі, якая непасрэдна прылягала да могілак, пабудавалі школу № 6, а там дзе былі магілы паўстала спартыўная пляцоўка і памяшканні школьных майстэрняў. Пра эксгумацыі ці перанос каменных крыжоў пры гэтым, я нічога не чуў.*

*І яшчэ трохі ўспамінаў датычных могілак: калі немцы ўпарадкавалі могілкі, яны адгарадзілі частку, на якой знаходзіліся магілы польскіх жаўнераў і членаў сямей вайскоўцаў, якія жылі ў казармах, калючым дротам.*

*Другая такая інфармацыя: на супрацьлеглым баку могілак, ад вуліцы кс. Скарупкі знаходзіўся вайсковы шпіталь. У часе II-й Сусветнай вайны ў гэты шпіталь прывозілі параненых нямецкіх жаўнераў з фронту і тых, якія паміралі, хавалі каля агароджы могілак. Пры канцы 1943 г., калі стала зразумела, што Ліду ім прыйдзецца пакінуць, немцы пачалі выкопваць парэшткі пахаваных жаўнераў і вывозіць у Германію. Аднак вывезці ўсе парэшткі яны не паспелі - уцякаючы з горада, немцы пакінулі некалькі трун у доле і нават*

[35] Slowo № 37 (751), 14 lutego 1925.

[36] Slowo № 119 (536) 27-go maja 1924.

[37] Хацяновіч Наталля. З гісторыі лідскіх могілак // Лідскі летапісец №3(31)-2005. С. 41-42.

[38] Kuwalek Robert. Nieistniejancy Nieistniejacy cmentarz wojskowy w Lidzie. // Ziemia Lidzka. №15-1994.

*не паспелі зноў засыпаць іх зямлёю. Пасля ўцёкаў немцаў ніхто не засыпаў таго долу, і пах раскладаўшыхся целаў нейкі час даваўся ў знакі ваколічным жыхарам"* [39].

**Старыя праваслаўныя могілкі**

Лідская Свята-Георгіеўская царква пабудавана з дрэва ў 1875 г. на сродкі А. Васнеўскага[40]. З 1919 па 1990-я гг. гэта царква была адзінай у горадзе.

Міхал Шымялевіч пісаў, што праваслаўныя могілкі арганізаваныя каля 1865 г.[41], з чаго бачна, што могілкі на гэтым месцы з'явіліся раней, чым нават царква, якая дарэчы будавалася, як капліца.

Жыхар г. Ліды пісаў у 1923 г. у беларускай газеце "Новае Жыццё": *"З прыходам сюды польскай улады была адабрана ад праваслаўных беларусаў ядыная ў месце царква* (Святога Арханёла Міхаіла - *Л.Л.*). ... *Праваслаўных парахвіян Лідскае царквы налічваецца да 4000 чалавек, якія ... прымушаны сілай рэчаў маліцца ў невялічкай цэркаўцы-капліцы на могілках, якая знаходзіцца ад цэнтра места, пры выезьде з Ліды, і ў ранейшыя часы была толькі местам адпявання нябожчыкаў"* [42].



***Праваслаўныя могілкі ў 1917 г.***

Вялікая колькасць надмагілляў была знесена пад будаўніцтва завода электравырабаў. Тыя, што засталіся планавалася знішчыць для будаўніцтва дарогі, для чаго ў 1980-х гг. быў таемна прывезены атрад наваградскіх камсамольцаў, якія ўначы пазбівалі на зямлю каменныя крыжы з надмагіллямі. Уцалела толькі частка некропаля[43].

Гісторыя гэтых цікавых могілак у комплексе яшчэ не даследавалася.

Тут пахаваны былы лідскі дабрачынны Іосіф Каяловіч, быў пахаваны (зараз перазахаваны ў Воранаве) генерал ад інфатэрыі, міністр абароны БНР Кіпрян Кандратовіч, заснавальніца першай Лідскай жаночай гімназіі Марыя Навіцкая, цэлая пляяда ваенных і парафіяльных святароў Літоўскай і Віленскай епархіі, ўрач Рэнерт, беларускія грамадска-палітычныя дзеячы Юльян Саковіч і Леанід Маракоў і інш.

Трэба выказаць падзяку святарам Свята-Георгіеўскага храма за ўсталяванне дошак, на якіх выбіты прозвішчы ўсіх вядомых асобаў, пахаваных на гэтых могілках. Гэты спіс надрукаваны ў “Лідскім летапісцы” № 4 (68) - 2014[44].

**Слабадскія могілкі**

Лідскі Слабадскі касцёл быў пабудаваны ў 1933 г.[45]. Аднак, яшчэ да Першай Сусветнай вайны Віленскі губернатар зацвердзіў дазвол Лідскага магістрата ад 15 снежня 1909 г. аб выдзяленні 3 дзесяцін гарадской тэрыторыі на будаўніцтва *"другога каталіцкага касцёла"* [46] менавіта на Слабодцы.

На паседжанні Гарадской рады пры канцы траўня 1933 г. была ўхвалена пастанова аб выдзяленні Лідскаму аддзелу "Звязу настаўнікаў" і яўрэйскаму культурна-асветнаму таварыству "Тарбут" пляцаў для будаўніцтва дома "Звязу настаўнікаў" і 7-мі гадовай яўрэйскай агульнаадукацыйнай школы. Таксама на гэтым паседжанні былі выдзелены 9 гектараў зямлі на Слабодцы для будаўніцтва касцёла, школы і пастарунка, а таксама абшар пад плошчу, сад і сквер агульнага карыстання. Тады ж Рада вырашыла звярнуцца да Міністэрства ўнутраных спраў з просьбай зацвердзіць гарадскі герб 1590 г. з львом і ключамі на тарчы[47].

З выдатнага артыкула Уладзіслава Абрамовіча

[39] З архіва аўтара.
[40] Литовские Епархиальные Ведомости № 43-1887. С. 370.
[41] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11.
[42] Новае Жыццё № 2, 10 сакавіка 1923.
[43] http://www.eparhia.by/statja/v-pamjat-kreshchenija-rusi-lidskii-pravoslavnyi-nekropol.html
[44] Гл: Лаўрэш Леанід. Лідскія цэрквы да 1939 г. // Лідскі Летапісец № 4 (68) - 2014. С. 63-79.
[45] Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 129.
[46] Kuryer Wilenski № 101, 6 (19) maja 1911.
[47] Slowo № 139 (3277) 23 maja 1933.

ў перадваеннай газеце "Лідская Зямля" мы ведаем, што ў 1920-30-я гг. Слабада становіцца важным раёнам горада. Дзякуючы намаганням ксендза-вікарыя Станіслава Мажэйкі тут паўстаў касцёл. У 1936 г. Гарадская рада даравала Слабадской парафіі 2 га гарадской зямлі для заснавання могілак. Падчас геадэзічных работ і работ па агароджванні будучых могілак адзін з работнікаў пацікавіўся меркаваннем другога пра тое, хто з іх першы ляжа на новых могілках. Так здарылася, што той, хто пытаўся, і стаў першым нябожчыкам на гэтых могілках. Весткі пра гэта імгненна разышліся па парафіі, і вернікі зрабілі яму ўрачыстае пахаванне[48].

Міхал Шымялевіч пісаў, што парафіяльныя рыма-каталіцкія могілкі на Слабадзе заснаваныя на зямлі, якая мела гістарычную назву "Перхураўскі клін"[49].

Ад пачатку могілкі мелі радыльна-праменевую пабудову, на старой частцы могілак яна бачана і зараз. Галоўная брама нечым нагадвае герб Калюмны. Самая старая магіла, якую я знайшоў на гэтых могілках - з 1936 г., на бетонным помніку напісана: *"Антаніна Шурмей, жыла 36 гадоў, памерла 7.XII.1936 г., каханай мамусі ад дзяцей"*.

На Слабадскіх могілкі знаходзіцца пахаванне 9 каталіцкіх светароў, якія былі расстраляны немцамі на заходняй ускраіне Паўночнага гарадка 10 сакавіка 1943 года. На гранях саркафага - імёны пакутнікаў: Дабравольскі Стэфан, 44 гады, пробашч з Беліцы, Бароўскі Альфонс, 51 год, пробашч з Лацка, Цыбульскі Францішак, 58 гадоў, пробашч з Трабаў, Ажароўскі Ежы, 31 год, пробашч з Ліпнішак, Стжасьнеўскі Вінцэнт,34 гады, пробашч з Юрацішак, Лабан Вінцэнт, 45 гадоў, пробашч лідскі, Мрачкоўскі Люцыян, 34 гады, вікары лідскі, Снягоцкі Стэфан, 29 гадоў, вікары Фарнага касцёла, Аўгустыновіч Аляксандр, 53 гады, пробашч з Няцечы. У красавіку 1943 г. сяляне вёскі Дайнава ноччу выкапалі светароў і перазахавалі ў агародзе сям'і Ухто. У 1960 г. парэшткі расстраляных былі ўрачыста перазахаваны на могілках Слабадской парафіі.



***Помнік Антаніны Шурмей, памерла 7.XII.1936 г.***

**Старыя гарадскія (каталіцкія) могілкі**

Лідскі гісторык Міхал Шымялевіч у 1937 г. напісаў найвыдатнейшы артыкул пра старыя гарадскія лідскія могілкі[50], і ўсе больш познія артыкулы на гэтую тэму - толькі пераказ, часта з памылкамі, базавага артыкула лепшага гісторыка Ліды. Гэтая частка таксама ў значнай ступені грунтуецца на матэрыяле Шымялевіча. Думаю, каб час дазволіў яму, Шымялевіч напісаў бы і кнігу пра лідскія могілкі - шмат каго з вечных насельнікаў горада мёртвых ён ведаў асабіста, а пра іншых мог напісаць найцікавейшыя аповеды, грунтуючыся на сваім унікальным прыватным архіве, які назаўжды страчаны. Гісторыя не пакінула гісторыку часу. Дадам, што артыкул Міхала Шымялевіча пра могілкі я пераклаў і выдаў у менскім альманаху "Асоба і Час" выпуск 6, 2015 г.[51].

З пачатку XVII ст. на поўдзень ад горада Ліды, на замкавай зямлі і зямлі шляхецкага засценка Кузьмішкі паноў Вісмантаў паўстаў прыгожы бор. Па распараджэнні губернскіх уладаў у 1797 г. частка гэтага бору, якая знаходзілася на замкавай зямлі была выдзелена пад парафіяльныя могілкі. Другая частка бору на зямлі шляхты праіснавала да 1892 г., калі пасля вялікага пажару Ліды трэба было адбудоўвацца, і дрэвы спілавалі. Потым, для будаўніцтва даходных дамоў, спілавалі і прыгожы бор, які рос непасрэдна на парафіяльных могілках. Пры канцы XIX ст. Міхал Шымялевіч лічыў гадавыя кольцы вялікіх пнёў, якія пазаставаліся на месцы гэтых сосен і налічыў 240 кольцаў. Гэта былі пні дыяметрам ў паўтара метры[52].

Ад пачатку могілкі не мелі дакладна акрэсленых межаў, аднак каля 1840 г. на сродкі пані Клары Якавіцкай, як належала па прадпісанні, могілкі былі акапаны ровам і агароджаны невысокім валам. Роў і вал, аднак, не баранілі могілкі ні ад быдла, якое пасвілася побач, ні ад непажаданых асобаў. У 1886 г. на

[48] Wladyslaw Abramowicz. Slobodka - przedmiescie Lidy // Ziemia Lidzka № 6 (53) - 2002.

[49] Szymielewicz Michal. Nasze drzewa. Sosna // Ziemia Lidzka № 1-1938.

[50] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 117-120.

[51] Шымялевіч Міхал. У цішы могілак…// АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 6. Укладальнікі: Леанід Лаўрэш, Аляксандр Фядута. Мінск, 2015. С. 146-152.; Шымялевіч Міхал. З таго свету // АСОБА І ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 6. Укладальнікі: Леанід Лаўрэш, Аляксандр Фядута. Мінск, 2015. С. 152-155.

[52] Szymielewicz Michal. Nasze drzewa. Sosna // Ziemia Lidzka № 1-1938. S.7.



***Дошка ў памяць пра пабудову мураванай агароджы старых лідскіх могілак***

сродкі пані Ласковіч была выбудаваная брама на могілкі - чатыры мураваныя слупы з драўлянымі варотамі. Каля 1900 г. распачалася і праз некалькі гадоў закончылася будоўля новай мураванай агароджы могілак. У аповедзе Міхала Шымялевіча "З таго свету" дачка старога Вісманта Броня ў ноч ідзе на старыя могілкі, яна *"навобмацак спусцілася ў роў, залезла на муры і слізганула па мокрых і халодных камянях муроў на могілкі"*. З тэксту бачна, як былі агароджаны могілкі[53]. У памяць пра пабудову мураванай агароджы ўлева ад уваходу з унутранага боку была ўмураваная каменная дошка з надпісам: *"Агароджана ў 1903 г. коштам парафіян, стараннем ксендза-дэкана Юзафа Сянкевіча, М. Пацэвіча, Я. Падгайнага, каменем Стэфана Макрэцкага за якіх Здровась Марыя"*. Згаданы Стэфан Макрэцкі, уладальнік маёнтка Вінькаўцы, праз нейкі час, як генерал зброі Войска Польскага, быў прэм'ер - міністрам Сярэдняй Літвы.

На гэтых жа могілках справа ад уваходу знаходзіцца магіла маці Стэфана Макрэцкага - Камілы. На помніку надпіс: *"...Каміла з Машэўскіх Макрэцкая, народжаная ў 1832 г. Памерла 2 траўня 1865 г., меўшы 33 гады. Вечны адпачынак рач ёй даць Пане"*. Каміла Макрэцкая да 33 гадоў нарадзіла 8 дзяцей і памерла пры родах апошняга сына, Зыгмунта, паўтарыўшы лёс многіх жанчын таго часу.

А злева ад уваходу, блізка ад капліцы знаходзяцца магілы Стэфанавых дзеда Вінцэнта Машэўскага і бабкі Гэмыліі з Нарбутаў Машэўскай. На помніку на магіле дзеда напісана: *"... парэшткі Вінцэнта Машэўскага, жыў 75 гадоў, памёр у 1876 г."*. На помніку на магіле бабкі напісана: *"... Гэмылія з Нарбутаў Машэўская, народжаная ў 1806 г. Памерла 26 лютага 1893 г."*. Помнікі Машэўскіх добра захаваліся[54].

Адразу злева ад ўвахода пахаваны Стэфан Буткевіч (19.02.1815-30.03.1896). У 1885 г. Стэфан Буткевіч, былы маршалак Лідскага павета пабудаваў новую, ашаляваную і крытую гонтам званіцу. Тут жа, недалёка ад ўваходу на могілкі і каля званіцы, маршалак павета і быў пахаваны разам з жонкай Эміліяй Буткевіч з Адамовічаў (1813-1879). Званіца мела два званы: адзін вагой у пуд, другі - 30 фунтаў (12 кг)[55]. У 1927 г. званіца ўжо была ў вельмі дрэнным стане[56]. Званіца добра бачна на нямецкім малюнку 1917 г.

Ведаючы гэту інфармацыю, сонечным красавіцкім ранкам я выправіўся на старыя могілкі, каб расшукаць магілу маршалка. Уважліва ўзіраючыся ў надмагіллі я тры разы па мокрай траве абышоў тую частку могілак, дзе маглі быць магілы Буткеічаў і нічога не знайшоў. Вырашыўшы, што магілы маршалка з жонкай знішчаны, накіраваўся да выхаду але кінуўшы позірк на апошняе, часткова паламанае надмагілле, убачыў, што знайшоў менавіта тое, што шукаў - магілу Стэфана Буткевіча.

А зараз я раскажу ўсё, што ведаю пра гэтага чалавека.

Стэфан Буткевіч, сын Дамініка і Эміліі з Шукевічаў, меў жонку Эмілію з Адамовічаў. Валодаў маёнткам Косаўшчына з фальваркам Качанова і вёскамі Косаўшчына, Болтуці, Цвермы, Татарцы, Навіцкія, Былінская - усяго 1363 дзесяціны і 150 душ. Пасля смерці маці ўспадкаваў маёнтак Мінойты з вёскай (570 дзесяцін, 52 душы)[57].

Адукацыю атрымаў у Шчучынскай павятовай вучэльні. У 1853 г. тытулярны дарадца Буткевіч запісаны сярод "попечителей сельских запасных магазинов" [58].

Службовыя абавязкі маршалка шляхты выконваў з 12 кастрычніка 1855 г. Амаль што адразу быў узнагароджаны медалём у памяць вайны 1853-56 гг., потым ордэнам Св. Станіслава 3 ст. і знакам за 15 год службы[59]. На сваёй пасадзе ён заставаўся да 1875 г. - роўна 20 гадоў.

Маршалак Лідскага павета Буткевіч узгадваецца ў мемуарах рускага афіцэра І.В. Любарскага[60] - палка-вога доктара, полк якога стаяў у Лідзе перад паўстаннем 1863 г. Мясцовая інтэлігенцыя шукала паразумення з рускімі афіцэрамі: *"У той час польскія абшарнікі і службоўцы не толькі не чужыліся рускіх людзей, але імкнуліся зблізіцца з імі і ўсталяваць добрыя адносіны; таму запрашалі рускіх у свае сямей-*

[53] Szymielewicz Michal. Z tamtego swiata // Ziemia Lidzka № 11-1937. S. 125-127.

[54] Суднік Станіслаў. Лідская памяць пра генерала Стэфана Макрэцкага // Лідскі летапісец № 2 (58)-2012. С. 6.

[55] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 118.

[56] Korzeniowska Anna, Maczewska Katarzyna. Kaplica cmentarna p.w. sw. Barbary w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 176.

[57] Malewski Czeslaw. Rody szlacheckie na Litwe w XIX wieku. Powiat lidzkim. Wilno, 2005. S. 92.

[58] Памятная Виленской губернии на 1853 г. Вильна, 1853. С. 59.

[59] Адрес-календарь Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. С.-Петербург, 1868. С. 90.

[60] Любарскі Іван Васільевіч (1832-1901), закончыў медыцынскі факультэт Харкаўскага універсітэта, ваенны лекар, гісторык, журналіст.

*ствы і аказвалі ім самую вялікую ўвагу. Я, напрыклад, зусім яшчэ юны і халасты чалавек, быў проста збянтэжаны тым, што да мяне першым прыехаў з візітам правадзіцель дваранства (маршалак) - асоба, якая карысталася вялікай вагой у мясцовым грамадстве. Сталася так, што для зблізжэння з афіцэрамі польскае дваранства падрыхтоўвала раскошны баль, і з гэтай мэтай заводзіліся знаёмствы нават з тымі з вайскоўцаў, хто па недахопе сродкаў трымаўся ўбаку ад павятовага грамадства"* [61].

Мемуарыст цікава расказвае пра настрой гараджан перад паўстаннем. Паступова рэвалюцыйнае ўзбуджэнне ў горадзе ўзрастала: *"Па меры таго, як яно больш і больш набірала моц, рускае значэнне ў краі паступова змяншалася. Выходзіла так, як быццам бы гаспадарамі становішча былі яны, а часовымі гасцямі, прышэльцамі ці, мабыць нават паразітамі на чужым целе з'яўляліся мы"*. Гледзячы на заваяваўшую волю Італію, чакаючы падтрымкі Францыі, ужо амаль што ўсе верылі ў хуткае незалежнае існаванне. Любарскі, у гэты час вайсковы палкавы лекар і добры хірург, дакладна запісаў сваю размову з лідскім правадзіцелем дваранства Буткевічам (сябе Любарскі тут называе ў трэцяй асобе "доктарам"):

*"- Скажыце, каханы кансільяжу (ласкавы доктар), спадзяюся, Вы застанецеся ў нас, калі Літва адыдзе ад Расіі?*

*- Як гэта адыдзе ад Расіі? - спытаў збянтэжаны доктар, - я штосьці не ясна сабе ўяўляю.*

*- Вельмі проста; адлучыліся ж ад Аўстрыі Ламбардыя і Венецыя і ўвайшлі ў склад Італьянскай дзяржавы. Чаму ж мы не можам утварыць незалежнай дзяржавы ў межах сваёй народнасці? Зараз да таго ідзе ўся еўрапейская палітыка.*

*- Але Расія - не Аўстрыя, - заўважыў доктар, зачэплены за жывое, - і паменшыць яе будзе пацяжэй, чым рознамасную імперыю Габсбургаў?*

*- Вядома, - спахапіўся маршалак, - я і кажу гэта. Але могуць быць розныя палітычныя кампрамісы для аб'яднання народнасцяў. Відаць, час такі надышоў. Ды не пра гэта ўласна гаворка. Я толькі хацеў сказаць, што Вы, ласкавы доктар, карыстаецеся такім заслужаным даверам у нашым грамадстве, што пажадана, каб Вы засталіся ў нас, якія б ні адбыліся палітычныя змены.*

*- Вельмі ўдзячны за ўвагу, але, прызнаюся, я б не застаўся.*

*- Чаму ж? - здзівіўся суразмоўца, - для адукаванага чалавека жыць у краіне з ліберальнымі ўстановамі, якой будзе наша незалежная дзяржава, і працаваць у культурным грамадстве павінна быць прывабна.*

*- Ды па-простаму хоць бы таму, што я, як праваслаўны, быў бы не зусім свой паміж вамі, і польскай мовы добра не ведаю, а быць абмежаваным у выказванні сваіх думак непрыемна.*

*- Э, глупства; варта Вам ажаніцца з кімсьці з нашых прыгажунь, і адрозненне ў веравызнанні згладзіцца, а мовай Вы авалодаеце. Я ведаў афіцэра, які прыбыў у Вільню з глыбіні Расіі і не разумеў анівод-*




***Званіца Буткевіча***

[61] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 818.



***Надмагілле лідскага маршалка Буткевіча на старых лідскіх могілках***

*нага слова, а праз некалькі гадоў пісаў у альбомы такія выдатныя вершы, што, права, пад імі сам Вікенці Поль падпісаўся б"* [62].

Прадвадзіцель дваранства (маршалак шляхты) Стэфан Буткевіч не будзе ўдзельнічаць у паўстанні. У гісторыі горада Стэфан Буткевіч застанецца як чалавек, які 1870-я гг. прапанаваў генерал-губернатару разабраць наш замак Гедзіміна на будаўнічыя матэрыялы.

У запісцы віленскаму генерал-губернатару А.Л. Патапаву ў сакавіку 1868 г., Буткевіч пісаў, што заробку ад казны ён не атрымліваў і выкананне сваіх службовых абавязкаў каштавала яму двух маёнткаў, якія ён прадаў, каб пакрыць расходы па гэтай пасадзе прадвадзіцеля дваранства[63].

Пасля адстаўкі з пасады маршалка, надворны дарадца[64] Буткевіч амаль што да канца жыцця абіраецца галосным Лідскай гарадской думы[65]. Менавіта з галосным Лідскай гарадской думы Стэфанам Буткевічам быў асабіста знаёмы Францішак Багушэвіч, паэт узгадваў яго ў сваіх газетных артыкулах[66].

Да 1913 г. Гарадская ўправа арандавала будынак, які стаяў у раёне горада "Ферма" пад палкавую царкву ў сына былога маршалка Эміля Сцяпанавіча Буткевіча. У 1918 г. у Лідзе ўзнікла польская "Народная Рада" і ўзначаліў яе Эміль Буткевіч. У сувязі з узростам і дрэнным адчуваннем у хуткім часе ён адмовіўся ад гэтай пасады[67].

Ян Марколін Андрушкевіч (1823-1868), бургамістр горада. Магілы роду Андрушкевічаў знаходзяцца справа ад галоўнага ўваходу на могілкі. Помнікі сям'і бургамістра горада парушаны, але вядома, дзе яны знаходзіліся, і я сфатаграфаваў тое месца. Мірон Браніслаў Нарбут пісаў пра бургамістра нашага горада Яна Андрушкевіча (ці *"Ивана Степановича Андрушкевича"* [68]): *"чалавек праўдзівы, энергічны і разважлівы"* [69]. Пра ролю бургамістра ў выкараненні п'янства, якое ахапіла наш край пасля паразы паўстання 1831 г., апавядаў той жа Мірон-Браніслаў Нарбут. Ён пісаў, што калі пасяліўся ў Лідзе ў 1846 г. *"п'янства ўжо амаль не было, аднак шулерства існавала"*, але сітуацыя асабліва памянялася калі бургамістрам горада стаў Ян Андрушкевіч, а пробашчам і дэканам лідскім у 1846 г. - ксёндз Дзіянісій Хлявінскі.

Андрушкевічы валодалі на Лідчыне вялікай нерухомасцю[70], і Ян Марколін нарадзіўся ў адным з бацькоўскіх маёнткаў. У 1845-1852 гг. ён быў начальнікам спачатку 2-га, а потым 4-га аддзела паліцыі ў Адэсе. Даслужыўся да звання "тытулярны дарадцы".

Пасля вяртання ў Ліду стаў бургамістрам горада, ажаніўся з Марцянай з Яселаў і меў з ёй 9 дзяцей. У пасаг за жонкай атрымаў цукерню ў Лідзе. Гэта цукерня ў 1860-я гг. стала цэнтрам грамадскага жыцця ў горадзе і шматразова ўзгадвалася ў розных мемуарах. З мемуараў Яна Сегеня мы ведаем, што *"па правым баку вуліцы Віленскай ... стаіць парафіяльны касцёл, могілкі і фруктовы сад, за ім пляцы і дамы п. Андрушкевіча ..."* [71], такім чынам, цукерня знаходзілася недалёка ад Фарнага касцёла, каля перакрыжавання Віленскай і Каменскай вуліц таго часу.

Рускі афіцэр Любарскі, які служыў у Лідзе перад паўстаннем 1863 г. пісаў пра лідскую цукерню: *"Па-за сямейнымі дамамі, грамадскае жыццё, па ўсталяваным звычаі ..., канцэнтравалася ў цукерні (кандытарскай), якая служыла прыцягальным цэнтрам для ўсёй іідскай інтэлігенцыі. Тут можна было не толькі напіцца гарбаты ці кавы, але і падсілкавац-*

---

[62] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 827-828.

[63] Тамара Байрашаускайте. Институт предводителей дворянства в западных губерниях Российской империи во второй половине XIX в. - начале XX в. (Виленская и Ковенская губернии) // Беларускі гістарычны зборнік № 41-2014. С. 71.

[64] Надворны дарадца - цывільны чын VII класа ў "Табелі аб рангах" у Расіі. Адпавядаў чынам падпалкоўніка ў арміі ці капітана II рангу флота. Афіцыйны зварот: "Ваша высокаблагароддзе".

[65] Памятная Виленской губернии на 1887 г. Вильна, 1886. С. 225.

[66] Содаль Уладзімір. Францішак Багушэвіч на Лідчыне // Лідскі летапісец № 3 (31) - 2005. С. 10.

[67] Дзічканец Юзэф. Самаабарона лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 41.

[68] Памятная книжка Виленской губернии на 1850 г. Вильно, 1850. С. 82.

[69] Narbutt M. Lida i Lidziane // Ziemia Lidzka. № 26-27 - 1997.

[70] Malewski Czeslaw. Rody szlacheckie na Litwe w XIX wieku. Powiat lidzkim. Wilno, 2005. S. 75.

[71] Сегень Януш. Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя // Лідскі летапісец" № 20. С. 26.

*ца гарэлкай з закускамі, а ў суседнім памяшканні, якое злучалася з цукерняй ўнутранымі дзвярыма, адпускаліся "гаспадарчыя абеды". Клуба ў гэтым горадзе не было, але кандытарская цалкам яго замяняла, тым больш, што тут да паслуг гасцей былі два більярды, некалькі шахматных дошак і ў бакавым пакоі нават карты. Аматары чытання знаходзілі тут некалькі польскіх газет і адну французскую; рускай не было ні адной, хоць афіцэры былі пастаяннымі гасцямі кандытарскай. Грамадзяне як халастыя, так і сямейныя, лічылі сваім абавязкам штодня пабываць тут; чыноўнікі забягалі ў гэтае месца, ідучы на службу, каб выпіць гарбаты і прачытаць тэлеграмы, а са службы - перакуліць чарку гарэлкі. Калі трэба было пабачыцца з некім, то ісці на кватэру было не варта; значна прасцей было сустрэць неабходнага чалавека ў кандытарскай, асабліва ў вячэрнія гадзіны. Тут абмяркоўваліся ўсе навіны, і адбываліся бясконцыя і гарачыя спрэчкі з нагоды падзей ... у Італіі"* [72].

Пра сустрэчы ў цукерні з мясцовай інтэлігенцыяй: *"Нашы шчырыя сябры і добразычліўцы спакваля імкнуліся ўносіць ідэі ў розум афіцэраў, прадстаўляючы становішча ў такім выглядзе, што нашы народы - натуральныя браты, але што ўрад над абодвума - нямецкі або, ... знаходзіцца пад уплывам немцаў, іх мэта - душыць славян, ... не даваць ім грамадзянскай свабоды і не дапускаць ніякага ў іх разумовага развіцця*". Асабліва вылучаўся сярод лідзян адзін з камандзіраў будучага паўстання - Баляслаў Колышка[73]: *"Асабліва гарачым прапагандыстам падобных ідэй паміж афіцэрствам выступаў ў цукерні Колышка, той самы, які пасля (у 1863 годзе) камандаваў ... спачатку самастойна, а потым разам з Серакоўскім і разам з ім быў узяты ў палон пасля паразы паўстання. Колышка быў малады чалавек гадоў 25-ці, невялікага росту, мажны, з круглым і румяным тварам. Якая была яго прафесія ў Лідзе, я не цікавіўся; здаецца, ён ... быў сынам забяспечанага памешчыка*[74]*. Гэта быў гарачы ... патрыёт, цытаваў цэлыя маналогі з Міцкевіча ... . Ён увесь час даставаў аднекуль памфлеты Герцана і даваў іх афіцэрам, захоплена адклікаўся пра нібыта незвычайна светлыя і здаровыя меркаванні рэвалюцыйных лісткоў адносна палітычнай будучыні Расіі і Польшчы ... і ўвесь час паўтараў: "Прашу вас, спадары, не змешваць палітычных паняццяў. Рускі народ - гэта адно, а рускі ўрад - другое. Гэты апошні - наш агульны непрымірымы вораг. Абавязак кожнага патрыёта сваёй краіны - змагацца з ім, аслабляць яго, каб зрынуць тыранію, інакш Расія ніколі не вызваліцца ад унутраных кайданоў рабства. І ў гэтых адносінах рускія могуць смела разлічваць на нашу братэрскую і энергічную дапамогу"* [75].

Іншы рускі афіцэр, Мяжэцкі[76], які разам са сваім Нараўскім пяхотным палком у 1861 г. быў пераведзены на Лідчыну, таксама пісаў пра цукерню: *"Афіцэрства наша жыло замкнёна, у сваёй палкавой сям'і і з абшарнікамі не зближалася. Афіцэры ж ... з ліцвінаў і палякаў, якіх было даволі шмат у палку, вядома, знаёміліся з гэтымі землеўладальнікамі... . Таму і нам ... здаралася сустракацца з імі часам у нашых таварышаў, а часцей у адзіным у Лідзе тракціры, ці як тутэйшыя называлі гэтую ўстанову - "цукерні" ... шляхціца пана Андрушкевіча, куды паны заходзілі са сваімі знаёмымі афіцэрамі. Пры гэтых сустрэчах абшарнікі спачатку бывалі стрыманыя ..., але калі віно развязвала языкі, пачыналіся гарачыя запэўніванні ў неабходнасці збліжэння двух ... народаў"* [77].

### *Капліца на могілках*

У 1805 г. ксёндз Вінцэнт Нарбут, пробашч і дэкан лідскі, пабудаваў тут досыць вялікую драўляную капліцу, якую высвяціў ў гонар св. Барбары, панны і мучаніцы, як патронкі добрай смерці, абраз гэтай святой знаходзіўся ў вялікім алтары. Пасля скасавання ў Лідзе касцёла кармелітаў і пажару касцёла піяраў, падчас рамонту Фары, з дазволу дыяцэзіяльных уладаў, сюды былі часовы перанесеныя парафіяльныя набажэнствы. У 1848 г. капліца была грунтоўна рэстаўравана. У 1905 г. невядомы злачынец падпаліў капліцу, але пажар быў патушаны. У капліцы калісьці быў стары арган, перанесены сюды з Фары, у 1904 г. гэты арган перададзены філіі ў Крупава, дзе ён згарэў разам з касцёлам у 1919 г. [78].

У 1928 г. быў зацверджаны новы праект драўлянай капліцы, але ён не быў рэалізаваны. У 1929 г. студэнтам архітэктуры К. Раствароўскім распрацаваны новы праект які атрымаў добрыя водгукі ад спецыялістаў. Вельмі павольнае будаўніцтва капліцы пачалося ў 1930 г. - толькі ў 1937 г. пабудова была пакрыта дахам, але да 1939 г. работы не былі скончаны. Толькі ў 2000 - 2003 гг. быў праведзены грунтоўны рамонт, унутраная атынкоўка, устаўлены вокны і дзверы і

[72] Любарский И.В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. 1895. Т. 59, № 3. С. 819-820.

[73] Баляслаў Вікенцевіч Колышка (7.VIII.1837-9.VI.1863) нарадзіўся ў фальварку Карманішкі (паводле Чэслава Малеўскага - у ваколіцы Гуды) Лідскага павету. З 1860 вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйнага студэнцтва, прапагандаваў ідэі рэвалюцыйнага саюзу народаў у барацьбе з самадзяржаўем, у 1861 вёў агітацыю ў Лідзе, потым удзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях, сутыкненнях студэнтаў з паліцыяй. Ратуючыся ад пакарання, выехаў за мяжу, наведваў ваенную школу эмігрантаў у Італіі. У сакавіку 1863 г. сфармаваў паўстанцкі аддзел у Ковенскім павеце, меў некалькі паспяховых сутычак з царскімі войскамі. Пасля разгрому паўстанцаў узяты ў палон і павешаны ў Вільні на плошчы Лукішкі.

[74] Паходзіў з небагатай шляхты.

[75] Любарский И.В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 820-821, 822.

[76] Межэцкі Мітрафан Парфіравіч, афіцэр, потым судовы следчы.

[77] Межецкий М. П. Воспоминания из беспокойного времени на Литве 1861-1863 годах // Исторический вестник. 1898, Т. 73, № 9, с. 826.

[78] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 117.



***Старая, драўляная капліца***

Лідзе ў 1889-1905 гг., выкладчык ў Лідскай павятовай школе. Лідзянам запомнілася як Сянкевіч у выказванні сваёй прыхільнасці да царскага трона перасягнуў нават праваслаўных святароў - аднойчы лідскі дэкан у святочныя дні аздобіў касцельную браму транспарантам, на якім была намалявана манаграма цара і царыцы з надпісам "Боже царя храни" [81].

Пакуль у 1865 г. не былі адкрыты асобныя могілкі для праваслаўных, на старых гарадскіх могілках хавалі нябожчыкаў усіх хрысціянскіх вызнанняў. Знайшоў тут вечны спакой пан **Ксаверы Эстка** (1787-1855), ён пахаваны недалёка ад уваходу на могілкі, помнік захаваўся, харунжы Лідскага павета з Дакудава, евангелік. На ягоным надмагіллі, работы віленскага разьбяра Вяржбоўскага, вялікая кніга з надпісам на ёй: "Браты! Тут пахаваны ваш бліжні, які хацеў падмануць сваю магілу". Недалёка ад гэтай магілы спачывае евангелік-лютаранін **Фрыдэрык Неўман**, падпалкоўнік (1813-1869). На камені яго надмагілля надпіс: *"Пане! Скажы яму: "Ідзі да мяне!", мне скажы, Пане: "Не плач!". Смуткуючая жонка паставіла гэты помнік"* [82], гэтую магілу зараз знайсці немагчыма.

Трохі глыбей, за капліцай пад вялікай помнікам-каменнай глыбай, спачывае **барон Эрнст Мэдэм** (1846 г.). Помнік нябожчыку паставілі таварышы па зброі з Галіцкага палка егераў. Пра Мэдэма вядома, што ён быў лідскім земскі спраўнікам, адстаўным маёрам, поўнае імя - Эрнест Аляксандравіч барон Мэдэм[83].

У метрычнай кнізе лідскай царквы за 1846 г. запісана: *"25/27 лютага (памёр/ пахаваны). Эрнест Аляксандравіч Мэдэм, спраўнік Лідскага земскага суда, маёр. Узрост - 40 гадоў, памёр ад гарачкі. Лютаранскага веравызнання. Рэлігійны абрад правялі: Міхайлаўскай лідскай царквы протаіерэй Самсон Брэн з дыяканам Іванам Гузоўскім і панамаром Іванам Вяршынскім. Пахаваны на Лідскіх могілках"* [84]. Найбліжэйшы пратэстанскі храм на Лідчыне ў той час меўся ў Больценіках, у маёнтку графа Путкамера, але часта пры гэтым храме месца святара было вакантным.

інш.[79]. У сярэдзіне 1970-х гг., калі могілкі былі падобныя на добра засмечаныя джунглі, капліца без вокнаў дзвярэй таямніча стаяла ў цені дрэў, і ўнутры пабудовы ляжала шматгадовае смецце.

На могілках здаўна стаяў драўляны шпіталь, невядома кім і калі пабудаваны і калі зруйнаваны, пасля зруйнавання жабракі не мелі дзе жыць. Панна Марыя Ле Форт, гувернантка, адпісала для тутэйшых жабракоў 66 рублёў срэбрам. Кс. Юзафат Вайшвіла, лідскі экс-піяр, які дажываў у лідскай парафіяльнай плябані, дадаў яшчэ 150 рублёў, і за гэтыя грошы ў 1845 г. пабудавалі новы драўляны шпіталь. У 1856 г. тут жылі 12 жабракоў. Калі гэты шпіталь струхнеў, пані Ласковіч пабудавала за агароджай могілак драўляны шпіталь, які існаваў яшчэ пры канцы 1930-х гг.[80].

З паўднёвага боку ад капліцы Св. Барбары знаходзіліся магілы лідскіх ксяндзоў: **Юзафа Сянкевіча**, пробашча і дэкана лідскага (1905 г.), **Альберта Стэцкага**, місіянера (памёр 1898 г.), **Антонія Кулакоўскага**, місіянера (памёр у 1904 г.), **Станіслава Пацынкі**, вікарыя (памёр у 1918 г.), **Яна Кандрата**, вікарыя (памёр 1924 г.). У 1986 г., ратуючы ад варварскага знішчэння, парафіяне перанеслі магілы гэтых ксяндзоў на Слабадскія могілкі. Але надмагілле ксендза Пацынкі засталося на старых могілках, на Слабадскіх могілках усе шараговыя ксяндзы пахаваны пад агульным помнікам.

**Юзаф Сянкевіч**, ксёндз-пробашч і дэкан ў

[79] Korzeniowska Anna, Maczewska Katarzyna. Kaplica cmentarna p.w. ?w. Barbary w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 176.

[80] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 117.

[81] Szymielewicz Michal. Ze starej ksiazki // Ziemia Lidzka №12-1937. S.141.

[82] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 118.

[83] Памятная книжка Виленской губернии на 1845 год. Вильна, 1845. С. 105.

[84] ДГАЛ. Ф. 605. Воп. 5. Спр. 158. А. 151.

Магчыма менавіта таму вырашылі не ехаць па лютаўскай дарозе за 45 км па пратэстанцкага святара, і пахавальны абрад правёў праваслаўны святар.

Лідскі спраўнік быў сынам графа Аляксандра Іванавіча (Аляксандра Фрыдрыха) Мэдэма, (1803-1859) - тайнага дарадцы, генеральнага консула ў Егіпце (1838-1841), надзвычайнага і паўнамоцнага амбасадара ў Персіі (1841-1845), пасланніка ў Бразіліі (1848-1854) і ў Вашынгтоне (1854-1855), бацька лідскага Мэдэма пахаваны ў Шанхаі. Графскі і баронскі род Мэдэмаў паходзіў з Гесена. Пры канцы XV ст. яны перасяліліся ў Прыбалтыйскі край. Адна галіна роду Мэдэмаў атрымала графскую годнасць Рымскай імперыі ў 1779 г.

Захаваліся таксама помнікі з надпісамі па-расійску на помніках нябожчыкам праваслаўнага веравызнання: **Пятра Масіны** (памёр 1850 г.), **Якуба Масіны** (памёр 1860 г.), калежскага асэсара **Канстанціна Кучынскага** (памёр 17.09.1845).

Міхал Шымялевіч пісаў яшчэ пра помнік праваслаўнай **Марыі Патрэсавай** (1861 г.)[85].

Недалёка ад ўваходу на могілкі знаходзіцца магіла **Валерыі Цехановіч** - удзельніцы паўстання 1863 г. Валерыя Цехановіч з Цыбульскіх (1841-1933). Нарадзілася 28 красавіка 1841 г. у Менску. Была дачкой суддзі. Закончыла менскую гімназію, з хатнімі настаўнікамі паглыблена вывучала музыку. Перад 1863 г. разам з іншымі мянчанкамі ўдзельнічала ў патрыятычных маніфестацыях. За ігру на аргане і спевы патрыятычнай песні была збіта казакамі.

Выйшла замуж за Гіраніма Канстанты Цехановіча (1844-1898), які нарадзіўся ў Мураванай Ашмянцы і мела з ім дзевяцёра дзяцей: Людвіку Марыю, Вацлава Міхала, Люцыяна Пятра, Багуслава, Валяр'яна, Ядвігу, Юзафа, Станіслава, Антона Стэфана.

Перад выбухам паўстання 1863 г., маладыя сужэнцы пераязджаюць у Плоцк, галава сям'і працуе ў скарбовай управе. Гіранім і Валерыя Цехановічы прынялі чынны ўдзел у паўстанні 1863 г. Гіранім ваяваў у паўстанцкім атрадзе, а Валерыя хавала параненых, збірала прыпасы і падтрымлівала сувязь з паўстанцамі.

У другой палове жыцця Гіраніма спаралізавала, і да канца жыцця ён не мог самастойна рухацца. Пасля смерці мужа, каля 1900 г., Валерыя пераехала з Пултуск, а потым у Насельск, дзе жыла да пачатку 1920-х гг. Потым пераехала да сваёй дачкі Станіславы ў Гародню. Няшчасны выпадак ў гарадзенскім касцёле прывёў да калецтва Валерыі, яна перастала хадзіць і да канца жыцця была прыкутая да ложка ці інваліднага вазка. Як ветэран паўстання атрымлівала пенсію ў 110 злотых.

Адзін з яе сыноў - Люцыян - быў выкладчыкам Маскоўскага ўніверсітэта, расстраляны ў 1937 г.

З Лідай Валерыю Цехановіч лучаць два апошнія гады жыцця. Сюды яна пераехала да свайго сына Антона, начальніка ўправы скарбовага кантролю. У Антона Цехановіча ў Лідзе, у 1930 г. нарадзіўся адзіны сын - Лех Цехановіч. Інжынер-магістр хіміі, аўтар некалькіх кніг і шматлікіх публікацый па прафесіі. Ён таксама з'яўляецца сталым аўтарам "Ziemi Lidzkaj", дзе надрукаваў шэраг базавых артыкулаў з гісторыі Лідчыны. Ён ласкава дапамагаў мне з рэдагаваннем маёй першай кнігі і ўнёс у яе шэраг найкаштоўнейшых заўваг.

Валерыя Цехановіч памерла ў Лідзе 23 студзеня 1933 г. ва ўзросце 93 гады. Труна з целам паўстанкі была перанесена з Дома жалобы (вул. Лідская, 38) у Фарны касцёл 24 студзеня ў 18-00. Жалобнае набажэнства і пахаванне адбылося 25 студзеня ў 10-00[86]. "Навагрудскі Кур'ер" пісаў: *"Вялікая колькасць людзей на пахаванні ветэрана паўстання 1863 г. 25 студзеня ў Лідзе адбылося пахаванне Валерыі Цехановіч (з Цыбульскіх), якая памерла 23 студзеня, у гадавіну паўстання. С.п. Цехановіч нарадзілася ў Менску 1 снежня 1840 г. і ва ўзросце 23 гады ўзяла ўдзел у паўстанні"* [87].

Недалёка ад Валерыі Цехановіч знаходзіцца помнік **Казіміра, Генрыка і Уладзіслава Ямантаў.** Казімір Ямант - бацька вядомага мастака Браніслава Яманта і банкіра Уладзіслава Яманта. У лістападзе 1932 г. газета "Слова" паведаміла, пра смерць шматгадовага кіраўніка лідскага аддзела Віленскага прыватнага банка Уладзіслава Яманта: *"... 21 лістапада памёр пасля нядоўгай хваробы"* [88].

З паўночнага боку капліцы пад мармуровымі плітамі спачывае сям'я ўласнікаў Мелужына і Воранава: "**Юзаф Зарэцк**і, сын Войцеха, герба Варня, генерал-лейтэнант корпуса інжынераў. Нарадзіўся ў Скамарохах 19 снежня 1800 г. Памёр у Пецярбургу 29 студзеня 1869 г.". Каля яго ляжыць верная жонка "**Ганна Зарэцкая**, g(eboren) v(on) Гравеніц. 1 ліпеня 1807, † 1 лістапада 1891". Іх сын **Мікалай Юзаф Варня Зарэцкі**, нарадзіўся 11 верасня 1843 г., памёр 12 студзеня 1883 г. Яго жонка: **Марыя Зарэцкая**. Іх дачка: Ганна Зарэцкая, памерла ў росквіце гадоў (1900 г.)[89].

Пра Юзафа Зарэцкага (Закржэўскага) ёсць артыкул у Рускім біяграфічным слоўніку Полаўцава, прывожу тэкст артыкула па-беларуску:

*Зарэцкі (Заржэцкі) Іосіф Альбертавіч (насамрэч, Вайцехавіч - Л.Л.) - інжынер, генерал-лейтэнант; будаўнік Кранштацкіх фартоў. Нарадзіўся ў 1800 г. Памёр 29 студзеня 1869 г. Выхоўваўся ў Віленскім універсітэце і па заканчэнні фізіка-матэматычнага факультэта (1826) паступіў у інстытут інжынераў шляхоў зносін. У 1829 г., пасля*

[85] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 117-118.
[86] Kurjer Wilenski № 19 (2560), 24 stycznia 1933.
[87] Kurier Nowogrodzki № 27 (444), 28 stycznia 1933.
[88] Slowo № 295 (3101), 22 listopada 1932.
[89] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 118.



***Могілкі да 1928 г.***

*заканчэння курса, пасля іспыту атрымаў чын паручніка інжынераў шляхоў зносін з залічэннем на дзейную службу - у рэзерв і камандзіраваны на здымкі (тапаграфічныя - Л.Л.) каля Ноўгарада. Калі ж (у 1830 г.) была ўтворана марская будаўнічая частка, дырэктар будаўнічага дэпартамента, генерал Карбальер, запрасіў яго пад сваім асабістым наглядам, займацца праектам докаў для Кранштадта. Зарэцкі быў пераведзены ў будаўнічую частку з прыкамандзіраваннем да Кранштадцкай інжынернай каманды і з гэтага часу, на працягу амаль сарака гадоў, прысвяціў сябе будаўнічай дзейнасці. У 1838 г, зрабіў велічэзную працу пры недастатку сродкаў - закончыў будаўніцтва карабельнага Мікалаеўскага дока. За гэты час Зарэцкі атрымаў чыны: штабс-капітана (1834 г.) і капітана (1837 г.) і звярнуў на сябе асабістую ўвагу цара, які часта наведваў будаўнічыя работы. Калі на пачатку 1839 г. была распачата пабудова фрэгатнага дока, Зарэцкі быў прызначаны спецыяльным яго будаўніком і будаўніком Абводнага канала ў Кранштадце. Да гэтых вельмі складаным абавязкаў у 1843-44 гг. былі дададзены яшчэ новыя абавязкі: 1) будаўніка батарэі "Князь Меншыкаў", для якой па даручэнні Гасудара Імператара ім быў складзены праект, і 2) абавязак па пабудове Купецкай брамы Кранштадцкай гавані. Пабудова докаў была зусім скончана ў 1846 г. Але на гэтым будаўнічыя работы не спыніліся. У снежні 1848 г. палкоўніку Зарэцкаму было загадана скласці праект на пабудову батарэі на заходнім фронце Кранштацкага форта; у 1849 г. яму ж даручана было перарабіць купал рымска-каталіцкага касцёла, і, нарэшце, у 1850 г. загадам цара ён прызначаны будаўніком Кранштадцкай цвердзі. Адначасова з гэтым Зарэцкі прымаў удзел у работах розных камісій, быў чальцом камісіі пад старшынствам генерала Вільсана па ўстаноўцы водаадліўной паравой машыны ў доках Кранштадцкага басейна, камісіі па арганізацыі першага навучальнага марскога экіпажа ў Кранштадце і камісіі па загарадзі паўночнага фарватэру, дзе меў галоўны нагляд за работамі, якія выконваліся па складзеным ім праекце. Падчас Усходняй вайны ён зладзіў пры Лісіным носе гавань для кананерак і прымаў дзейны ўдзел па прывядзенні цвердзі ў абарончы стан. У снежні 1855 г. Зарэцкі быў прызначаны на пасаду чальца агульнай прысутнасці будаўнічага дэпартамента і неўзабаве, (з 1 студзеня 1856) атрымаў чын генерал-маёра. У 1860 г. ён быў прызначаны чальцом марскога будаўнічага тэхнічнага камітэта і чальцом агульнай прысутнасці інжынернага дэпартамента ваеннага міністэрства, такім чынам парваў са сваёй ранейшай будаўнічай дзейнасцю і цалкам прысвяціў сваю далейшую службу адміністрацыйным пасадам. З вялікай колькасці складзеных ім праектаў розных збудаванняў асаблівай увагі заслугоўваюць два: праект Балтыйскага порта і праект Гандлёвага порта для Петраграда на левым беразе Нявы каля Кананерскай выспы. З 1863 г. Зарэцкі быў чальцом тэхнічнага камітэта галоўнай інжы-*

*нернай управы Ваеннага міністэрства, а з 1867 г. - чальцом будаўнічага аддзялення марскога тэхнічнага камітэта. Чын генерал-лейтэнанта атрымаў 1 студзеня 1864 г.*[90].

Застаецца толькі дадаць, што першая ў Расіі марская астранамічная абсерваторыя пабудавана ў 1856 г. у двары Кранштацдкага штурманскага вучылішча па праекце і пад кіраўніцтвам лідзяніна Зарэцкага.

Каля самай капліцы раней ляжала вялікая гранітная пліта, на якой яшчэ можна прачытаць: *"**Юзаф Грабавецкі**, герба Грымайла, з Падляшша, доктар медыцыны і акушэр, сябар Імператарскага таварыства лекараў у Вільні, калежскі асэсар, нарадзіўся 19 сакавіка 1786 г., памёр 4 снежня 1849 г.*

*Для сям'і быў шчасцем,*
*Для гэтай краіны здароўем,*
*Дабрачынцам жабракоў,*
*Мілоснікам дарагіх праўдаў.*
*Выразаў у Вільні Гарбацэвіч".*

Аўтарам гэтых радкоў быў згаданы вышэй кс. Юзафат Вайшвіла і фразу *"Мілоснікам дарагіх праўдаў"* ужыў не выпадкова і не для рыфмы, але таму, што дасведчаны чалавек зразумее пра тое, што Юзаф Грабавецкі быў сябрам масонскай ложы Гарлівы Ліцвін у Вільні.

Юзаф Грабавецкі нарадзіўся на Падляшшы і быў выхаванцам Віленскага ўніверсітэта. Доктарскую навуковую ступень атрымаў у 1817 г.[91]. У 1815 г. будучы доктар медыцыны жыў у Свіслачы і адсюль даслаў у Віленскае Імператарскае лекарскае таварыства працу "Historia fistulae ventriculi" і 1816 г. быў абраны чальцом таварыства[92]. Грабавецкі з'яўляўся аўтарам шэрагу навуковых артыкулаў па медыцыне[93]. Пасля Свіслачы пераехаў у Шчучын, дзе памёр у 1844 г.[94]. На Лідчыне ў 1844 г. Грабавецкі валодаў маёнткам Старадворцы з 5 прыгоннымі[95].

Як раз тут, каля капліцы буйства варвараў у 1980-я гг. было найбольш моцным, і магілу масона сярод нагрувашчвання перакручаных, пабітых і перавернутых помнікаў знайсці ўжо немагчыма.

Пра магілы роду Рылаў Міхал Шымялевіч пісаў: *"Вялікая Перапечыца мае некакалькі надмагілляў: "С. п. **Ксаверы Рыла**, Надворны дарадца і жыхар Лідскага павета. Жыў 62 гады, памёр 22 лютага 1836 г. Засмучаныя дочкі просяць аб "Здровась Марыя"".*

*Яго сын: "С. п. **Канстанцін Рыла**, карнет гусарскага палка караля Нідэрландаў.*

*Жыў 22 гады, памёр 3 жніўня 1847 г. Сёстры ў суме просяць аб трох "Здровась Марыя"".*

*На сёння захавалася толькі чыгунная аснова помніка карнета Канстанціна Рылы.*

*Каля Рылаў былі магілы іншых абшарнікаў з Вялікай Перапечыцы, магілы дачкі Ксаверыя Рылы з надпісам: "Тут спачываюць парэшткі с. п. **Альбертыны з Рылаў Садоўскай**, памерла 17 траўня 1867 г. ва ўзросце 53 гадоў".*

*Яе муж: "Тут спачываюць парэшткі с. п. **Рафала Садоўскага**, стацкага дарадцы і кавалера. Памёр 8 жніўня 1869 г. ва ўзросце 58 гадоў".*

*Першай яго жонкі, ад якой Садоўскім належала Баяршчына пад Лідай (цяпер Тумялевічаў) "DOM. **Максімілія з Даўгялаў Садоўская** і двое дзяцей Людвіка і Яна, жонка лідскага павятовага лекара, калежскага асэсара, пакінуўшая гэты свет 13 лістапада 1845 г. ва ўзросце 27 гадоў". На надмагіллі верш:*

*Не парэшткі памёрлай*
*ляжаць пад гэтым валуном,*
*Разам шчасце чулай маці пахавана.*
*Сэрца мужа прабіта*
*гэтым страшным ударам,*
*Чутны голас жалю і смутку,*
*Трое дзетак-сіротак пакінула на зямлі,*
*Каб навечна застацца з двума памёрлымі.*

*Без надмагілля ляжаць тут сын павятовага лекара Ян Садоўскі (1905 г.), яго жонка з Кваткоўскіх, іх сын Ян Рафал Садоўскі і некалькі іншых чальцоў гэтай сям'і"*[96].

Зараз захаваўся толькі помнік Рафала Садоўскага і частка помніка Максіміліі з Даўгялаў Садоўскай.

Тут жа недалёка магілы вядомага на Лідчыне роду Грымайлаў-Прыбытак. Магіла **Паўла Прыбыткі**[97] (памёр у 1870 г.) засядацеля лідскага павятовага суда, і ягонай жонкі **Эміліі з Крыдалёў** (памерла ў 1878 г.) і іншых прадстаўнікоў гэтага роду.

Далей буду блізка да тэксту цытаваць Міхала Шымялевіча, бо практычна нічога з таго, пра што ён пісаў, знайсці ўжо немагчыма, добра што хоць застаўся ягоны тэкст.

[90] Русский биографический словарь: В 25 т. А.А. Половцов. М., 1896-1918. Т. 10. С. 231.

[91] Bielinski Jozef. Stan nauk lekarskich za czasow Akademii medyko-chirurgicznej wilenskiej. Warszawa, 1888. S. 344.

[92] Bielinski Jozef. Cesarskie towarzystwo lekarskie wilenskie (1805-1864). Warszawa, 1890. S. 38.

[93] Grabowiecki Jozef. Historya fistuly zoladkowej. Pam. lekar., II. 212.; Grabowiecki Jozef. De fluore albo. Dissertatio inaug. Vilnae, typ. Schol. Piart1111. 18 17. 8° 23. Гл.: Jozef Bielinski. Uniwersytet Wilenski. T. II. Krakow. 1899-1900. S.336, 348.; У 1824 г. Віленскім імператарскім лекарскім таварыстве прачытаў працу "Observationes de alltltracibus e:c usum carmwn animalium licnitide laborantum" Гл: Bielinski Jozef. Cesarskie towarzystwo lekarskie wilenskie (1805-1864). Warszawa, 1890. S. 38.

[94] Bielinski Jozef. Stan nauk lekarskich za czasow Akademii medyko-chirurgicznej wilenskiej. Warszawa, 1888. S. 344.

[95] Czeslaw Malewski. Wykaz alfabetyczny z 1844 r. majatkow pow. Lidzkiego // Ziemia Lidzka. №2(60)-2004.

[96] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 118.

[97] "Павел Геранімавіч Прыбытка", Гл: Памятная Виленской губернии на 1845 г. Вильна, 1886.С. 104.

Шымілевіч паведамляў, што Курасёўшчына мае на могілках адзінага прадстаўніка: "**Ян Тукала** (1783-1867), капітан б. польскіх войск", іншыя ж Тукалы болей палюбілі маёнтак Белае Балота з Гародняй, а Курасёўшчыну пакінулі[98].

Магілы з Чэхаўцоў: "Тут спачывае с. п. **Казімір Мяцеша сын Банькоўскі** б. суддзя Лідскага павета, пам. 18 кастрычніка 1871 г., жыў 76 гадоў" [99].

Магілы з Скаўронішкаў: "Тут спачываюць с. п. **Пётр Жаба** і дачка **Памела Нарбут**, пам. 18 сакавіка 1872 г. ва ўзросце 47 гадоў".

Магілы з Траццякоўцаў: "Тут адпачываюць парэшткі жыхара Лідскага павета **Яна Калясінскага** пам. 27 чэрвеня 1874 г. і жонкі **Антаніны Калясінскай** пам. 13 сакавіка 1863 г.". "Магілы сям'і **Станіслава Калясінскага**. Яго сын **Станіслаў** пам. 7 лютага 1897 г., меў 24 гады".

Сям'я Крахельскіх, якая доўгі час жыла ў Лідзе, пакінула некалькі магіл:

"Магілы Крахельскіх. С. п. **Тэафіла Крахельская** пам. 20.II.1881 г. ва ўзросце 58 гадоў. Найлепшай з маці ад шчыра любячых дзяцей.

*Бацькі!*
*Тут пад гэтым халодным*
*каменем ляжаць вашыя парэшткі*
*І трох сыноў - падлеткаў, пахаваных разам.*
*Пяць асобаў зачынены ў панурых скляпеннях.*
*Які ж сум у нашых душах, які востры боль!*
*Асірацелі сыны і дачка без бацькоўскай апекі,*
*Страцілі бацьку і найлепшую маці,*
*сіроты навек!*
*Мінак, які чытаеш на гэтым смутным помніку,*
*Злітуйся як чалавек і пабожна памаліся:*
*"О Божа літасцівы, дай вечнае збавенне*
*Гэтым душам,*
*чые парэшткі пакрывае гэты склеп".*

"С. п. **Юзаф Крахельскі**, скарбнік і жыхар Лідскага павета. Меў 50 гадоў. Спакой твоёй душы, дарагі бацька!".

С. п. іхнія дзеці **Уладзіслаў, Аляксандр і Віктар**.

"Тут ляжыць **Ружа з Туровічаў Крахельская**, жонка скарбніка Лідскага павета. Памерла 19 траўня 1837 г., мела 19 гадоў".

"С. п. **Нарцыс Крахельскі**, жыхар Лідскага павета. Нарадзіўся 14 кастрычніка 1829 г., памёр 11 снежня 1890 г.".

Густа "засяляюць" свае могілкі гарадскія жыхары:

Павятовы лекар **Раймунд Гузе** (1896 г.)[100].

Пра Гузе ў "Памятнай кніжцы Віленскай губерні": "Надворны дарадца Раймунд Станіслаў Рудольфавіч Гузе, адукацыю атрымаў у С.-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, каталіцкага веравызнання, на пасадзе з 22 ліпеня 1879 г." [101].

**Эмілія з Шостакаў Ляўданская**[102], жонка спраўніка Лідскага павета (1893 г.).

**Марцін Галоўня** (1888 г.).

**Ян Стасевіч**, бургамістр (1901 г.).

**Анна з Малашкевічаў Яцкевіч**, жонка бургамістра (1840 г.).

**Яна з Ліпінскіх Зэдлер**, жонка аптэкара (1871 г.).

**Аркадзь Маразоўскі**, землямер (1895 г.).

**Леан Стабінскі**, бургамістр.

Лёг тут "**Аляксандр Талочка**, калежскі рэгістратар, пам. 7 красавіка 1846 г. ва ўзросце 27 гадоў.

Гадоў жыў няшмат
Спачывай ты, сябар,
Хай гук трубы анёла
Заклікае на суд Найвышэйшы".

Большая частка каменных надмагілляў паходзіла з другой чвэрці XIX ст. Выразаны яны былі ў Вільні. Каля 1880 г. у Лідзе па вуліцы Віленскай на ўласным пляцы залажыў майстэрню надмагілляў Баляслаў Хруль, пасля яго смерці (1889 г.) майстэрняй кіравала яго ўдава Анэля з Малеўскіх Хруль. Некаторыя надмагіллі паходзяць з майстэрні Воўка-Карачэўскага ў Паддубне.

Найлепшы помнік па меркаванні Шымялевіча пабудавала маці сыну з надпісам: *"**Станіславу Хагмаеру** 23 красавіка 1906 г. - 18 верасня 1930 г. любімаму адзінаму, памяць ад маці"*.

Таксама лідскаму гісторыку спадабаўся ладны камень прывезены на магілу памерлага лідзяніна, старога кавалера, які пакінуў добрыя спадкі сваім далёкім крэўным. На камені быў выкананы бронзавы барэльеф з партрэтам нябожчыка і надпіс: *"Аляксандр Ёдка, памёр у Варшаве 17.XII.1933 г. у 75 гадоў. Прайшоў праз жыццё, робячы дабро. Удзячная радня"*. Арыгінальна выглядалі "магілы Граблісаў": цэлы мураваны дом з дзвярыма і вокнамі.

Яшчэ Шымялевіч пісаў: "*Гусцей могілкі запоўнены зраўнаванымі з зямлёй магіламі дробных сельскіх гаспадароў і землякробаў: Ёдкаў, Болтуцяў, Таўгінаў, Хрулёў, Астравухаў, Падгайных, Бунькоў, Капачэляў, Стрыбуцёў, Клышэйкаў, Ходзькаў, Хутных, Ракаў, Буракоў, Трацякоў, Касякоў, Семакоў, Шостакаў, Латушкаў, Саладухаў, Кісялёў, Сегеняў, Брэйваў, Чарнякоў, Майсакоў, Пуйдакоў, Чарнавусаў, Белавусаў і г. д. і г. д."* [103].

---

[98] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 118.

[99] Так у крыніцы. - Заўвага перакладчыка.

[100] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 118-119.

[101] Памятная книжка Виленской губернии на 1887 год. Вильна, 1886. С. 13.

[102] Яе муж, паліцэйскі спраўнік з 1888 да 1900 г. Сцяпан Мацвеевіч Ляўданскі. За сваю службу атрымаў розныя адзнакі і быў узнагароджаны ордэнам Уладзіміра 3-й ст. - Памятная книжка Виленской губернии на 1903 г. Вильно, 1902. ч. 3. С. 58.

[103] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 119.

***Вайсковая частка могілак***

Пачалася Першая сусветная вайна, і ў 1915 г. тут з'явіліся новым пахаванні - шэраг салідных драўляных крыжоў з надпісамі, выкананымі гатычнымі літарамі:

"**Браніслаў Плюціцкі**, саніт. Беластоцкі ваенны шпіталь (Bialystoker Kriegs Hospital)".

"**Юзаф Зяневіч**, 400 Менскі полк".

"**Баляслаў Скажынскі**" [104].

Міхал Шымялевіч пісаў:

*"Першыя ахвяры польска-бальшавіцкай вайны 1919 г.: каля дзеда **Яна Шкопа** (1909 г.) магіла з надпісам: "С. п. **Віктар Шкоп**, валанцёр В. П. загінуў за Бацькаўшчыну ў барацьбе з бальшавікамі каля Лебяды 16 студзеня 1919 г., меў 19 гадоў".*

Далей - красавік 1919 г. [105], бой за Ліду, узяцце Ліды, адыход і зноў узяцце 28 верасня 1920 г.

"**Генрык Жылінскі**, паручнік 1-га Сувальскага палка, загінуў у баях пад Лідай 16 красавіка 1919 г."

Паручнік **Юзаф Гундэрман**; паручнік **Севярын Шыманюк**; паручнік **Фелікс Асецкі**; паручнік **Юзаф Клямпінскі**; паручнік **М. Шчалкоўскі**; паручнік **Феліцыян Радкевіч**; вахмістр **Францішак Марчык**; сярж. **Ян Уцёрка**; шар. **Станіслаў Кураш**; шар. **Мечыслаў Мінтле**; ст. шар. **Станіслаў Парыж**; кан. **Ян Ваўковек**; ст. шар. **Ян Матэрак**; ст. шар. **Антон Далята**; кан. **Юзаф Паўляк**; шар. **Ян Пятрашак**; шар. **Стэфан Мікалайчык**; шар. **Юзаф Баравіцкі**; шар. **Уладзіслаў Алтар**; шар. **Віктар Сэдляк**; кан. **Павел Рухлік**; кан. **Ян Ваўрыняк**; кан. **Уладзіслаў Орпель**.

Каля той жа агароджы - супольная магіла ўсіх тых, якія загінулі ў ваколіцах Ліды ў 1919-1920 гг. і парэшткі якіх былі сабраныя тут у 1924 г. Супольная магіла з'яднала тут і тых, якіх летам 1920 г. у даліне пры збегу тракту і шашы Ліда - Гародня расстраляў асобны аддзел ЧК пры штабе арміі Тухачэўскага ў Лідзе. Надпіс на гэтай магіле:

"40[106] невядомых закладнікаў з Беластока, Гародні і Ваўкавыска, забітых бальшавікамі ў жніўні - верасні 1920 г.".

*"Мой Божа! Ці ж гэты малады, але хціўы да ўлады і славы, інтэлігентны афіцэр Тухачэўскі, якога я бачыў на вуліцах Ліды ў аўтамабілі, пакрытым чырвонай палярынай з залатымі махрамі, калі зацвяр-*

[104] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 119.

[105] Спіс загінуўшых у 1919 г. пахаваных на вайсковай частцы старых могілках: Aleksanderek Wladyslaw, II pulk legionow, III kompania, legionista; Baran Stefan, II pulk legionow, (?) kompania, legionista; Basalaj Wiktor, strzelec, III komp., pulk suwalski; Bialek Jozef, II pulk legionow, II kompania, legionista; Bialy Antoni, legionista, 4 pulk legionow, 10 kompania; Bieganowski, legionista, 3 pulk legionow, IV kompania; Bonar, legionista, 3 pulk legionow, IV kompania; Bublewski Jan , strzelec, III komp., pulk suwalski; Chomicz Feliks, strzelec, II komp., pulk suwalski; Cybula Jozef, II pulk legionow, I kompania, legionista; Czuper Leon, pulk suwalski, II (?) kompania, strzelec; Cwik Stanislaw, legionista, 4 pulk legionow, 10 kompania; Dobrogowski Jerzy, ulan ,7 pulk ulanow, I szwadron; Duda Franciszek, strzelec, III komp., pulk suwalski; Dziuba Wladyslaw, II pulk legionow, II kompania, legionista; Golygowski Adam, II pulk legionow, III kompania, legionista; Goros Teofil, legionista, 4 pulk legionow, 9 kompania; Gurowski Jozef, strzelec, III komp., pulk suwalski; Gzymanow Antoni, II pulk legionow, III kompania, legionista; Hanadunda Jozef, strzelec, I komp., pulk suwalski; Kaleta, legionista, 3 pulk legionow, IV kompania; Kedzira Stanislaw, II pulk legionow, III kompania, legionista; Kieminski Jozef, pulk suwalski, porucznik; Klosowski, 3 pulk legionow, IV kompania, kapral; Konopnicki Daniel, kapral, 4 pulk legionow, 10 kompania; Kopec, legionista, 3 pulk legionow, IV kompania; Kowalski Jan, legionista, 4 pulk legionow, 9 kompania; Kozlowski Stanislaw, ulan, 7 pulk ulanow, III szwadron; Kruiczyk Jan, strzelec, III komp., pulk suwalski; Krulik, legionista, 4 pulk legionow, 10 kompania; Kruszewski Stanislaw, ulan, 7 pulk ulanow, I szwadron; Kubiak Wawrzyniec, II pulk legionow, II kompania, legionista; Kutera Michal, legionista, 3 pulk legionow, II kompania; Lipczynski Stefan, 7 pulk ulanow, I szwadron, st. ulan; Maciukiewicz Jozef, strzelec, II komp., pulk suwalski; Majewski Franciszek, legionista, 4 pulk legionow, 10 kompania; Michalowski Leon, strzelec, pulk suwalski; Mularczyk Wladyslaw, II pulk legionow, IV kompania, legionista; Myszkiewicz Wlodzimierz, 7 pulk ulanow, I szwadron, ulan; Nika Jan, II pulk legionow, III kompania, legionista;Nowak Stanislaw, II pulk legionow, IV kompania, legionista; Nowicki Bronislaw, strzelec, III komp., pulk suwalski; Orsiniak Jan, II pulk legionow, IV kompania, legionista; Osika Stanislaw, st. zolnierz, 4 pulk legionow, 9 kompania; Ostrowski Jan, legionista, 4 pulk legionow 10 kompania; Palysiewicz, legionista, 3 pulk legionow, IV kompania; Paniecki Waclaw, ulan, 7 pulk ulanow, II szwadron; Patura Piotr, II pulk legionow, III kompania, legionista; Patura, legionista, 3 pulk legionow, IV kompania; Piechota Wladyslaw, st. zolnierz, 4 pulk legionow, 10 kompania; Pikula Kassjan, legionista, 4 pulk legionow, 10 kompania; Piwowanski Wincenty, II pulk legionow, II kompania, legionista; Przekop Jan, st. zoln., pulk suwalski; Przepiorka Stefan, II pulk legionow, II kompania, legionista; Pszeniczny Feliks, 4 pulk legionow, 9 kompania, plutonowy; Pycz Bronislaw, strzelec, III komp., pulk suwalski; Rodkiewicz Felicjan, pulk suwalski, porucznik; Rodziewicz Bronislaw, strzelec, III komp., pulk suwalski; Rozkal Antoni, 7 pulk ulanow, III szwadron, kapral; Samala Jozef, legionista, 4 pulk legionow, 10 kompania; Skarzynski Boleslaw, 3 pulk ulanow, (?) szwadron, ulan; Suski Jan, strzelec, III komp., pulk suwalski; Sykul Wladyslaw, legionista, 4 pulk legionow, 10 kompania; Szczesny Izydor, strzelec, III komp., pulk suwalski; Szmigielski Boleslaw, strzelec, III komp., pulk suwalski; Szmigielski Jan, strzelec, pulk suwalski; Sznajder Ferdynand, 3 pulk ulanow, (?) szwadron, ulan; Szymanski Seweryn, plutonowy, pulk suwalski; Tomaszewski Zygmunt, strzelec, III komp., pulk suwalski; Trus Tomasz, ulan, 7 pulk ulanow, III szwadron; Tuliszewski Jozef, strzelec, III komp., pulk suwalski; Ulik Leon, legionista, 3 pulk legionow, III kompania; Ulisz Serafin, strzelec, III komp., pulk suwalski; Walinski Jozef, strzelec, III komp., pulk suwalski; Wegrzynowicz Jan, 3 pulk legionow, I kompania, legionista; Wiejgad Bronislaw, pulk suwalski, I komp., st. zolnierz; Wykusz, legionista, 3 pulk legionow, IV kompania; Wyrwicz Roman, 7 pulk ulanow, I szwadron, kapral; Zalewski Stanislaw, pulk suwalski, porucznik; Zaluski Stanislaw, 4-ty pulk ulanow, 3 szwadron, ulan; Ziolkowski Stanislaw, legionista, 3 pulk legionow, IV kompania; Zychowicz Tomasz, legionista, 4 pulk legionow, 10 kompania; Zylinski Henryk, pulk suwalski, porucznik - Гл: *Kolyszko A. Kwatera wojskowa parafialnego cmentarza katolickiego w Lidzie // Ziemia Lidzka № 29, styczen 1998.*

[106] Па іншай інфармацы 47 закладнікаў. Магіла расстраляных закладнікаў з крыжам і памятнай табліцай знішчана, яна знаходзіцца перад помнікам лётчыкам, які існуе і зараз.



***Вайсковая частка могілак***

*джаў выракі асобага аддзела, думаў пра тое, што калісьці і сам ён будзе расстраляны ў патыліцу з браўнінга? Забіты так, як і няшчасных ахвяр забівалі па яго камандзе.*

*Бо якім судом вы будзеце судзіць, такім і вас асудзяць, ды якою меркай вы будзеце мераць, такою вам адмераць. Мацвей VII, 2".*

Пакуль удалося расшукаць толькі прозвішчы двух з 40 расстраляных Тухачэўскім закладнікаў - гэта жонка і дачка А. А. Азнабішына[107].

З 1919-га г. гадоў на заходняй частцы старых могілак з'яўляецца асобны вайсковы квартал.

З 1920-х гг. тут пачынаюць хаваць лётчыкаў 11-га знішчальнага і 5-га лётнага палкоў, і квартал пачаў ператварацца ў лётны. Потым быў пабудаваны 8-мятровы помнік, пастаўлены металічны плоцік.

Некалькі біяграфій загінуўшых пілотаў, пахаваных ў вайсковым квартале:

**Залескі Адам** (2.08.1886-12.07.1926), нарадзіўся ў Варшаве. Закончыў Маскоўскі кадэцкі корпус (1904), Канстанцінаўскую школу артылерыі ў Пецярбургу, тэарэтычныя авіяцыйныя курсы пры Пецярбургскім політэхнічным інстытуце (1913). Школу пілатажу прайшоў у Севастопалі. У гады I-й Сусветнай вайны камандаваў расійскай авіяцыйнай эскадрылляй, а затым дывізіёнам. 15 жніўня 1919 г. у званні палкоўніка ўступіў у польскія Вайскова-паветраныя сілы. Атрымаў пасаду камандуючага палявой авіяцыяй. У ліпені 1920 г. камандуючы авіяцыяй абароны Варшавы. Пасля вайны - камендант Макатоўскага аэрапорта, з сакавіка 1922 г. - намеснік камандзіра 2-га авіяцыйнага палка ў Кракаве. 26 лістапада 1925 г. пераведзены на пасаду намесніка камандзіра 11-га знішчальнага палка у Лідзе. Пахаваны ў Лідзе[108].



Płk.-pil. A. Zaleski

14 ліпеня 1926 г. Кур'ер Віленскі паведаміў: "... *палкоўнік Адам Залескі, намеснік камандзіра 11 лётнага палка знішчальнікаў упаў учора з самалётам*

[107] Азнабішын А.А. - грамадскі дзеяч, былы гарадзенскі віца-губернатар. У пачатку 1919 года быў прызначаны чальцом беларускай дэлегацыі ў Парыжы.

[108] Ku czci poleglych lotnikow: ksiega pamiatkowa: praca zbiorowa. Warszawa, 1933. S. 345.

*каля Ліды і забіўся. Загінуўшы меў 12 гадоў лётнага стажу"*[109].



Sierż. rez.-pil. Fr. Czarnecki

**Чарнецкі Францішак** (загінуў 10.06.27). Сяржант-пілот рэзерву, належаў да 11-га лётнага палка знішчальнікаў. Загінуў падчас палёту. Пахаваны ў Лідзе[110].



St. sierż.-pil. P. H. Stencel

**Стэнцал Павел Генрык** (16.10.1899-21.01.1928), нарадзіўся ў Юзафове. У 1917 г. быў мабілізаваны ў нямецкае войска. У 1918 г. трапіў у французкі палон. У лютым 1919 г. уступіў у армію генерала Галера. Закончыў школу падафіцэраў. Вярнуўшыся на радзіму служыў у 8-ай пяхотнай дывізіі (1919-20), пасля чаго ў парку ўзбраення 3-й арміі. Да чэрвеня 1922 г. у шэрагах войск Сярэдняй Літвы. Вучыўся ў лётных школах у Быдгашчы і Грудзёнску. Пасля атрымання дыплома пілота ў верасні 1923 г. накіраваны ў 3-ці авіяцыйны полк. Служыў у званні старшага сяржанта-пілота ў 11 палку знішчальнікаў у Лідзе. Загінуў пад час палёту 21 студзеня 1928 г. Пахаваны на парафіяльных могілках у Лідзе[111].

**Ціхоцкі Аляксандр** (27.01.1900 - 1.05.1928), нарадзіўся ў Цеханаве ў сям'і Яна і Зоф'і з Сяцінскіх. Скончыў Кадэцкі корпус (1917). Уступіў у белую армію генерала Карнілава, затым Урангеля. Служыў у званні падкапітана. У баях з бальшавікамі быў тры разы паранены. Вярнуўся ў Польшчу, у 1921 г. у званні шарагоўца ўступіў ў польскае войска. Скончыў Вялікапольскую школу падхарунжых пяхоты Служыў у 86-ым палку пяхоты ў званні падпаручніка і паручніка. Закончыў школу



Por.-pil. Al. Cichocki

пілотаў у Быдгашчы (1924). У званні паручніка накіраваны ў 11-ты полк знішчальнікаў у Лідзе. Лічыўся адным з лепшых вайсковых лётчыкаў. У 1926 г. разам з палкоўнікам Райскім прымаў удзел у пералёце па балтыйскіх краінах. У 1927 г., прымаў удзел у міжнародных спаборніцтвах ў Цурыху, разам з палкоўнікам Касоўскім і капітанам Арліньскім, заняў ІІ-е месца. Пахаваны на парафіяльных могілках у Лідзе[112].

1 траўня 1928 г. каля 19-00 недалёка ад Дакудава разбіўся самалёт 11-га палка знішчальнікаў "Spad-61". На вышыні 2 000 метраў самалёт увайшоў у "штопар", і лётчык, ратуючы сваё жыццё, скокнуў з парашутам. Але купал парашута раскрыўся толькі каля самай зямлі, і пілот-паручнік Ціхоцкі загінуў. Ціхоцкі лічыўся адным з лепшых лётчыкаў у польскай авіяцыі - незадоўга да гібелі ён заняў другое месца на міжнародных авіяцыйных спаборніцтвах у Швейцарыі[113]. Карэспандэнт газеты "Слова", які прымаў удзел у пахаванні Ціхоцкага, паэтычна апісаў старыя Лідскія могілкі: *"Лідскія могілкі - гэта тыповы прыгожы лясок каля горада. Вялікія сосны, пахне вясной ... Дзе-нідзе бачны пачцівыя каменныя помнікі працы мясцовага майстра. Нашто чытаць надпісы? Гэты помнік ёсць сам люстэркам шляхетнага мясцовага жыцця яго ўласніка. З пэўнай павагай яго атачаюць большыя ці мен-*



***Абноўлены абеліск на вайсковай частцы могілак***

[109] Kurjer Wilenski № 159 (601), 14 lipca 1926.
[110] Ku czci poleglych lotnikow: ksiega pamiatkowa: praca zbiorowa. Warszawa, 1933. S. 347.
[111] Ku czci poleglych lotnikow: ksiega pamiatkowa: praca zbiorowa. Warszawa, 1933. S. 349-350.
[112] Ku czci poleglych lotnikow: ksiega pamiatkowa: praca zbiorowa. Warszawa, 1933. S. 351.
[113] Slowo № 101 (1712) 3 maja 1928.

*шыя драўляныя крыжы, якія тонуць у зараслях буйнага спірэю (язвіну) ... . Пры самым канцы могілак знаходзяцца магілы ваенных і невядомых: "Магіла 40 невядомых закладнікаў ...", цяжка прачытаць працяг, бо гэты помнік засланілі новыя крыжы"* [114].

З сярэдзіны дзевяностых гадоў розныя польскія арганізацыі з Польшчы і Беларусі ўзялі пад апеку могілкі і, адпаведна, вайсковы квартал.

Былі адрэстаўраваны крыжы, у тым ліку і помнікі лётчыкаў у межах квартала. З іншых магілаў знойдзена толькі адна - М. Алендра (5 полк).

Восенню 2001 года адноўлены абеліск, які завершаны прыгожай скульптурай, дакладнай копіяй передваеннай.

### *Могілкі ў 1920-30 -х гадах*

Актыўна хавалі тут лідзян і ў 1920-30-х гг. Шымялевіч пісаў пра магілу Уладзіміра Біюя, падкамісара паліцыі на пенсіі (1928 г.) і пра грамаду паліцэйскіх каля яго:

**Ян Вільканец**, паставы, 33 года, "загінуў ад рук бандытаў 21 траўня 1922 г.", **Юліян Каўняровіч**, "загінуў смерцю храбрых 23 кастрычніка 1922 г.", **Юзаф Алесь**, "трагічна загінуў" (1935 г.).

Недалёка ляжалі настаўнікі, якіх забрала да вечнага спачынку "белая пані" сухота: зяць Міхала Шымялевіча - **Юзаф Вось** (1929 г.), **Ганна Філіпкоўская** (1930 г.), **Ядвіга Шкоп** (1931 г.), **Францішак Краўчык** (1935 г.), **Станіслаў Фэглер**, прафесар дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе (1930 г.).

Недалёка ад іх знаходзілася надмагілле **Ядзі Шыманскай**, няшчаснай ахвяры нёманскага пляжа, у 1937 г. гэтае надмагілле было "ўсё ў кветках" [115]. Пра здарэнне з Ядзяй Шыманскай пісала прэса таго часу: *"4 ліпеня 1937 г. падчас Свята Мора, якое праходзіла на рацэ Нёман, у рацэ патанула вучаніца 3-га класа Купецкай гімназіі піяраў Ядвіга Шыманская, якая таксама прыехала святкаваць. Дзяўчынка разам з выпускніком Купецкай гімназіі каталася на лодцы па Нёмане, і лодка перакулілася. Цела дзяўчынкі было знойдзена праз некалькі дзён за тры кіламетры ніжэй Сяльца"* [116].

У 1937 г. могілкі былі павялічаны да сучасных памераў - 4,1 га.

Сякая-такая інфармацыя пра лідскія могілкі з'яўлялася ў прэсе.

Самазабойцы часта выбіралі сабе для апошніх рахункаў з жыццём лідскія каталіцкія парафіяльныя могілкі. Так, у сакавіку 1929 г. на могілках у беспрытомным стане была знойдзена Яўгенія Скеміш. Выпад-



***Пахавальная працэсія накіроўваецца ад Фарнага касцёла да старых гарадскіх могілак, сярэдзіна 1930-х гг.***

[114] Slowo № 108 (1719), 12 maja 1928.
[115] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 120.
[116] Kurjer Wilenski. № 184 (4147). 7 lipca 1937; Kurjer Wilenski. № 186 (4149). 9 lipca 1937.

ковыя людзі цудам уратавалі дзяўчыну і адвезлі ў шпіталь[117].

Пры канцы жніўня 1931 г. у горадзе бура паабрывала драты электрычнасці і сувязі, з-за чаго на лідскай тэлефоннай станцыі ледзь не адбыўся пажар. Таксама моцны дождж дзе-нідзе размыў дарогі і падмыў гарадскія могілкі, што прывяло да таго, што папрасядалі новыя магілы[118].

У ноч з 14 на 15 і з 15 на 16 студзеня 1932 г. адбыліся акты вандалізму на гарадскіх могілках, былі разбіты 16 слупкоў агароджы чатырох магіл (магілы **Грабліса, Роўбы** і інш.) і скрадзены жалезны дрот агароджы агульнай даўжынёй каля 40 м[119].

Пры канцы лета 1937 г. падчас земляных работ на вуліцы Чырвонай і Сувальскай знайшлі два збуцелыя чалавечыя шкілеты, парэшткі перахаваны на парафіяльных могілках[120].

За некалькі дзесяткаў метраў на поўдзень ад могілак пры вуліцы Гражыны (цяпер праспектЕраможцаў) у 1920-я знаходзілася неасвечанае месца, дзе хавалі самазабойцаў і асуджаных Лідскім ваеннапалявым судом да расстрэлу. Смертнікаў вялі пад канвоем праз увесь горад і расстрэльвалі ў пясчаным кар'еры каля могілак, потым хавалі на неасвечанай пляцоўцы. Трохі пазней асуджаных пачалі караць смерцю на тэрыторыі турмы[121]. Гэта месца на поўдзень ад могілак Я. Ярмант апісала гэтак: *"Там, дзе заканчвалася сцяна могілак размяшчалася нейкая адкрытая прастора з ямамі. А адразу ж за ямамі адкрываўся дзіўны і адначасова страшны пейзаж. Там цягнуўся шэраг нейкіх будак-вырадкаў. Збітыя з рознага матэрыялу прычым вельмі неахайна, яны здаваліся толькі надбудовай над часткай памяшкання, якое знаходзіцца пад зямлёй. На мяне яны рабілі жахлівае ўражанне. Дзіўна, што пра іх ніколі не казалі і ніяк не каментавалі іхняе існаванне. Яны проста стаялі і ўспрымаліся як нешта, што само сабой разумеецца. Аднойчы сястра сказала, што ў адной з гэтых будак жыве яе школьная сяброўка"* [122].

Пры гэтыя старыя могілкі хадзілі дзіўныя апавяданні пра ваўкалакаў і прывідаў. Уладзіслаў Нарушэвіч запісаў адзін з гэткіх аповядаў:

*"У ноч, калі была поўня, з адной з магіл, у якой спачываў серыйны забойца, у поўнач уставаў прывід і наведваўся ў дом, які знаходзіўся каля могілак і дзе жыла сям'я адной з яго ахвяраў. Сістэматычнае наведванне прывіду навяло жах на жыхароў дома, і яны паведамілі пра гэта пробашчу, які паслаў на могілкі свайго вікарыя. Вікарый прачытаў малітвы і акрапіў магілу забойцы святой вадой. Адна гэта не дало ніякага эфекту, калі надыходзіла поўня, прывід і надалей наведваў гэты дом. Жыхары дома былі ўжо на мяжы псіхічнага захворвання. Невядома, як доўга яшчэ доўжыліся б гэтыя наведванні, але знайшоўся нехта, хто перамог прывіда. Гэта быў стары жабрак. Выслухаўшы гісторыю жыхароў дома, ён вычасаў кол з асіны, у бліжэйшую ноч прыйшоў на магілу і ўбіў кол у магілу гэтак, каб ён праціў труну забойцы. Выплыўшы на хвіліну з хмар месяц асвятліў гэтую сцэну: каля ўбітага ў зямлю кала, выступіла кроў. Пасля гэтага прывід больш не прыходзіў да людзей".*

Таксам Нарушэвіч пісаў пра аповяды пра сустрэчы з белымі зданямі ўначы на могілках, і як быццам гімназічны настаўнік фізікі растлумачыў што белыя здані гэта ў бязветраныя ночы з старых магіл выходзіў фосфар і ствараў слуп, які свяціўся і перамяшчаўся разам з рухам паветра[123].

Да 17 гадоў я жыў за 200-300 метраў ад гэтых старых гарадскіх могілках і ў сярэдзіне 1970-х гг., у зусім іншую эпоху, чуў тыя ж аповяды пра белыя здані - слупы фосфару, які выходзіў з старых магіл і па начах пужаў мінакоў. Гарадскія легенды - вельмі ўстойлівая рэч.

* * *

Могілкі былі чынныя да 1950-х гг.

Апошні раз раз агульнымі намаганнямі на могілках быў наведзены парадак пры канцы 1940-х гг. Па ініцыятыве каталіцкіх святароў былі высечаны заразнікі, скошана высокая трава, зрэзаныя ніжнія галінкі дрэў, прыведзены ў добры стан магілы. Людзі пачалі саджаць на іх кветкі. Наступны раз за могілкі ўзяліся толькі пры канцы XX ст.

Парафіяне запомнілі выпадак, які адбыўся падчас работ на могілках: *"... Пры канцы 1940-х гадоў, ... у Фарным касцёле горада, каля замка, з'явіўся новы ксёндз.*

*Аказваецца, адна з грамадзянак горада, нейкая пані Пуйдакова, прыгледзеўшыся да ксендза, пазнала ў ім лётчыка, з якім яна сустракалася да вайны і з якім у яе ў тыя часы быў невялікі раман.*

*Новы ксёндз катэгарычна адмаўляў, што меў што-небудзь агульнага з асобай лётчыка. Але жанчына яму не верыла. Яна глядзела на ксендза падчас набажэнства, падпільноўвала яго падчас пахавання на могілках, вылівала на няшчаснага бутэльку парфуму.*

*У рэшце-рэшт, ксёндз страціў цярпенне. Аднойчы, калі пані Пуйдакова дайшла да сексуальных правакацый і, задраўшы на могілках спадніцу, паказала ксяндзу ... свае ножкі, ён узяўся за розгу і выкрасаў узбуджанай і звар'яцелай ад кахання парафіянцы зад"*[124].

[117] Slowo № 62 (1972), 15 marca 1929.
[118] Slowo № 196 (2704), 28 sierpnia 1931.
[119] Kurier Nowogrodzki № 18 (104), 23 stycznia 1932.
[120] Kurjer Wilenski № 226 (4189), 18 sierpnia 1937.
[121] Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 105.
[122] Ярмонт Е. В тени замка Гедемина. Лида, 1995. С. 47.
[123] Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 104-105.
[124] Мирковский Бруно. Под прямым углом. Донецк, 2002. С. 173.

Старыя лідскія могілкі былі закрыты ў 1963 г., а 16.06.1983 г. прынята рашэнне пра іх ліквідацыю. Адразу ў мясцовай газеце "Уперад" з'явіліся заклікі да жыхароў горада перанесці парэшткі родных на іншыя могілкі, што многія і зрабілі, у тым ліку мой цесць перазахаваў свайго бацьку.

У 1980-я гг. спецыяльна прывезеная група камсамольцаў з Наваградка знішчыла ўсе крыжы, зруйнавала магілы[125].

У адным з першых артыкулаў 1990-х гг. у "Чырвоным Штандары" пра могілкі пісалася:

*"Пералазім цераз ржавую агароджу могілак, паварочваем управа. Перад намі высокая стэла - помнік палеглым у Лідзе ... польскім лётчыкам. Помнік пазялянелы, з адбітымі краямі. Новым толькі надпіс "Пашана іх памяці!".*

*На версе бачна частка крылаў каменнага арла. Калегі кажуць, што яшчэ некалькі гадоў таму ён быў цэлы. Спрабую наблізіцца, каб лепей пабачыць. Раптам на нешта натыкаюся.*

*- Гэта магілы. Агульныя магілы жаўнераў - кажуць мне калегі. Паглядзіце вакол кустоў ... Я гляджу вакол. Бачу нізкія шэрыя помнічкі з крыжамі. Некаторыя з іх нават стаяць, на некаторых цалкам бачныя надпісы.*

*- Што з гэтым будзе далей? - пытаюся.*

*- Не вядома. Хаця, наогул, вядома: гарадскія ўлады хочуць з могілак зрабіць парк*[126].

*- Парк на магілах? ... З гэтым пытаннем іду потым да ўладаў.*

*- Што вас дзівіць - маладая сімпатычная дзяўчына, Ларыса Г., першы сакратар гарадскога камітэта камсамолу ў Лідзе высока уздымае бровы.*

*- І Вільня і Варшава так сама пабудаваны на людскіх касцях! - кажа як быццам з лёгкай інтэлектуальнай перавагай у голасе. - Мала маем месца, чаму мы павінны адмовіцца ад лішняга кавалка зямлі. Ва ўсякім выпадку, гістарычныя помнікі плануем перанесці на іншыя могілкі. Хто будзе вызначаць іх каштоўнасць? Я думаю, што пра гэта павінен клапаціцца нядаўна створаны клуб Аматараў польскай культуры. Проста атрымаць адпаведныя каштоўныя паперы (...)"* [127].

Пад час візіту журналіста "Чырвонага Штандара" з Вільні Леакадзіі Камаішкі да галоўнага архітэктара працягваецца тое ж: *"Прамоўца пачынае пераконваць нас, што пасля ўсяго таго, што адбылося, могілкі ў такім стане не могуць застацца, таму што гэтыя руіны кажуць толькі пра тое, як мы не павінны захоўваць памяць аб загінуўшых. Пра аднаўленне магілаў не можа быць і гаворкі. Яны занадта пашкоджаны, і нават грошай на гэты не хапае. Таму ён лічыць, што яго праект у дадзеным выпадку сапраўды выратавальны - капліца перарабляецца ў магазін, дзе можна купіць вянкі, кветкі і г.д. гістарычна каштоўныя магілы ўпарадкоўваюцца (...)"* [128].

У 1991-92 г. была праведзена інвентарызацыя гэтых могілак Таварыствам сяброў Гародні і Вільні з Польшчы. Могілкі былі вельмі занядбаныя і закінутыя, *"да чаго прычыніліся планы мясцовых уладаў зрабіць тут гарадскі парк. Гэта прывяло да масавых перазахаванняў на іншыя могілкі і да шматлікіх актаў вандалізму".*

Вынікі інвентарызацыі старых лідскіх могілак: *"Згодна са станам на 1992 г. захавалася каля 80% мураванай агароджы выкананай у 1903 г. Самыя старыя з захаваўшыхся надмагілляў паходзяць з 20 і 30-х гадоў XIX ст. Апошнія пахаванні зроблены каля 1960 г. Сярод 2 700 захаваўшыхся надмагілляў і месцаў пахавання да 1945 г. надмагілляў з надпісамі каля 20%, без надпісаў каля 17%, земляных магіл 30%. Большасць надмагілляў носіць сляды вандалізму. На капліцы часткова захаваўся дах, але няма дзвярэй, што прывяло да таго, што яна выкарыстоўвалася як туалет. На вайсковай частцы меліся каля 60 надмагілляў (разам з агульнымі магіламі). У сярэдняй частцы маецца помнік польскім лётчыкам.*

*У 1991 г. таксама праводзілі інвентарызацыю праваслаўных могілак. Найстарэшае надмагілле - 1858 г., апошнія пахаванні 1977 г. Захавалася 417 надмагілляў (да 1920 г. - 142, 1921-45 - 145, пасля 1945 - 130). Могілкі таксама цярпелі ад вандалаў, але царква працавала ўвесь час, што іх стрымлівала"* [129].

Летам і восенню 2001 г. вернікі пад кіраўніцтвам пробашча лідскай фары кс. Юзафа Багдзевіча, пастараліся навесці парадак на старых могілках. Рэканструкцыя помніка лётчыкам, а потым рэканструкцыя капліцы Св. Барбары і яе асвячэнне - значны этап ў барацьбе за гэты кавалак зямлі.

Для навядзення парадку на гэтых старых могілках лідзяне пачалі самаарганізоўвацца. Неабходна адзначыць вялізарную ролю ў гэтым "Таварыства польскай культуры Лідчыны" якое шмат гадоў узначальвае выбітны грамадскі дзеяч Аляксандр Колышка. Выратаванне могілак пасля панавання тут вандалаў - у значнай ступені справа Таварыства.

Зараз могілкі знаходзяцца пад наглядам Лідскай ЖКГ. Існуе вялікая цікаўнасць да іх з боку турыстаў і лідзян, і трэба думаць пра тое, як далей уладкоўваць гэты значны помнік.

Міхал Шымялевіч закончыў свой артыкул пра могілкі словамі, якія я хачу працытаваць пры канцы свайго артыкула: *"Не меней як дзесяць тысяч парэшткаў лідзян ляжыць тут, на 4 гектарах, і ў цені сасновага бору не памятаюць ні пра свае няшчасці, ні пра свае радасці. З праху паўсталі і ў прах вярнуліся"*[130].

[125] Савук Антось. Лідскі вайсковы аэрадром (1919 - 1939) // Лідскі летапісец № 2 (22) - 2003. С. 28-34.

[126] Па іншай версіі планавалася пабудаваць тут некалькі шматпавярховікаў.

[127] Kolyszko Aleksander. W walce o przetrwanie // Ziemia Lidzka № 4 (47), grudzen 2001.

[128] Там жа.

[129] Sladecki Dariusz. Nie chciane zabytki // Ziemia Lidzka № 18-19, styczen-kwiecien 1996.

[130] Szymielewicz Michal. W cmentarnej ciszy // Ziemia Lidzka. 1937. № 11. S. 120.

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Найгоршая ноч**

Вечарам 17 кастрычніка затэлефанавала мне адна з нашых каляжанак з “Дзяржлітвыдату”. Маскуючы неспакой і старанна падбіраючы словы дала мне зразумець, што наступіла вельмі сур’ёзнае пагаршэнне сітуацыі на фронце, і што гэтай ноччу яны спадзяюцца на сігнал эвакуацыі.

“Дзяржлітвыдат” і так да яе рыхтаваўся. Але той званок значыў, што час планавых выездаў мінуў, што трэба думаць пра імправізацыю.

Званок гэты вельмі мяне ўзрушыў. Бо дагэтуль усе ведамасці ў Маскве дабіраліся да мяне цераз узважаную падачу афіцыйных камюнікe. У Маскве я не сустракаў слядоў панікі ці нават хоць бы “катастрафічных” размоваў, наадварот, усе суразмоўцы былі вельмі ўпэўненыя і альбо нязносна аптымістычныя, альбо ў найгоршым разе, стрыманыя і маламоўныя.

Тут я ў першы раз сутыкнуўся з тонам, вядомым мне з Львова і Цярнопаля. Можна сабе ўявіць, як гэта на мяне падзейнічала. Успаміны выклікалі адназначную рэакцыю: ад гэтага часу разлічвай на сябе самога...

Паразумеўся з той знаёмай. Звалі яе Таня. Дамовіліся, што ў выпадку сігналу трывогі збіраемся ў некалькі чалавек і рушым разам далей.

Грэгары сядзеў збоку. Гэта з ім, уласна, дамаўлялася Таня. Патрывожыў Галана. Ён жыў на пару паверхаў вышэй. Пастарнакі ўжо выехалі з пісьменнікамі. Галан адразу зайшоў да нас. Адчуваў неспакой, які нарастаў у сталіцы. Не хацеў вяртацца да сябе.

- Разам будзе спрытней, - паўтараў.

Паклалі яго на крэслах. Леглі таксама. Я, пэўна, заснуў, калі зноў тэлефон.

Гэта была зноў Таня. Усё пацвердзілася. Ёсць сігнал неадкладна пакідаць горад. За вокнамі цёмная ноч. Але забарона перамяшчэння без прапускоў адменена. Збор перад Курскім вакзалам.

Паспешна збіраем нашыя сціплыя лахі. Праз некалькі хвілін сходзім уніз.

Тут жудасная завіруха. Хол “Масквы” поўны снаваўшых тыды-сюды людзей. Ноч за вокнамі. На вуліцы яе чарнату раз-пораз працінаюць слупы святла: адзін за другім з Крамлёўскіх варот выскокваюць асабістыя аўтамабілі.

Гэты від асабліва дзейнічае на свядомасць. Ужо здаецца, што ў такім карагодзе аўтамабіляў мусіць недзе знайходзіцца Сталін.

Смутныя ўспаміны: чорная вуліца, тлум нябачных пешаходаў на тратуарах. Не нас адных паднялі па трывозе.

Нейкія цяжкія высілкі канцэнтрацыі. Нарэшце сустракаемся: нас сямёра. Таня з сяброўкай, нас траіх і Карастылёва з падлеткам сынам. Усіевіч пару дзён назад выехала “рэгулярна” ў Сярэднюю Азію. Бранеўская выехала некуды ў Куйбышаў. Мы апошняе ядро рэдакцыі.

Плошча перад Курскім вакзалам. Досвітак. Уся плошча забіта людзьмі. Сама колькасць іх выклікае падтрымку, бо кожнаму гаворыць: сітуацыя мусіць быць сур’ёзнай, калі столькі людзей сабралася...

Нейкія аўтамабілі, нейкія грузавікі з клункамі. Прабіраемся да вакзала. Здаецца, недзе тут мае быць эвакуацыйны транспарт “Дзяржлітвыдату”, але ў тым балагане цяжка нават марыць, каб дабрацца да яго.

Сядзім пару гадзін. Пачынаюцца плёткі. За гэты час не адышоў ні адзін цягнік. Шэпчуцца, што немцы прарваліся да Разані, што шлях на Волгу перарэзаны.

Раніца. Уся плошча загачана стаяўшымі людзьмі. Моўкне гоман: загаварылі рэпрадуктары.

Штодзённая “зводка” Саўінфармбюро. Слухаем... і шкура становіцца гусінай... Замiж “баёў”, “упартых баёў”, “цяжкіх” ці хоць бы “з пераважнымі сіламі непрыяцеля...” чуем зусім іншую мову, простую, без завулявання, якая называе рэчы па імені.

Але якімі страшнымі аказваюцца тыя рэчы, названыя па імені!

“На працягу дня 17 кастрычніка сітуацыя на Заходнім фронце пагоршылася. Непрыяцель прарваўся на адным з адрэзкаў фронту. Ідуць баі з яго танкавымі і матарызаванымі падраздзяленнямі...”.

Гэта вестка пра тое камюнікe, якое ўжо даспявала ў нечых мазгах, ужо пакрэсленае і папраўленае на нечым стале, нарадзіла тую начную хвалю панікі. А цяпер, слухаючы тыя пару фраз са здзіўленнем мы пераконваліся, што гэта не сонныя здані, што гэта сапраўды, нават, што сапраўды горай, чым ім падалося.

Феномен такой панічнай рэакцыі на талковае, сухое, але якое не хавае кепскіх навін, камюнікe цалкам зразумелы. На працягу некалькіх месяцаў усе вучыліся дабаўляць да агульнапрынятых слоў камюнікe адпаведны дадатак праўдзівасці. Калі чулі: “Упартыя”, - дадавалі ў думках: “Напэўна зноў адступаем...”.

А калі цяпер атрымалі сухую праўду, з разгону і да яе даклеілі свой дадатак. Выйшла страшна. Калі ўжо “зводка” прызнаецца ў пагаршэнні, то што ж там павінна рабіцца на самай справе!

Гэты прыклад - не заклік супраць праўдзівай

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

інфармацыі. Ён толькі вучыць, што ў стасунках паміж іпфарматарам і інфармаваным заўсёды вырастаюць складаныя падтэкставыя ўклады, і што гэта небяспечная рэч усталяваную інфармацыйную канцэпцыю знянацку мяняць на іншую, хоць бы больш шчырую і лепшую.

**Горкі Горкі**

Чакаем доўга і безнадзейна. Ходзяць толькі прыгарадныя электрацягнікі. Нехта прапанаваў праект: а можа прынамсі такім цягніком? Галан адразу ж тым запаліўся. Я спрабую затрымаць групу, пачакаць на "наш" транспарт.

Выходжу на плошчу, праціскаюся праз тлум. Ён яшчэ пашчыльнеў. Ні пра якую планавую эвакуцыю мовы быць не можа, той тлум стопча ўсё. З горада, які раптам аддаліўся, хоць мы ў яго цэнтры, прылятаюць чуткі, што напады на крамы, што разграмілі краму з гарэлкай.

Вяртаюся. Яшчэ сядзім. Што 15 хвілін зайходзіць пануры Галан і бурчыць:

- Путрамант, электрычка адходзіць.

І нарэшце я не вытрымліваю. Падымаю ўсю групу. Прапіхваемся да білетных касаў, улазім у "электрычку". Гадзіна - і Масква за намі. Даязджаем да канца лініі. Ужо вакол лясы. Гэта каля на Горкі.

Вылазім на перон, наважаныя далей пхацца пяшком. На бакавой каляі станцыйкі стаіць вельмі доўгі цягнік, увесь з каўпом нагружаны пабітымі танкамі. Спераду недзе адзін таварны вагон. Нехта там ідзе. О, дзіва, цягнік збіраецца ісці і якраз на Горкі. Вагон таксама пабіты, там дзірка ў даху. Запоўнены людзьмі, толькі пад той дзіркай трохі месца.

Пакуемся. Доўга чакаем, і нарэшце цягнік рушыць. І праз увесь той час ні аднаго транспарта з Масквы.

Едзем цэлую ноч. Нейкае немаўлё плача ў кутку. З раніцы сціхае, памерла. Холадна і голадна. Жанчыны ўзялі нешта там з дому, але яго не шмат.

Выглядаю цераз акно. Шэрань і сонца. Мінаем Уладзімір. Не гледзячы на распачлівую сітуацыю не магу адагнаць захаплення. Горад на невысокіх пагорках. Поўна цэркваў, вельмі прыгожых, гонкіх, з залацістымі галовамі.

І наогул пейзаж урачысты, такі свойскі, наднёманскі, сказаў бы. Пагорачкі, на пагорачках загайнікі бярозак, ужо залатых. Зрэдку малыя цэркаўкі. Трохі соснаў.

Другая ноч - і Горкі.

Увальваемся ў горад, як адна з апошніх хваль эвакуацыйнай паводкі. Падобна, звалілася на той горад з паўмільёна чалавек. Вынікі страшныя: поўны балаган, не вядома, дзе спаць, што есці.

Ідзём у мясцовы аддзел Саюза літаратараў. Нас нехта вітае, нехта, хто пазней здабыў пэўную вядомасць. Але вітае кісла. У адказ на нашую просьбу аб дапамозе закатвае дзіўную апастрофу на тэму Масквы і яе ролі. Што перад тым усім кіравала, а цяпер бы хацела, каб ёй дапамагалі. Нават не спрабуем яму тлумачыць, што ідэнтыфікаванне нас з маскоўскай бюракратыяй ёсць грубым перабольшваннем.

Наогул я з ім не спрачаюся, адразу выходжу. Досыць скамянелы, прызнаюся шчыра. Уцякаў ужо пару разоў, бачыў паніку, балаган, усякія непрыемныя аспекты тылу. Але першы раз у яго словах я пачуў нешта, што загучала як сумненне ў выніку вайны.

Дадам: першы і апошні раз. Няхай гэта будзе мерай трываласці савецкага ладу. У такіх цяжкіх акалічнасцях, перад тварам страшных паразаў людзі, так, крычалі, клялі, хацелі, былі ў роспачы. Ніхто нідзе ані паўслоўкам не здрадзіў, што хоць на хвіліну дапускае канчатковую паразу свайго краю.

Нарэшце нас размясцілі ў нейкай школе. Разлажыліся на ноч. Частка спала на сталах. Я - у шафе. Паклаў яе на падлогу, адной палавінай дзвярэй прыкрыўся, як коўдрай.

Два дні так жылі. Хадзілі па горадзе, шукаючы спажывы і выезду далей. Ніякіх шанцаў затрымацца тут не было. Хваля бежанцаў захліснула горад. Крамы пустыя, рэстараны замкнёныя. Недзе нехта нам сказаў, што адкрыта сталоўка для бежанцаў. Знайшлі яе. Стаялі мо з гадзіну, чакаючы ў чарзе. Потым далі нам талерку капусты. Ах, што за раскоша першая лыжка! Цэлая талерка знікла ў імгненне вока. Была гэта капуста "чыстая", сказаў бы: абстракцыйная, не забруджаная дробкай мяса, тлушчу ці хоць бы бульбы. Я быў такі згаладнелы, што адразу пасля гэтага зноў стаў у чаргу. Другая талерка спадабалася ўжо меней.

Хадзілі па горадзе. Падаваўся ён нам брыдкім, збянтэжаным, з купецкімі камяніцамі, якія яшчэ пераважалі над новай архітэктурай.

Затое цудоўныя віды. Стары Крэмль, недзе над Волгай. Фантастычная перспектыва на раку, на ўпадаючую ў яе Аку, на бясконцыя, цёмна-сінія лясы на тым баку. Тут недзе помнік Чкалаву.

Нарэшце мы даведаліся, што ходзяць караблі на Казань. Мы пайшлі ў "Параходства". Не хочуць прадаваць білеты. Розныя захады. Нарэшце, па блату, дастаём білеты на карабель "25 кастрычніка".

Аказваемся на прыстані. Велізарны натоўп. У вокамгненне захоплены плынню людзей, клункаў, драўляных "сундукоў", плеценых кашоў.

Пра ніякі кантроль білетаў мовы не было. Нас увапхнулі на карабель, там плынь цякла пад палубу, у "трум".

Мы аказаліся ў дзіўным памяшканні на носе карабля. Бляшаныя сцены, жалезная падлога. Густа, адзін каля аднаго ляжаць пасажыры. Дзіўны феномен: адначасова жудасна холадна і вельмі душна. Жалезныя сцены сцякаюць вільгаццю: столькі астыла тут выдыхаў.

Нарэшце рушым. Карабель цягне вялікую баржу, якая ў нармальных умовах возіць збожжа. Цяпер і там поўна пасажыраў, не толькі пад палубай, але і на ёй. А яна гладкая, слізкая, без ніякіх надбудовак, ніякіх парэнчаў. Глядзіш на натоўп людзей, якія атабарыліся на той гладкай паверхні, і плечы ў цябе дубеюць: як не пасаслізгваюць яны ў ваду.

Волга панурая, асенняя. Тут то нават і я не бачу пейзажу. Холадна і голад. На сем чалавек у Горкім мы здабылі з яды толькі дзве банкі кансерваў. Вельмі дзіўныя кансервы: вытрымалі штурмы ўсіх бежанцаў, і ніхто на іх не пакваліўся. Былі гэта каперсы ў воцаце. Ведаеце, нешта такое, падобнае да насення настурцыі. Ужываецца яно для дэкаравання фаршыраванай рыбы.

**На Волзе**

Ноч. Не магу спаць: так холадна, душна, нязручна. Хапаюся за выпрабаваны сродак: пішу верш:

*... я выведнік будучага часу,*
*марнею і галадаю тут, абы*
*тыя шчаслівыя маглі спазнаць смакі і закрасы*
*дзён, калі зло было магутным, а чалавек слабым.*
*Хай вароціць і гідзіць*
*глядзець у тую прорву без дна,*
*Раскажу ўсё, што бачу,*
*бо не здольны на іншае я ...*

Дзень. Вылазім на палубу. Шпацыруем уздоўж смешных кабін. Голад скручвае кішкі. Адкрываем каперсы. Жанчыны дзяўбуць па зярнятку, пішчаць, што такія нядобрыя. Я дзелавіта схапіў цэлую лыжку. Хвілю пераржоўваў, і сам рух шчок, здавалася, насычае. Потым кіслата гэтага свінства. Потым голад яшчэ большы. Нічога дзіўнага. Каперсы існуюць перш за ўсё для дадання апетыту...

Хаджу кругамі па караблі. На вузкім калідорчыку бачу абгрызеную скарынку хлеба. Іду раз, другі. Агарнае мяне пякельная спакуса: схапіць гэта згрызці. Агіда: пасля некага, на бруднай падлозе. За трэцім разам наважваюся: узяць. Але, калі даходжу, яе ўжо няма. Або нехта менш гамлетызаваў, або скінулі ў раку...

Раніца, шэрань, лёд. Стаім у Чабаксарах. Гэта сталіца Чувашскай АССР. Ляжыць на высокім, абрывістым беразе Волгі. Бягу на гару. Далі мне нейкую місачку, а раптам нешта знайду.

Мілае мястэчка: шырокія вуліцы, драўляныя домікі ў садзіках. Знайходжу нешта, як бы базарчык. Некалькі баб. У адной п'ю раз за разам тры шклянкі "варонкі", г.зн. кіслага малака. прыгатаванага нейк іначай. Купляю пару шклянак сланечнікавых семак і ў місачку столькі "варонкі", колькі ўлезла.

Цяпер сцэна з кашмару: я з той міскай маю сыйсці па драўляных сходах у некалькі дзясяткаў метраў да карабля. Яны вельмі стромыя і слізкія. У дадатак карабель трубіць, у любую хвіліну рушыць.

Дайшоў. Карміў потым тую шасцёрку лыжкай па чарзе. Была гэта іхняя адзіная яда аж да Казані.

**Казань, Ахматава**

Нарэшце прыехалі. Тут было неяк латвей. Прыстань далёка ад горада, але да дабраліся туды без асаблівых страхаў. Казань падалася мне прыгажэйшай за Горкі. У цэнтры трохі будынкаў даўняга ўніверсітэта ў стылі ампір. Крэмль і тут, вельмі маляўнічы, на пагорку, на ўскраіне горада, з шырокім відам на раўніну.

Размясцілі нас у дным з сучасных гмахаў цэнтра: Доме прэсы. Мы далучыліся да натоўпу пісьменнікаў, якія прыехалі спецыяльнымі цягнікамі.

Тут мяне чакала дзіўная прыгода. Ідзём у вялікую залу сходаў, у якой "разбіла намёты" пісьменніцкая брація. Гавораць мне: тут з Масквы і з Ленінграда. Тут, напрыклад, Ахматава...

Я стаў скамянелы. Быў аматарам яе паэзіі, пару вершаў пераклаў. Ніколі, канешне, не бачыў яе, хоць бы на здымку, ніколі не чуў, як выглядае.

- Чакайце, - сказаў. - Толькі мне яе не паказвайце. Адзін увайду ў залу. Не можа быць, талент такой велічыні бачыцца па вачах.

Спыніліся на лесвіцы. Я ўвайшоў.

Зала велізарная. У ёй пару соцень чалавек. Галоўным чынам сем'і. Панастаўлялі крэслаў, парабілі з іх загарадкі, паразвешвалі бялізну. На сцэне нейкія выкрыкі - гэта венгерскія і нямецкія пісьменнікі камісійна дзеляць хлеб.

Іду, па чарзе аглядаю твары. Канешне, жанчын больш.

Калі абышоў залу быў пэўны, што Ахматава - адна з дзвюх: першая невысокая, досыць пульхная, ужо сівенькая, блакітнавокая, з акруглым, лагодным тварам, другая таксама сівая, але высокая з арліным профілем і палымянымі чорнымі вачыма.

Канешне - Ахматава - гэта тая другая, але тая першая - таксама някепска патрапіў, гэта Вера Інбер.

Як звычайна ў тылах, у эвакуацыі, велізарную ролю ў нашым жыцці ігралі сталоўкі і жыллё. Як моцна тая форма гаспадарчай базы ціснула на свядомасць усіх нас, сведчыць сцэнка з таго ж Дома прэсы.

Кармілі нас зносна. Няшчасці палягалі ў абслугоўванні і сталовых прыборах. Калі кельнерка ў пару не падала лыжкі аднаму з нашай групы (далучыўся да нас у Казані), той вытанчаны мысліцель наскочыў на яе і пачаў мясіць кулакамі. Зрабілася вялікае ўзрушэнне.

Праз нейкі час мы знайшлі пакой у завулку, які называўся Круты, і вельмі трапна. Было гэта недзе на ўскрайку горада, у драўляным, досыць старым, але ўтульным доміку. Пасяліліся там учацвярых, не вельмі ведаючы, што далей...

На фронце ў той час сітуацыя пастаянна была цяжкая, хоць на шчасце паніка аказалася фальшывай. Немцаў пад Масквой затрымалі. Але баі ішлі зацятыя. У "Праўдзе" з'явілася новая рубрыка: "Учора на фронце пад Масквой". Змяшчалі тут талковыя справаздачы пра ход баёў пад сталіцай, на шмат больш абшырныя і больш канкрэтныя, чым у "зводках".

Шостага лістапада - сумнае свята рэвалюцыі, яе дваццаць чацвёртая гадавіна. На наступны дзень мы сабраліся ў Доме прэсы каля радыёпрыёмніка. Перадавалі прамову Сталіна на парадзе войскаў Чырвонай Арміі, якія проста адтуль меліся рушыць на фронт.

Сам факт, што Сталін застаўся ў Маскве, ужо быў суцяшальны. Значыла гэта, што сітуацыя не такая кепская, што Масква будзе бараніцца. У прамове, вельмі кароткай, як звычайна нашпігованай прымаўкамі, знайшлася фраза, якая на нас усіх зрабіла велізарнае ўражанне: "Яшчэ колькі месяцаў, яшчэ паўгода, можа быць годзік - і гітлераўская Германія мусіць лопнуць пад цяжарам сваіх злачынстваў!"

Той "годзік", асабліва той малы годзік! Галан штурхнуў мяне ў бок:

- Чуеш, яшчэ годзік, і вернемся ў Львоў!

Было гэта так далёка, што я па-просту не мог сабе ўявіць таго вяртання. Але ўсе выйшлі з вельмі паднятым духам.

У той час былі яшчэ два эпізоды, якія давалі нагоду на асцярожную надзею. Нямецкія ўдары на абодвух флангах былі застопараны. На самым поўдні немцы знянацку занялі Растоў і адразу былі адтуль выкінуты. На поўначы іхняя група, якая дайшла да

Ціхвіна і пагражала выхадам на паўднёвы бераг Ладагі, канчаткова адразаючы Ленінград, была разбіта і адкінута за раку Волхаў.

### Скачок у Саратаў

Му тым часам вялі шэрае існаванне паміж пакойчыкам у Крутым завулку і сталоўкай у Доме прэсы. Думалі над усялякімі спробамі скантактавання з Усіевіч і аднаўлення "Новых гарызонтаў".

І вось раптам недзе нехта ловіць мяне.

- Вы павінны неадкладна з'явіцца ў абкам. Для вас ёсць дэпеша ад Молатава!

Я скамянеў. На такую карэспандэнцыю я, дальбог, не мог спадзявацца.

Канешне з Грэгарам рушылі адразу ў абкам. Прынялі нас там выдатна. Адразу аказалася, што дробная памылка: не Молатаў, а Молакаў.

Але гэта таксама някепска: начальнік цывільнай авіяцыі. Даручыў, менавіта, адразу выслаць нас самалётам у Саратаў. Для чаго? Гэтага ніхто не ведаў.

Ляцелі ўтраіх: Грэгары, Пастарнак і я. Першы раз у жыцці я ўлез у самалёт. Быў гэта вайсковы транспартнік, здаецца "Дакота", халодны, бляшаны, з лавамі пры сценах. Цэлы час я сядзеў, павярнуўшы твар да акенца. Была ўжо зіма, снег. Не адчуў ніякіх сенсацый пры ўзлёце ці зніжэнні. Захапляльным было нешта іншае: гадзіна з нечым - і мы ў Куйбышаве. Затое, каб дабрацца да горада, страцілі пяць гадзін.

Размясцілі нас у нейкім інтарнаце ЦК, накармілі выдатна, на наступны дзень запакавалі ў іншы самалёт.

Няпоўныя 2 гадзіны - і Саратаў. Апошнія хвіліны ляцелі ўжо пры зямлі, ніжэй абрывістага правага берага Волгі.

Горад падаўся мне прыгожым - якраз дзякуючы таму абрыву. Усе вуліцы, якія выходзілі на Волгу, заканчваліся выдатнай перспектывай заволжскіх стэпаў, якія ішлі недзе на паўднёвы ўсход аж да вялікіх пустынь Сярэдняй Азіі, не перарваныя ўжо ані гайком.

Тыя стэпы ўрываліся ў сам горад. Я сядзеў неяк у рэстаране, калі нешта мне падказала падняць вочы на акно. Вуліцай цягнуліся адны за другімі звычайныя нашы сані. Але коні нейкія дзіўныя, высокія, нейкія няроўныя... Гэта былі вярблюды.

З другога боку Волгі, далёка ў снежным стэпе былі відны невысокія домікі горада, які ў той час называўся Энгельс і быў сталіцай аўтаномнай рэспублікі прыволжскіх немцаў, якраз ліквідаванай з-за выкрытых нейкіх спробаў кантакту з гітлераўцамі. Падобна, што ўсю рэспубліку, уключна з абкамам, упакавалі ў цягнікі і вывезлі ў Казахстан.

### Радыё-мітынг

Але гаворка не пра тое. Адразу пасля прыезду мы даведаліся, для чаго нас выклікалі. Сустрэў нас малады маёр Чырвонай Арміі... Віктар Грош. У Саратаве была Ванда. Пастанавілі, менавіта, зрабіць нешта ў родзе радыё-мітынгу палякаў-неандарсаўцаў у Савецкім Саюзе.

Не ведаю, чаму выбралі гэты час. Ляжыць перада мной нумар "Ізвесцій" з датай 2 снежня 1941 года. Перадавіца прысвечана ўгодкам смерці Кірава. Побач пару карэспандэнцый на тэму вяртання Растова. "Зводкі" лаканічныя. Ранейшая ад 30 лістапада падае, што пару дзён назад савецкія войскі пасля зацятых баёў пакінулі горад Ціхвін.

А пасяродку, унізе старонкі, ёсць паведамленне пра прылёт у Куйбышаў генерала Сікорскага, якога прынялі адразу Калінін, а потым і Вышынскі.

Так, толькі што наш мітынг адбыўся 27 лістапада...

Дзіўны гэта быў мітынг. Мы сабраліся ў некалькі чалавек у адной са студый саратаўскай радыёвяшчальнай станцыі. Была Ванда, было нас пару з Казані, быў Ендрыхоўскі, быў пузаты і румяны друкар з Варшавы, Ёчыс, быў яшчэ больш ссівелы Юліян Брун, які выехаў з Масквы і трапіў акурат у Энгельс.

Акрамя таго прамаўляў Карняйчук. Украінская спявачка Зоя Гайдай выканала па-польску арыю Галькі. Максім Рыльскі прачытаў верш "Да братоў-палякаў".

Мы выходзілі па чарзе, станавіліся перад металічнай скрыначкай, павешанай на кій. Цяжка было ўявіць сабе, што твае словы дойдуць да каго-небудзь з тых, для каго былі прызначаны.

Наступны прамоўца - падаюць "Ізвесція", польскі літаратар Ежы Путрамант: "Гітлераўцы прынеслі нашаму народу голад, забойствы, ствараюць вырафінаваную сістэму пераследванняў і катаванняў, нішчаць усе скарбы польскай нацыянальнай культуры, масава выдаляюць палякаў з Познаньшчыны, Памор'я, Шлёнска і іншых адвечных польскіх зямель.

... Народ Баляслава Крывавустага, народ Касцюшкі не можа застацца бяздзейным у хвілю, калі вырашаецца справа яго свабоды і гонару!..."

Мітынг ухваліў два звароты - да польскага народа і да абаронцаў Масквы.

У першым мы знойдзем заклік да польскіх жаўнераў у Англіі і Канадзе, да польскіх лётчыкаў і партызанаў. Галоўным акцэнтам звароту быў заклік да актыўнай барацьбы з гітлярызмам плячо да пляча з Чырвонай Арміяй.

Зварот да абаронцаў Масквы гаварыў пра змаганне палякаў з гітлярызмам і пра значэнне абароны Масквы для ўсяго свету, для Польшчы ў прыватнасці.

Агучылі свае прамовы, зачыталі звароты. Не ведалі, што праз пару дзён у Саюз прыязджае Сікорскі. Усё гэта падавалася мне звычайнай прапагандысцкай імпрэзай, у дадатак - з-за вялікіх адлегласцяў - праўдападобна не чутнай для краю.

Толькі сёння, пераглядаючы пажоўклы і змяты нумар "Ізвесцій", пачынаю здаваць сабе справаздачу з сэнсу ўсёй імпрэзы. Была гэта першая публічная дэманстрацыя той палітычнай плыні, якая праз паўтара гады пакліча да жыцця І дывізію і ўсё, што з яе вынікла.

Канешне, усё гэта было звязана з Сікорскім. Яно падкрэслівала вырашальную для вызвалення Польшчы ролю прымірэння і дружбы з Савецкім Саюзам. Сікорскі не ўмеў зразумець усю вагу гэтага дакументу, не патрафіў давесці свайму атачэнню, што з усіх дарог да Польшчы найкарацейшая ёсць з Усходу.

Зварот падпісалі яшчэ пару чалавек, непрысутных у Саратаве, але цалкам з ім згодных: Якуб Парнас, Уладзіслаў Краснавецкі, Адам Важык.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Вільні, выйшла кніга “Ignotas Domeika, Lietuvai, Prancuzijai, Cylei, 1802-1889. 104 ст. Наклад 1000 асобнікаў.**



**БІП - Інстытут правазнаўства і Польскі інстытут у Менску выдалі зборнік навуковых прац “Вялікае Княства Літоўскае і суседзі. Права. Вайна. Дыпламатыя”, 370 ст. Наклад 200 асобнікаў.**




**У выдавецтве Mireki (Польшча) выйшла кніга Марыяна Пагурэчнага “Жбіка” “Далінакі”, 600 ст.**




**У Менску ў выдавецтве “Харвест” выйшла кніга Віталя Чырвінскага “Беларусь у войнах. Асобы і падзеі”, 400 ст., наклад 1000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга “Захаваная памяць страчанай зямлі”, 208 ст., наклад 1000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшла кніга “Бібліятэка Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі, XVIII ст.”,**
**кн. 1 - 832 ст., накл. 500 ас.,**
**кн. 2 - 976 ст., накл. 300 ас.,**
**кн. 3 - 848 ст., накл. 300 ас.,**
**кн. 4 - 584 ст., накл. 300 ас.**



*Манумент на вайсковых могілках у лідскім Паўночным гарадку, устаноўлены ў гады 1-й Сусветнай вайны. На помніку быў надпіс: «Fur das Vaterland»*